Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 28 (4726) 19 ліпеня 2013 г.

## Пункціраму

✔ Завяршыўся візіт Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў Кітай. Бакі дамовіліся прыкласці вялікія намаганні для развіцця шматпланавага гуманітарнага супрацоўніцтва ва ўсіх сферах і на розных узроўнях, пацвердзілі адзінства або падабенства поглядаў і падыходаў да сучасных міжнародных і рэгіянальных пытанняў, выказалі гатоўнасць умацоўваць узаемадзеянне ў межах ААН, ШАС і іншых шматбаковых арганізацый. Гэта было адзначана пасля перамоў са Старшынёй КНР Сі Цзіньпінам у пашыраным складзе.

✔ Беларусь і Кітай падпісалі дакументы аб супрацоўніцтве ў сферах адукацыі і культуры. Прынята праграма супрацоўніцтва паміж Міністэрствам культуры Беларусі і бюро па кінематаграфіі Дзяржаўнай адміністрацыі прэсы, публікацый, радыё, кіно і тэлебачання КНР. Як адзначыў першы намеснік міністра культуры Уладзімір Карачэўскі, могуць быць таксама агульныя падыходы ў сумеснай кінавытворчасці. Дамова заключана паміж Пекінскай сталічнай бібліятэкай і Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі. Акрамя таго, падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве паміж саюзамі пісьменнікаў Беларусі і Кітая.

✔ У Беларусі ёсць значны патэнцыял для пашырэння сваёй прысутнасці ў Спісе Сусветнай спадчыны Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКА). Пра гэта заявіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Францыі, пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ЮНЕСКА Павел Латушка. Цяпер у Спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА ўключана чатыры беларускія аб'екты. Для параўнання: тут значацца таксама 4 аб'екты Літвы, 7 — Украіны, 14 — Польшчы, 25 — Расіі.

✔ Гісторыка-культурную і гістарычную спадчыну паўднёва-ўсходняга рэгіёна краіны прадставіць Гомельскі палацава-паркавы ансамбль на выстаўках у Славакіі і Расіі. Так, 17 ліпеня ў Музеі славацкага нацыянальнага паўстання горада Банска-Быстрыца (Славацкая Рэспубліка) адкрыецца экспазіцыя «Беларуская народная ікона» з музейных фондаў Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. У прыватнасці, будзе прадстаўлена 87 прадметаў, у тым ліку ручнікі, рукапісныя кнігі і народныя іконы Палесся (сярэдзіна і другая палова XIX ст.).

✔ Беларускаму дзяржаўнаму тэатру лялек — 75 год. На момант адкрыцця ў 1938 годзе ў яго трупе налічвалася толькі 5 чалавек. Напачатку працавалі ў Гомелі. У Мінск тэатр пераехаў у 1950 годзе. Яго візітнай карткай многія лічаць спектакль «Чароўныя падарункі» («Дзед і жораў») паводле п'есы В. Вольскага.

✔ Выстаўка жывапісу «Цені палацавай эпохі» мастачкі з Санкт-Пецярбурга Марыны Быкавай адкрылася 12 ліпеня ў палацы Румянцавых-Паскевічаў. Яе работы вызначаюцца высокім узроўнем майстэрства і прафесіяналізму. Палацавыя і паркавыя ансамблі Пецярбурга і прыгарадаў, адлюстраваныя ў смузе, выкананы ў тэхніцы «жывапіс 3D», розныя грашовыя знакі — у аўтарскай тэхніцы друку па скуры і шкле.

Падрыхтавала **Ярына РЫТАМІНСКАЯ**



*Фота БелТА*



*Беларускі праект «Дзе каліна цвіла…» прэзентавалі на «Славянскім базары ў Віцебску» яго аўтары — народны артыст Беларусі, мастацкі кіраўнік ансамбля «Сябры» Анатоль Ярмоленка, кампазітар Алег Елісеенкаў і паэт Іван Юркін (на фота), а таксама старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.*

**Чытайце на стар. 2** ▶

### Пытанне да творцы

# Ці патрэбная ў Беларусі «Фабрыка зорак»?



**Сяргей Сухамлін, кампазітар, спявак:**

— Ды не, лічу, што не трэба. І не трэба «шмат талентаў», чым заўсёды ў нас ганарацца. Таму што талентаў па вызначэнні не можа быць шмат. Прыгадайце, як раней — гадоў 20 таму — у нас было дзесьці каля двух дзясяткаў сапраўдных талентаў, якія «на вачах, на слыху», і было цікава назіраць за іх творчымі асобамі, прафесійным ростам. А цяпер на эстрадзе «талентаў», можа, каля тысячы. І працаваць з псеўда-«зоркамі» — толькі марнаваць час.

Ёсць яшчэ адзін момант — псіхалагічны. Арганізуючы «фабрыкі зорак», «акадэміі талентаў», аўтарытэтныя людзі ствараюць у спевакоў уражанне, што яны ўжо Артысты. Урэшце — гады праз 4 — 5 — маладыя выканаўца зразумее, што ніякі ён не Артыст, што яму далёка да, скажам, Ані Лорак. А час прайшоў, час згублены… Гэта глыбокая псіхалагічная траўма, я сутыкаўся з такім.

Не варта падманваць юнакоў і дзяўчат, якія, акрамя стваральнікаў «шоу», нікому не патрэбныя. Калі не глядзець, то спецыялісты гэта выдатна бачаць.



**Наталля Аўдзеева, старшыня Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры:**

— «Фабрыка зорак» — як у Маскве? Ці не будзе яна, так бы мовіць, залішняй? Увогуле, я вітаю любое мерапрыемства, якое спрыяе выяўленню новых імёнаў таленавітых людзей. Калі ж яшчэ размова ідзе пра тое, каб *ужо выяўленыя* таленты маглі дасягнуць пэўнага фармату дзякуючы падтрымцы стылістаў, мадэльераў, прадзюсараў, гукааператараў, аранжыроўшчыкаў, харэографаў і г. д., — залішнім гэта не будзе. Праца з таленавітымі маладымі выканаўцамі дзеля ператварэння іх у сапраўдных артыстаў можа толькі вітацца.



**Таццяна Атрошанка, паэтэса, кампазітар, спявачка:**

— Фабрыка зорак» не пашкодзіла б — гледзячы на тое, як шмат людзей займаюцца музычнай творчасцю. Аб'ектыўна гэта запатрабавана. Хацелася б, аднак, каб беларуская «Фабрыка зорак» была беларускамоўнай. Здаецца, тады за ёй было б цікавей сачыць, тады не было б небяспекі проста скапіраваць расійскі праект: мова пэўным чынам уплывае на фармат. Людзі, якія пішуць (спяваюць) па-руску, умоўна кажучы, «па-руску» і жывуць. Гэтаксама і з беларускай (ці з любой іншай) мовай.

І яшчэ. Песні павінны быць самыя розныя — па тальнасці, жанрах… Тады на гэтым рознакаляровым падмурку і з'явіцца цудоўная, запамінальная, «культавая» беларуская песня, якую мы ўсе чакаем.

# Песенны раман

**Заканчэнне.**
**Пачатак на стар. 1.**

Гэта нефарматны альбом песень пра вечныя каштоўнасці жыцця — любоў да роднага краю, дому, маці, павагу і глыбокую пашану да жанчыны, пра вернасць і абавязак, гонар і годнасць.

— Песні, пад якія складана танцаваць, гатаваць. Як ні дзіўна, мы хацелі, каб гэта быў нейкі позірк унутр сябе, у сваё жыццё, можа быць, у сваё мінулае. Нездарма фармат дыска — сямейны альбом. У дызайне вокладкі невыпадкова можна ўбачыць машыну, якая едзе да закінутай вясковай хаткі. Вось наша мэта — вяртанне да сваіх вытокаў, — патлумачыў кампазітар Алег Елісеенкаў.

Ідэя стварыць альбом належыць Анатолю Ярмоленку, якому Алег Елісеенкаў прапанаваў паслухаць сваю новую песню на вершы Івана Юркіна. І хоць імя нічога не казала спеваку, але калі ён услухаўся ў словы, то зразумеў, што гэта сапраўдная паэзія. І замовіў аўтару яшчэ дзевяць тэкстаў да будучых песень! Як адзначыў Анатоль Іванавіч, у кожнага чалавека ёсць куток зямлі, дзе ён нарадзіўся і куды яго будзе цягнуць усё жыццё.



Фота з сайта www.festival.vitebsk.by

Анатоль Ярмоленка выконвае новую песню на словы Івана Юркіна.

Цікава, што аўтар песень, паэт Іван Юркін, па прафесіі ваенны, генерал, займаўся антытэрарыстычнай дзейнасцю. І нават быў выпадак, калі ён прапанаваў сябе ў заложнікі замест дзяцей, якіх захапілі тэрарысты. А вершы пачаў пісаць паўтара года таму. Крыху раней — дзіцячую прозу.

— Мінулае для мяне не тое, што прайшло, а тое, што засталося ў душы, — прызнаецца Іван Захаравіч.

У альбом увайшло дзесяць песень, назвы якіх гавораць за сябе: «Вёска мая», «Салаўіны гай», «Васількаве поле», «Серабрыстыя росы», «Родны куток»... Кампазіцыі выстройваюцца ў цэласную карціну любові да малой радзімы, вытокаў, што захоплівае і ўзрушвае пры праслухоўванні ад першай і да апошняй песні. Пераканацца ў гэтым шматлікія журналісты змаглі асабіста: Анатоль Ярмоленка выканаў некалькі твораў з альбома.

— Трэба думаць не толькі пра людзей, якія займаюцца пытаннямі эканомікі, развіццём навукі, палітыкі, рашэннем пытанняў сацыяльнай сферы, але і пра «справы духоўныя». У Саюзе пісьменнікаў мы зразумелі гэта. Творам Івана Юркіна трэба было аказаць падтрымку, якая была знойдзена з боку Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і асабіста міністра Барыса Уладзіміравіча Святлова, — адзначыў старшыня СПБ Мікалай Чаргінец і дадаў: — З нагоды правядзення Дня пісьменства і падвядзення вынікаў літаратурнага конкурсу на лепшы твор года мы мяркуем, што кампазіцыі могуць прагучаць на гэтай важнай падзеі, прызнаючы абсалютную геніяльнасць паэта, кампазітара і спевака.

Творцы прызналіся, што маюць намер працягнуць сумесны праект. У пацвярджэнне народны артыст Беларусі ўпершыню выканаў кампазіцыю, якая не ўвайшла ў прадстаўлены дыск, але абавязкова будзе ўключана ў наступны.

**Таццяна ШЫМУК**

# Адкрыцці сучаснай казахскай літаратуры




*Не ведая границ: сборник произведений писателей Беларуси и Казахстана / сост. Алесь Бадак. — Минск: Издательский дом «Звязда», 2013. — 256 с. — (Созвучие сердец).*

У серыі «Сугучча сэрцаў», заснаванай сёлета ў Выдавецкім доме «Звязда», — навінка: выйшла кніга «Не ведаючы межаў», у якой прадстаўлены проза і паэзія сучасных пісьменнікаў Казахстана і Беларусі. Па традыцыі на вокладцы — беларускі і казахскі нацыянальныя арнаменты. З нашай краінай знаёміць фрагмент слуцкага пояса прыблізна 1760 года. Ёсць і парушэнне традыцыі. Казахскую частку томіка — «Мова бацькоў, мова тысячагоддзяў» — адкрывае ўрывак з рамана «Шлях Абая» Мухтара Аўэзава. Як вядома, знакаміты пісьменнік даўно пайшоў з жыцця. Але ж уся справа ў тым, што пададзены новы пераклад (аўтар перакладу — Анатоль Кім) вядомага твора. Астатнія аўтары з Казахстана — Алжас Сулейменаў, Фарыза Унгарсынава, Абіш Кекільбаеў, Мукагалі Макатаеў, Кадыр Мурзалieў, Каліхан Іскакаў, Валерый Міхайлаў, Любоў Шашкова, Аралхан Бакееў, Назікен Алпамаскызы, Нурлан Аразалін. Дарэчы, імёны не толькі знакавыя для казахскай літаратуры, але ў большасці сваёй знаёмыя сёння і ў Беларусі. Не так даўно Саюз пісьменнікаў Беларусі адзначыў медалямі «За вялікі ўклад у літаратуру» старшыню Саюза пісьменнікаў Казахстана Нурлана Аразаліна і рэдактара аддзела часопіса «Простор» Любоў Шашкову. Любоў Канстанцінаўна — наша зямлячка, з Гомельшчыны. Аўтар многіх кніг паэзіі на рускай мове. Актыўна распрацоўвае ў сваёй творчасці і беларускую тэму. Алжас Сулейменаў нядаўна правёў у Мінску свой творчы вечар. Валерый Міхайлаў удзельнічаў у круглым стале «Мастацкая літаратура як шлях адзін да аднаго» падчас Дня беларускага пісьменства ў Смаргоні. Пераклады дзіцячай паэзіі Фарызы Унгарсынавай нядаўна былі надрукаваны ў своеасаблівай «анталогіі дружбы», якую падрыхтаваў Мікола Чарняўскі.

Што хвалюе казахскіх паэтаў, празаікаў? Што складае праблемна-тэматычную аснову іх сённяшняй творчасці? Вельмі выразна выяўляецца памкненне пабрацімаў Абая і Мухтара Аўэзава разгледзець асновы маральнага жыцця, нагадаць сучасніку пра пагрозы бездухоўнасці, страты, якія нясе чалавецтву адно толькі пагоня за заваёвамі тэхнакратыі. Эканамічныя вышыні, бліскучыя вежы, зіхоткія маякі багацця не заменяць душэўныя, сардэчныя памкненні. Трывожна разважаюць пра гэта паэты і празаікі далёкага і блізкага Казахстана.

Поруч з творамі казахскіх сяброў-літаратараў — апавяданні і вершы беларускіх аўтараў: Янкі Сіпакова, Анатоля Сульянава, Уладзіміра Скарынкіна, Уладзіміра Саламахі, Міхася Пазнякова, Алены Брава, Валерыя Грышкаўца, Анатоля Андрэева, Любові Турбінай.

**Максім ЖАЛЕЗІНКА**

# Вяртанне святыні

**Юзэфа ВОЎК**

Кніга «Дзмітрый Струкаў. Альбом малюнкаў. 1864 — 1867», якая пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі», пасля доўгіх гадоў забыцця дапамагла вярнуць Ікону прасвятой Багародзіцы Гарбацэвіцкай.

Святыня была ўзноўлена па малюнку мастака і архітэктара Дзмірыя Струкава, змешчаным у выданні серыі «Энцыклапедыя рарытэтаў». Гэта адзіная выява іконы, што захавалася. Святыня калісьці знаходзілася ў Рызапалажэнскай Багародзічнай царкве мястэчка Гарбацэвічы Мінскай епархіі. Паводле падання, яна з'явілася праваслаўным у канцы XVII — пачатку XVIII стагоддзя на ліпавым дрэве. На месцы з'яўлення быў пабудаваны храм. На жаль, апісанне цудаў іконы было страчана ў час вайны 1812 года.

Вяртанне Іконы прасвятой Багародзіцы Гарбацэвіцкай стала асноўнай падзеяй Прастольнага свята храма ў гонар Палажэння Рызы Прасвятой Багародзіцы. Так, вернікі прайшлі хросным ходам ад Іверскага храма, што ў Бабруйску, да Рызапалажэнскай царквы ў аграгарадку Гарбацэвічы. Ікону Божай Маці асвяціў Праасвяшчэнны Серафім, епіскап Бабруйскі і Быхаўскі.

# Містычная фатаграфія

У Гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва распачалася выстаўка фотаработ Уладзіміра Суцягіна «Суізіранні». Яна будзе доўжыцца месяц, а па заканчэнні прыхільнікаў фотамастацтва чакае прэзентацыя ўнікальнага альбома-кнігі аўтара «Сустракаючы святло».



Цікава, ці прадбачылі ў XIX ст., што фота будзе здольнае на шчыры дыялог-сінтэз з жывапісным мастацтвам? Спачатку ж фатаграфія з ім канкурыравала! Ад пачатку фатаграфічнай эры шлях да «фотажывапісу» заняў амаль паўтары сотні гадоў, але арганізатары выстаўкі сцвярджаюць, што ён нашмат даўнейшы, калі брацъ пад увагу спалучэнне жывапісу і... містыкі. Менавіта такі «фотаракурс» абраны У. Суцягіным.

З дапамогай фотакамеры, святлоэфектаў (натуральных), асаблівасцей ландшафту і перспектывы, «дэкаратыўных» прыёмаў апрацоўкі фотастужкі і фотапаперы мастак фіксуе сваё бачанне фізічнай прасторы. Імкнецца ўспрымаць яе па-за часам, у святле біблейскіх каштоўнасцей і тэм. Шукае не эфектаў, але сэнсаў або іх адбіткаў у акаляючым свеце.

Паколькі эмацыянальнае, фантазійнае, рэфлексійнае бачанне не з'яўляецца дакладным, рэалістычна-фатаграфічным, выява набывае характар жывапіснага палатна. Пікталыяльнае фота — такую навуковую назву мае гэтая з'ява. Магчыма, здаецца, дадаць і такое азначэнне: фота імпрэсіяністычнае. Памятаючы гісторыю адпаведнага жывапісу, можна прагназаваць фотакампазіцыям Уладзіміра Суцягіна неверагодны поспех з папраўкай на непараўнальную колькасць эстэтычных з'яўсення і ў 1870 — 1880-я гады.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

## *Абрысы*

Вечар памяці выдатнага паэта і чалавека Юрыя Сапажкова адбыўся 11 ліпеня ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы. Цёплым словам згадалі Юрыя Міхайлавіча яго сябры і калегі: Таццяна Шпартава, Алег Ждан, Валянцін Маслюкоў, Мікола Шабовіч, Дзмітрый Пятровіч, Мікола Кандратаў, Лізавета Палеес, Таццяна Лейка ды іншыя. Прысутныя пабачылі прысвечаныя творцы тры дакументальныя кінастужкі 2002, 2005 і 2009 гадоў выпуску.

Яшчэ адно важкае слова ў коласазнаўстве. Дзейнасць нашага славутага Песняра досыць шматгранная, багаты творчы здабытак нацыянальнага паэта. 22 ліпеня Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа запрашае на выстаўку «Якуб Колас у эміграцыйным друку», прысвечаную шостаму З'езду беларусаў свету. Адкрыццё выстаўкі адбудзецца а 14-й гадзіне па адрасе: г. Мінск, вул. Акадэмічная, 5.

У партрэтнай зале Мірскага замка 26 ліпеня а 15-й гадзіне адбудзецца ўрачыстае адкрыццё выстаўкі мастацкіх твораў «Навагрудскі край вачыма Канута Русецкага», якая падрыхтавана музеем «Замкавы комплекс «Мір» сумесна з Бібліятэкай Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх. Будзе прадстаўлена 27 эскізаў і малюнкаў славутага мастака XIX стагоддзя, сабраных ў альбоме.

Значная частка з калекцыі графічных і акварэльных малюнкаў была зроблена мастаком падчас падарожжа праз Навагрудак, Нясвіж, Сноў і Мір у 1844 г. У альбоме прадстаўлены мала вядомы ў Беларусі малюнак з выявай Мірскага замка.

Нясвіжскі палацава-паркавы ансамбль запрашае на выстаўку «Падарожжа ў часе», якая будзе праходзіць з 26 ліпеня па 25 кастрычніка. Наведвальнікі экспазіцыі атрымаюць магчымасць пазнаёміцца з унікальнымі калекцыямі камінных, насценных, настольных, кішэнных і наручных гадзіннікаў XVII — XX стст. Экспанаты выканаы вядомымі еўрапейскімі майстрамі, сярод якіх прыдворны майстар караля Людовіка XVI Жан Лепін, П'ер Тамір — майстар гадзіннікаў імператара Напалеона Банапарта. Гомельскі палацава-паркавы ансамбль мае самую вялікую калекцыю гадзіннікаў на тэрыторыі Беларусі. У ёй сабраныя аўтэнтычныя экспанаты, якія ў свой час належалі ўладальнікам сядзібнага комплексу — сям'і Паскевічаў.

# Золата «Славянскага базару»

Лепшыя работы з калекцыі Даўгаўпілскага Арт-цэнтра імя Марка Ротка (Латвія) прадстаўлены на выстаўцы «GOLD», якая адкрылася 13 ліпеня ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі.

**Таццяна ШЫМУК**

Даўгаўпілс ганарыцца сваім земляком. Больш як 10 гадоў у гэтым латвійскім горадзе праходзяць міжнародныя пленэры імя Марка Ротка. Па традыцыі напярэдадні дня нараджэння сусветна вядомага мастака працы ўдзельнікаў пленэру выстаўляюцца ў межах Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».

Для развіцця эканамічных і культурных сувязей паміж Латвіяй і Беларуссю вялікія намаганні прыкладае Консульства Латвіі. Гэтая выстаўка адбылася таксама дзякуючы падтрымцы консула-кіраўніка Консульства Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Дагніі Лацэ-Ата. Вітаючы гасцей, консул назвала Віцебск горадам вельмі шырокай культуры. Падзякавала супрацоўнікам Арт-цэнтра Марка Ротка за тое, што пагадзіліся прывезці частку сваёй залатой калекцыі, а Віцебскаму краязнаўчаму музею — за тое, што прыняў калекцыю ў час «Славянскага базару». Госці фэсту змаглі не толькі пачуць, але і ўбачыць культуру!

Фонд Даўгаўпілскага Арт-цэнтра імя Марка Ротка штогод няўхільна папаўняецца: на кожным Міжнародным пленэры мастакі прыносяць у дар па адной сваёй карціне. Калекцыя сучаснага выяўленчага мастацтва налічвае ўжо больш як 500 жывапісных, графічных і керамічных работ.

Пад мелодыі прафесійнага духавога аркестра «Даўгава» Даўгаўпілскага цэнтра латышскай культуры наведвальнікі змаглі ацаніць працы мастакоў дзесяці краін свету: Пітэра Грыфіна (Вялікабрытанія), Вайдотаса Януліса (Літва), Івоны Завадска (Польшча), Лігі Юкша (Латвія), Яўгена Гетманца (Украіна), Іветы Лаурэ (Латвія), Дацэ Гайле (Латвія), Хэйдана П (Петэрсана, Данія), Мінаса Халала (ЗША), Лайла Карбаяла (ЗША), Фіёны Стэнбэры (Вялікабрытанія), Джакопа Джынанэскі (Італія), Евы Арут (Арменія), Дзілвіна Сміта (Вялікабрытанія), Ілзэ Валонтэ (Латвія) і, што асабліва прыемна, творы нашых суайчыннікаў — Віктара Нікалаева і Аляксея Літвіна.



*Дацэ Гайле (Латвія) «Паглядзі вакол», 2011.*

Кожны мастак імкнецца адлюстраваць не толькі рэальны прадметны свет, але і ўнутраны стан. Пры дапамозе святла, рытму, плоскасцей і мазкоў на палатне нараджаецца гарманічная прастора, пераўтвараючы свет рэальны ў свет пачуццяў.

# Вішнёвы фэст

**Раіса МАРЧУК**

Глыбокае сёння жыве ў прадчуванні незвычайнага свята: 21 — 27 ліпеня ў старажытным горадзе пройдзе «Вішнёвы фестываль», арганізатарам якога выступіў Глыбоцкі райвыканкам.

Фэст, несумненна, стане традыцыйным: вішня — даўні сімвал раёна, які ўпрыгожвае ўсе гарадскія і вясковыя вуліцы, сядзібы і лецішчы. Мясцовыя садаводы ў даўнія часы вывелі ўласны гатунак — «Вішня глыбоцкая».

У праграме прадугледжаны «вішнёвы кірмаш», «вішнёвае шэсце», кулінарны конкурс «Вішнёвае захапленне», конкурсы «вішнёвай ікебаны», «вішнёвых сувеніраў», гумарыстычная «вішнёвая эстафета», адкрыццё «помніка вішні», «вішнёвы пленэр» юных мастакоў ды іншыя вясёлыя і смачныя конкурсы, паведаміла намеснік старшыні Глыбоцкага райвыканкама па сацыяльных пытаннях Галіна Унуковіч. Да ўдзелу запрашаюцца беларускія і замежныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, прадпрыемствы харчовай прамысловасці, грамадскага харчавання, аграэкасядзібы і агратурыстычныя комплексы, народныя майстры і рамеснікі, а таксама фальклорныя калектывы.

# Мастацтва імпрэсіянізму

У Мастацкім музеі Віцебска праходзіць выстаўка «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі», якая знаёміць з творчасцю 14 ураджэнцаў Беларусі, што працавалі ў французскай сталіцы ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя.

Як патлумачыла навуковы супрацоўнік музея Людміла Малашчанка, арт-праект раней з вялікім поспехам прайшоў у Мінску і Гомелі, але ў Віцебску ён прадстаўлены ў самым «зорным» складзе. Усяго ў экспазіцыі 56 работ, з іх 27 — з калекцыі «Белгазпрамбанка», 19 — з прыватных збораў і 10 — з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея ў Мінску.



*Хаім Суцін «Вялікія лугі ў Шартры», 1934 г..*

У экспазіцыю ўвайшло шэсць жывапісных і графічных твораў Марка Шагала: «Закаханыя» (1981), «Прывід Апакаліпсісу» (1967), «Крыжовы шлях» (1967), «Акрабаткі на кані» (1959), «Аўтапартрэт» (1973) і «Якаў і анёлы» (1980).

Карціна «Закаханыя» — адна з жамчужын карпаратыўнай калекцыі «Белгазпрамбанка». Вялікі майстар, ураджэнец Віцебска, стварыў яе ў 94 гады. У гэтым шэдэўры сабраны разам усе «фірмовыя» знакі Шагала: букеты, бестыярыюм, родны горад і закаханыя, што лунаюць над ім.

У адной зале з работамі Шагала экспануюцца палотны і яго вялікага настаўніка — Юдэля Пэна, «Школа малявання і жывапісу» якога была першай прыватнай мастацкай навучальнай установай у Беларусі. Школа-майстэрня была адкрыта ў Віцебску ў лістападзе 1897 г., існавала ў тых ці іншых формах амаль 40 гадоў. Творчасць Ю. Пэна на выстаўцы прадстаўлена дзвюма работамі — аўтапартрэтам і партрэтам юнага Марка Шагала.

Віцебская экспазіцыя адрозніваецца ад мінскай і гомельскай тым, што тут можна ўбачыць яшчэ адно з самых цікавых палотнаў у калекцыі «Белгазпрамбанка» — карціну Хаіма Суціна «Вялікія лугі ў Шартры». Гэтая праца пасля экспазіцыі ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь знаходзілася на рэстаўрацыі.

Акрамя таго, арт-праект у Віцебску прадстаўляе і новае імя — упершыню ў Беларусі дэманструецца карціна Рыгора Глюкмана «Аголеная». Гэты твор «Белгазпрамбанк» нядаўна набыў на аўкцыёне «Крысціс» у Лондане. Рыгор Глюкман нарадзіўся ў Віцебску, і вельмі сімвалічна, што першымі карціну самабытнага майстра ўбачылі на яго малой радзіме.

Гледачы ў віцебскім Мастацкім музеі таксама адкрыюць для сябе творчасць такіх мастакоў, як Міхаіл Кікоін, Пінхус Крэмень, Восіп Цадкін, Якаў Балглей, Восіп Любіч, Яўген Зак, Роберт Генін, Сэм Царфін і інш.

Выстаўку «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі» ў Віцебску можна наведаць да 30 ліпеня. Далей яе плануюць правезці па ўсіх абласных цэнтрах нашай краіны.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

# Музы ў палацы Румянцавых-Паскевічаў

**Лея ХАШЫМБА**

Славуты палац у Гомелі стаў гасцінным дахам для дзвюх мастацкіх выставак. Жывапіс Уладзіміра Кожуха і скульптура Сяргея Бандарэнкі абагулены назвай «Чыстае, светлае, роднае». Скульптура Аляксея Лявонава — пад тытулам «Па закліку прыгажосці».

Першая выстаўка невыпадкова здвоеная: работы мастака Кожуха і скульптара Бандарэнкі сапраўды маюць пэўную агульнасць. Яны засяроджаныя на міфічных, казачных, часам фэнтэзійных матывах — урэшце ствараюць адчуванне цуду. Да таго ж вытанчанае ліццё і бронза ўдала дапаўняюць лірычны, далікатны, бязважкі жывапіс. Беларуская рэчаіснасць, прыроднае ўлонне Бацькаўшчыны (матэрыял карцін У. Кожуха) на фоне ўніверсальных скульптурных выяў (пераважна коней) паўстае больш акрэсленым, трывалым, грунтоўным.



*Аляксей Лявонаў «Тая, хто нясе святло».*

Абодва мастакі — прызнаныя майстры, іх работы знаходзяцца ў музеях і прыватных калекцыях па ўсім свеце.

Невыпадкова скульптура Аляксея Лявонава экспанаваная асобна: асноўная яе тэма — прынцыпова іншая. Яна адлюстроўвае цікавасць аўтара да свету філасофіі, гісторыі рэлігіі і культуры. Адпаведна, гомельскія гледачы сустрэнуцца з увасобленымі ў гліне постацямі філосафаў, паэтаў, духоўных Настаўнікаў чалавецтва: Ісусам Хрыстом, Будам, Крышнам, Канфуцыем, Лаа Цзы, царом Саламонам, Жаннай д'Арк, Леанарда да Вінчы і інш.

Цёплы пластычны матэрыял, з якога выпрацаваныя скульптурныя творы, набыў у руках мастака не толькі форму, абрыс, але і стаў чымсьці накшталт ніці Арыядны. Праз розныя культуры і эпохі яна вядзе нас да ўсведамлення еднасці чалавецтва і каштоўнасцей, на якіх яно грунтуецца.

Сенсацыйную знаходку адшукалі археолагі падчас раскопак ля сцен Быхаўскага замка. Малюнак раней невядомага герба роду Сапегаў — аднаго з самых магутных у Вялікім Княстве Літоўскім. Герб былога ўладальніка Быхаўскага замка цяпер змогуць вывучаць знаўцы айчыннай геральдыкі. Малюнак выкананы на кафлі XVII стагоддзя, якая захавалася ў ідэальным стане. Другі варыянт герба — каляровы — навукоўцам давялося збіраць з фрагментаў.

Другі беларускі рэспубліканскі пленэр мастацкага аб'ёмнага тэкстылю адкрываецца сёння а 17-й гадзіне ва ўнутраным дворыку Палаца мастацтва ў Мінска. Творы з першага пленэру 2012 года перажылі пяць выставак: непасрэдна на пленэры ва ўнутраным дворыку, затым у зале Палаца мастацтва ўвосень мінулага года, на адкрыцці Міжнароднага кінафестывалю «Лістапад-2012» у Палацы Рэспублікі, у адным з тэатраў Мінска і на сумеснай беларуска-швейцарскай імпрэзе ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Бліжэйшы паказ тэкстылю-2013 адбудзецца па запрашэнні арганізатараў у новым выставачным цэнтры ў Віцебску ў жніўні. У пленэры бяруць удзел мастакі з Мінска, Віцебска, Брэста, Баранавіч, Магілёва ды іншых гарадоў Беларусі.

Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага, Гуманітарны цэнтр даследаванняў Усходняй Еўропы (г. Гродна) і Інстытут гісторыі НАН Беларусі правялі Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю «Беларусь — Літва — Польшча: дыялог народаў і культур». У працы канферэнцыі ўзялі ўдзел каля 50 чалавек з 5 краін (Беларусь, Літва, Польшча, Расія, Украіна). Разглядаліся пытанні эфектыўнага ўключэння культурнай спадчыны Беларусі і культурнай традыцыі народаў-суседзяў у сумесную дзейнасць органаў кіравання, бібліятэк, музеяў, архіваў, навуковых і адукацыйных устаноў, СМІ, а таксама магчымасці развіцця і прапаганды гісторыка-пазнавальнага турызму.

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы падрыхтаваў некалькі міжнародных праектаў. У Хельсінкі днямі завяршылася выстаўка «Над Іматрай», у аснове якой — творы Янкі Купалы, напісаныя ім падчас падарожжа па Фінляндыі ў 1910 годзе. Фіны змаглі таксама азнаёміцца з афортамі, літаграфіямі, лінагравюрамі беларускіх графікаў Арлена Кашкурэвіча, Георгія Паплаўскага, Васіля Шаранговіча, Міхася Басалыгі і Барыса Заборава, якія ў розныя гады ілюстравалі паэмы і п'есы нацыянальнага класіка. 16 ліпеня ў Калінінградзе ў абласным гісторыка-мастацкім музеі адкрыўся міжнародны выставачны праект, прысвечаны жыццю і творчасці Янкі Купалы ў гады Першай сусветнай вайны.

# Лісты з архіва

Сёлета спаўняецца сто год з дня нараджэння Сяргея Грахоўскага. Да юбілею рыхтуецца кніга ўспамінаў у Выдавецкім доме «Звязда», публікацыі ў літаратурнай перыёдыцы. Пакуль жа «ЛіМ» прапануе чытачам невядомы рукапіс Сяргея Іванавіча, адшуканы і падрыхтаваны да друку яго дачкой Таццянай Грахоўскай. У сваім суправаджальным слове Таццяна Сяргееўна распавядае пра знаходку.



Сяргей Грахоўскі. На пачатку 1970-х.



Душанбэ. 1965 г. ..., С. Грахоўскі, І. Шамякін, Е. Лось, ..., Я. Скрыган.



З дачкой Таццянай ў Мінску. 1955 г.

Я шукала ў архіве нешта раней не друкаванае і цікавае, вартае паважанага і любімага бацькам «ЛіМа», дзе без адтэрміноўкі прымалі яго вершы. Разумелі, што ў такім узросце аўтар можа не дачакацца. Апошнія гады, расказвалі супрацоўнікі, ён прыходзіў звычайна са словамі: «Усё, хлопцы, гэта мае апошнія вершы». «Сустрэнемся яшчэ, прыходзьце, Сяргей Іванавіч!» — адказвалі яму прыкладна так.

Мае доўгія пошукі не былі марнымі. Няскончанае эсэ «Па выкрасленых адрасах» (1999) — пра «Горад цудоўны юнацтва майго…», пра першыя, амаль выпадковыя, крокі ў новае жыццё 43-гадовага аўтара, пра ўдзячнасць знаёмым і незнаёмым літаратарам, якія працягнулі яму добразычлівую руку.

А калі я завяршыла «расшыфроўку» і пера друк няскончанага рукапісу «Па выкрасленых адрасах», мне трапіла «Несказанае слова» (да пленума СП, 1988 г.), якое здалося не менш цікавым і прызначаным менавіта «ЛіМу». Яно паказала, якія вялікі, багаты, плённы шлях прайшоў вядомы аўтар. Яго сціслы агляд становішча нашай літаратуры на працягу амаль цэлага ХХ стагоддзя, думаю, будзе цікавым не толькі літаратарам.

**Таццяна ГРАХОЎСКАЯ**

## НЕСКАЗАНАЕ СЛОВА

*(рукапіс з архіва аўтара)*

Двойчы збіраўся ў мінулым годзе выступіць на пленумах Саюза пісьменнікаў, ды так і не сабраўся. Прычыны розныя. А несказанае рупіць да гэтае пары. Я часам сам сабе прагаворваю розныя варыянты тае прамовы; хаджу і мармычу сам сабе. Часам азірнуся: даўні паталагічны страх палохае і цяпер. Ці не занадта гэта? Ці можна так?

За многія дзесяцігоддзі нас так адвучылі ад шчырасці і праўды, што мы часта хлусілі самі сабе і азіраліся, думаючы пра тое, што ўсе цяпер пішуць і гавораць на поўны голас. І так мы знемагліся ад двайстасці — думаць адно, гаварыць другое. І колькі ж нагаворана пустапарожняй непатрэбшчыны, колькі спісана паперы на стэнаграмы, пратаколы, справаздачы. Бывала, глядзіш па тэлевізары праграму «Час» — і такое ўражанне, што ніхто не працуе, а ўсе засядаюць і дружна галасуюць. Уся краіна вывучала «трылогію», невядома кім напісаную, яе адразу пераклалі на ўсе мовы і выдалі масавымі тыражамі. Разумныя і паважаныя людзі спявалі такія панегірыкі, што сумленнейшым з іх, мабыць, і цяпер сорамна за свае … і крывадушша. Што імі рухала? Прага да забяспечанасці, штодзённых выгод, званняў, пасад, узнагарод і прэмій. Яны беспамылкова цалялі ў яблычка і заклікалі ўсіх пісьменнікаў вучыцца майстэрству на ўзорах усё той жа «трылогіі». А як мы прывучыліся па дзесяць разоў уставаць на розных сходах і пасяджэннях, сумяшчаючы палітыку з гімнастыкай.

Мяне прасілі адказаць на два пытанні, меней, чым у білеце на атэстат сталасці. А як падумаў, спалохаўся: гэта ж трэба расказаць пра сваё доўгае жыццё ў літаратуры. А ці яно ўжо такое доўгае?

Ітак, пытанні:

— Час прыходу ў літаратуру. Погляд на літаратуру таго часу.

— Погляд цяпер.

Спачатку літаратура прыйшла да мяне і ўвайшла ў душу на ўсё жыццё. Як толькі пачаў разумець слова, зачаравала калыханка, яна прыносіла дзівосную яву і чароўныя сны. Потым да слёз, да шчымлівага болю вярэдзілі сэрца д-о-о-ўгія жніўныя песні, з падгалоскамі, з нявыплаканым болем жаночай тугі і пакут. Доўгімі зімовымі вечарамі трывожылі і будзілі фантазію страшныя і вясёлыя казкі і вершы. Напеўнасць паэтычнага радка, звонкія сугуччы вобразнага слова, нечаканае параўнанне і думка вялі ў свет летуценняў, будзілі фантазію, і я пачаў жыць у двух вымярэннях — у рэальным галодным дзяцінстве і ў дзівосным свеце фантазіі. З вуснаў малапісьменнай мамы пачуў: «Буря мглою небо кроет, вихри снежные крутя» і «В песчаных степях аравийской земли три гордые пальмы высоко росли». Потым па хрэстаматыі Вахцерава адкрываў для сябе Някрасава, Нікіціна, Кальцова, Пляшчэева, Фета. А калі ў школе загучала да таго нячутае «Магутнае слова, ты, роднае слова! Са мной ты на яве і ў сне; Душу мне затрэсла пагудкаю новай, Ты песень навучыла мяне!..» Мы адкрывалі дзівосны свет Купалы, Коласа, Багдановіча, Гаруна, Бядулі, Гартнага. А потым… потым уварваліся ў нашы душы маладнякоўцы: Чарот, Дубоўка, Пушча, Трус, Дудар, Александровіч. Яны былі зусім блізкія, зразумелыя, свае, гаварылі пра зразумелае і надзённае. Мяне зачаравала таямнічасць, загадкавасць, маляўнічая метафарычнасць вершаў Дубоўкі і Пушчы, а "Дзесяты падмурак" Труса, як прываротнае зелле, узяў мяне ў сваю ўладу. З тае пары, вось ужо 61 год, памятаю яе з першага да апошняга радка.

І так хацелася самому выказаць тое, што не месцілася ў сэрцы, што акрыляла душу самымі светлымі надзеямі. Хацелася, але не хапала адвагі ўзяцца за пяро. Здавалася, вершы пішуць незямныя істоты, людзі незвычайныя, пазначаныя незвычайным лёсам. Я чытаў усё, што трапляла ў рукі: «Звязда», «Савецкая Беларусь», «Чырвоная змена», «Беларуская вёска». Некалькі разоў на месяц друкавалі літаратурныя старонкі, выдавалі літаратурныя дадаткі «Чырвоны сейбіт» і «Сталёвы ўзлёт», бабруйскі «Камуніст» — «Вясну». У кожнай акрузе былі філіі «Маладняка» і выдаваліся альманахі.

Уся моладзь была захоплена літаратурным жыццём рэспублікі, зачытвалася раманамі Зарэцкага, Чорнага, Мурашкі, а Коласава аповесць «На парозе жыцця» была нашым неразлучным спадарожнікам. Мы сачылі за літаратурнымі спрэчкамі, размежаваннем творчых арганізацый і груп.

Я пачаў нешта пісаць у маладнякоўскім стылі і адважыўся паслаць у рэдакцыю часопіса «Беларускі піянер». Адразу адгукнуўся вельмі ўважлівы Алесь Якімовіч. З рэдакцыі «Камуніста» прыходзілі падрабязныя лісты Міхася Лынькова, і час ад часу ў друку пачалі з'яўляцца выпраўленыя, скарочаныя вершы за маім подпісам.

Актыўнымі аўтарамі «Беларускага піянера» былі Кастусь Шавель, Юлі Таўбін, Алесь Розна, Змітрок Астапенка. Усіх нас Якімовіч звязаў перапіскаю. Мы абменьваліся лістамі, вершамі, фотакарткамі, парадамі і крытычнымі заўвагамі. Яшчэ школьнікам часта пачаў друкавацца ў бабруйскай «Вясне», з 1931 года ў «Маладняку», «Чырвонай змене», «Беларусі калгаснай», «Звяздзе», «Чырвонай змене», «Калгасніку Беларусі» (прадаўжальнік «Беларускай вёскі»). Стаў членам БелАППа, але ад гэтага вершы не палепшалі: былі яны прымітыўныя, перааймальныя, неглыбокія па зместу і слабыя па форме. Тое сваё калялітаратурнае існаванне 20 — 30 гадоў не лічу і не магу лічыць сваім прыходам у літаратуру. Гэта была толькі спроба сіл, вучнёўства, першыя крокі да сябе самога.

Але ў 1936 годзе нехта мяне залічыў у сур'ёзна «небяспечныя» літаратары і адправіў аж на 10 гадоў перавыхоўвацца на лесасеках і пагрузках далёка ад дому і родных мясцін. І там я не пакінуў марыць пра літаратуру. Не маючы магчымасці пісаць, я мармытаў асобныя строфы і вершы, а ў часе Айчыннай вайны ў бараках і на лесасеках пісаў баявыя патрыятычныя вершы і чытаў іх сябрам па агульным няшчасці і горкім лёсе.

Мяне пытаюць, як я глядзеў на літаратуру таго часу. Маюцца на ўвазе 20 — 30 гады.

Рэвалюцыя адкрыла шмат талентаў з народных нізоў. Ім не хапала адукацыі, ведаў, культуры, вопыту, але было неўтаймоўнае жаданне несці рэвалюцыйнае слова свайму народу, няхай недасканалае, не заўсёды дакладнае, але шчырае і страснае.

Калі б не вынішчалася беларуская літаратура ў 1930, 1933, 1936-37-38 гадах, калі б на поўную сілу разгарнуліся таленты Чорнага, Жылкі, Зарэцкага, Чарота, Гартнага, Каваля, Мікуліча, Шашалевіча, Нікановіча, Сташэўскага, Калюгі, Дубоўкі, Дудара, Пушчы, Астрэйкі, Астапенкі, Таўбіна, Маракова, Кляшторнага, Хадыкі і дзесяткаў маладых празаікаў і паэтаў, якія яшчэ не паспелі на поўны голас заявіць пра сябе, наша літаратура была б адной з багацейшых, цікавейшых і таленавіцейшых літаратур Савецкага Саюза. Знішчана самае сумленнае і таленавітае.

Па сённяшніх мерках і крытэрыях многае, чым мы тады захапляліся, недасканалае і наіўнае, але сагрэтае шчырым і чыстым сумленнем. Ды і чытачы ў сваёй большасці мелі адукацыю не вышэй школы сялянскай моладзі. Кожнае выданне тае пары — дарагі нашай памяці дакумент і сведчанне творчага ўзлёту вызваленага Кастрычнікам таленавітага народа.

Сваім прыходам у літаратуру лічу першыя гады пасля сапраўды гістарычнага ХХ з'езда КПСС. З 1956 года я пачаў актыўна друкавацца ў перыёдыцы, а першая кніжка вершаў выйшла ў саракапяцігадовым узросце.

За 30 апошніх гадоў выдадзена больш за сорак маіх кніжак паэзіі, прозы, публіцыстыкі і твораў для дзяцей. Не ўсе яны раўназначныя і раўнацэнныя. Пра самае галоўнае ў маім жыцці, пра бачанае і перажытае мне так і не ўдалося расказаць не па маёй віне. Цяпер, калі настала пара адкрытасці, галоснасці і праўды, наўрад ці хопіць сіл і часу, каб хоць трошачкі запоўніць гэты прагал у літаратуры.

У пасляваенную пару ў нашу літаратуру прыйшло новае таленавітае, адукаванае пакаленне празаікаў і паэтаў. Кожны год адкрывае новыя імёны і творы неардынарных, арыгінальных, зоркіх і нястомных, прынцыповых, заклапочаных нашымі надзённымі праблемамі літаратараў.

Вялікі гонар усяму нашаму народу, што да слова беларускіх пісьменнікаў прыслухоўваюцца ва ўсёй нашай краіне і ў свеце. Я шчаслівы, што жыву і працую ў меру сваіх магчымасцей поплеч з імі.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

*БДАМЛМ,*

*фонд 201, вопіс 3, спр. 51, л. 1—5*

# Ад «Пелі» да «Дзікага Лугу»

## ЗАКОНЫ ЛОГІКІ І ЗАКОНЫ ТВОРЧАСЦІ

«Адгадкі» намераў Андрэя Федарэнкі, падаецца, пераўзышлі тэкставую прастору напісанага ім. Вось і пра «Дзікі Луг» ужо і шараговы чытач хоча ўставіць сваё слоўка.

Ураджанне было як ад засведчанага Цуду. Яго не вытлумачваеш, а прымаеш з удзячнасцю. «Дзікі Луг», як і многія іншыя творы А. Федарэнкі, немагчыма выверыць жыццёвым досведам — у іх перадусім *духоўны досвед* галоўных герояў.

Подступы да вырашэння такой звышзадачы зроблены ім у выдатным апавяданні «Пеля», з якім у пачатку 90-х выйграў Усесаюзны конкурс на лепшае апавяданне, аб'яўлены СП СССР. Найвышэйшага ўзроўню абагульнення і вырашэння звышзадачы пісьменнік дасягнуў, бадай, у аповесці «Вёска». У ёй мноства сэнсавых зон, адна з іх пра пакутлівы шлях чалавека да Храма — да Бога, да «Таго, Хто нібыта глядзіць зверху».

Настрой «расчуленасці, замілавання жыццём, настрой веры» ўсведамляецца Васкевічам як Цуд. Герой баіцца, што гэты настрой можа згаснуць, нібы агеньчык. Прыйшло жаданне змен і яснае разуменне таго, што трэба «самому спрабаваць штосьць змяніць. Толькі што? Як?!» І вось дзён праз колькі прыдумалася, што і як. Моцна захварэла маці…

## ЯШЧЭ АДЗІН ШАНС

Азарэнне Васкевічавай маці закрыта для чытача. Як, дарэчы, і азарэнне Махновачкі: «Што там [у царкве] было, што яна ў каго прасіла, невядома, але вярнулася яна і праўда змененая…»

У «Вёсцы» эфект, без перабольшвання, катарсіснага ўздзеяння дасягаецца парадаксальным спалучэннем неспалучальнага. Ствараецца трагікамічная, лубачная сітуацыя кшталту «Глядзі ж, хай толькі ўтопішся — дадому не вяртайся!»

У трох эпізодах, калі маці «была на дзіва ласкавая», у яе словах і паводзінах вонкава адсутнічае элементарная логіка, парушаюцца прычынна-выніковыя сувязі: «Галодны сынку? Ідзі ў хату, я хуценька супчыку гарачага дам. <…> Еж, бо гэта той Валер Надзін утапіўся…»

Узрушэнне маці ад чарады людскіх трагедый, ад якіх ніхто не абаронены, было настолькі моцным, што вымкнула выратавальнай… хваробай у самы разгар спякотнага лета. Адбылося ачышчэнне ад маргнага, мітуслівага, яно саступіла месца ўдзячнасці за ўрок, знак, папярэджанне. І «настаў дзень, які не забываюцца…»

Безыменнаму герою апавядання «Бунін-Марцінкевіч», маладому «раскрыжаванаму» пакутніку, перад сконам таксама адкрыўся Цуд. Адкрыліся існы, якія ён апантана прамаўляе сваім супалатнікам. Міжвольныя слухачы «пакуль нават не здагадваюцца, што варта было б запісваць усё чутае, у крайнім выпадку запамінаць, бо такі чароўны і разам з тым просты рэцэпт ашчаслівлення чалавецтва можа прапасці. <…> Міжволі хочацца думаць і верыць, ці не Усявышні гэта вырашыў лішні раз злітасцівіцца з неразумных людзей, даць ім яшчэ адзін шанс, і спусціў да іх з нябёсаў свайго чарговага пасланніка…»

У гэтай цытаце, мяркую, ключ да разумення сэнсавых узроўняў «Дзікага Лугу».

## ПАСЛАННІКІ НЕБА

Звычайных людзей бяда лепшымі не робіць, а выяўляе іх горшыя якасці: такая ахоўная рэакцыя арганізма. Спрацоўвае інстынкт самазахавання. І ўсе навокал такіх разумеюць: спагадаюць, дапамагаюць. А ў «Дзікім Лузе» — пра тое, што «смерць сына выявіла не горшыя якасці Кулінічаў, а лепшыя…» Надзеленых праз бяду, паводле Дастаеўскага, «избыточной человечностью» звычайныя людзі не разумеюць. А чаго не разумеюць, таго баяцца.

Ад Махновачкі «ўцякалі, або зачыняліся, затойваліся», гналі, калі бегла, спатыкаючыся, памагаць: «пайшла чутка, што яна ходзіць красці». Рагаталі падлеткі, набіраючыся ад Грыгора «блатной мудрасці», слухаючы яго байкі «пра Махноўку». І апускаліся «ўсё ніжэй, ніжэй, ніжэй…»

Дарам выяўляць у бядзе найлепшыя якасці надзеленыя падзвіжнікі, юродзівыя — пасланнікі Нябёсаў. Доля іх праз «неразумных людзей» пакутная. Насміхаліся, здзекаваліся, выпрабоўвалі Васілія Блажэннага. Не разумелі (мякка сказана) Матрону Маскоўскую. А пасля смерці да іх магіл і мошчаў будуць ісці і ехаць нашчадкі, каб лекавацца.

## КНІГА ПРА ЛЮБОЎ

Мабыць, вёска для храніста сучаснасці ніколі не была раем. Была Пеляй, была «гэтым краем няшчасця і пакут» (радок з імправізаванага верша Васкевіча). Дарэчы, А. Федарэнка неадночы прадэманстраваў, што аднолькава памайстэрску валодае як вясковым, так і гарадскім топасам. Аднак менавіта вясковы забяспечыў яму найвышэйшы ўзровень абагульнення ў выяўленні нацыянальнага. Па вялікім рахунку, маленькая аповесць «Дзікі Луг» не столькі пра вёску 70-х, колькі пра нас цяперашніх, незалежна ад таго, жывём мы ў правінцыі, вёсцы ці ў мегаполісе.

Выяўленае выверым даступным індыкатарам — словамі самога пісьменніка, сказанымі яшчэ на пачатку творчага шляху. У іх — мастакоўская і чалавечая пазіцыя празаіка: «Вёска — гэта нешта адзіна сапраўднае, нейкі светлы разумны куточак у свеце вар'яцтва. І калі ўжо так цяжка адарвацца ад Дастаеўскага, дык, па-мойму, «вёска ўратуе свет», а не нешта іншае. У маіх апавяданнях ёсць і пра вёску, і пра вясковых людзей жорсткія словы, але яны не ад няведання, не ад абыякавасці, а якраз ад жалю і, па выразу Буніна, "любові лютай…"».

Пэўныя змены адбываюцца ў светапоглядзе кожнага творцы. Нязменным і паслядоўным застаецца А. Федарэнка ў галоўным: ён піша Кнігу пра Любоў. Сапраўдную каштоўнасць маюць складаныя эмоцыі: жаль, замілаванне, захапленне, удзячнасць, любоў. Імі якраз і вызначаецца мастацкая вартасць і значнасць напісанага А. Федарэнкам. І «Дзікага Лугу» таксама.

Многія лічаць Федарэнку змрочным, нават дэпрэсіўным пісьменнікам. Між тым, ад яго Мовы ідзе энергетыка. Магія яго Слова невытлумачальная. Растлумачыць — усё адно як зрабіць тое самае. Але ж нікому іншаму гэта не дадзена…

**Марыя ВЕРЦІХОЎСКАЯ**

# Гісторык і паэт

**Ірына ШАТЫРОНАК**

Не ведаю, як гісторыі, але нашай сучаснай паэзіі вельмі пашанцавала — у ёй з'явілася новае імя. Знаёмцеся — Святлана Куль, паэтэса з Гродна. Яна вядомая таксама як доктар гістарычных навук, прафесар кафедры археалогіі і этналогіі Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы і кафедры турыстыкі і рэкрэацыі Беластоцкай політэхнічнай Акадэміі. Летась пабачыў свет яе паэтычны зборнік, у які ўвайшло больш як 170 вершаў, 6 баек, 4 паэмы і вянок санетаў. Творы размешчаны храналагічна — ад ліпеня 2011 года па ліпень 2012-га. На мой погляд, адзіны недахоп зборніка ў тым, што не было рэдактарскага падбору вершаў па тэматыцы: інтымная, грамадзянская лірыка, філасофская і духоўная паэзія, гістарычныя старонкі, асабліва ўсё, што датычыць мінулага Гродна.

Гісторыкаў, як і паэтаў, шмат. Звычайна яны існуюць паасобку. Каб у адной творчай адзінцы злучыліся ў адно цэлае гісторык, які шмат гадоў працуе ў навуцы з маладым запалам першаадкрывальніка, і вытанчаная, адзінокая душа паэта, гэта рэдкая ўдача.

Наважуся назваць такую з'яву доўгачаканым вяртаннем. Да нас, сучаснікаў, нібыта вяртаецца з-за смугі стагоддзяў нацыянальнае Слова. Слова мінулага ажывае намаганнямі рэдкіх майстроў.

У роднай мове адкрываеш для сябе цэлыя пласты гісторыі, і якой! Жаночай рукой сатканы і вышыты карціны мінулага жыцця, а колькі новых імён загаварыла, уваскрэсла ў паэмах, байках, баладах, песнях!

Паэтычны стыль С. Куль адрозніваюць панарамнасць і глыбіня гістарычнага бачання, ціхая спавядальнасць і вясёлая ўсмешка, багатая метафарычнасць і шчырасць, тонкая празрыстасць дэталяў і веданне роднай мовы, асобна — пачуццё рытму. Часам гэта можа быць кароткая, хуткая страфа, як і патрабуе таго тэма, або разгорнуты, доўгі радок, што імкнецца да кананічнасці, строгасці, ці доўгі гук, як звон абарванай струны.

*Памірала эпоха.*<br>*Сусвет памяншаўся ў памерах.*<br>*На парыжскай Мадонне*<br>*Камянелі, як рыфы, хімеры.*<br>*Недзе плыў Магелан*<br>*І Калумб разбіваў каравелы,*<br>*Памірала эпоха*<br>*Пад сталёвым разцом Данатэла.*<br>*(«Адраджэнне»)*

У зборніку шмат вершаў-прызнанняў у любові роднаму Гродна. Шчодра, з лёгкай радасцю паэтэса дорыць нам усім любімыя куткі каралеўскага горада: Замкавую гару, Лесвіцу кахання каля Каложскай царквы, рачулку Гарадніцу, алея Губерта, парк Жылібера, тэатр, Швейцарскую даліну, парк Румлёва… Тут усё дыхае гісторыяй.

*У вузкіх вуліцах*<br>*няма шляхоў вятрам,*<br>*Душу не студзіць*<br>*лютаўская замець,*<br>*Бо грэе сэрца аб мінулым памяць,*<br>*Аб тых,*<br>*што збудавалі першы храм…*

У тэкстах неверагодна шмат падрабязнасцей, дэталяў, забытых ведаў, народных паданняў, легенд, апавяданняў, якімі з намі дзеліцца паэт-навуковец-гісторык. Гучаць галасы людзей з розных саслоўяў, іх шмат: магнат, салдат, купец, млынар, каваль, князь і княжаўна, гусар, маладая паненка, заканы акцёр, вядзьмаркі-шаптухі... Трэба было толькі дакрануцца, як чароўнай палачкай, таленавітай рукой да знямелай гісторыі, і яна ажыла, загаварыла са старонак кнігі высокім паэтычным стылем.

Прафесія стала крыніцай ведаў, памочніцай і верным сябрам для паэтэсы. Яна дорыць чытачу гісторыю як асаблівы свет і вольна перамяшчаецца з аднаго часу ў іншы. Раскрывае паэтычнымі вобразамі, цудоўнымі знаходкамі, нібы бутон, які ператвараецца ў каштоўную, рэдкую кветку.

Аказваецца, наша гісторыя побач з намі, а мы праходзім міма, не заўважаючы прыгажосці ліній старадаўніх вуліц, сцен касцёлаў, гулкага бруку. Па раніцах каляровы брукаваны камень вузкіх вуліц ільсніцца ад вільготнага паветра, гуляе чырвонымі, вугальна-чорнымі, агатавымі, шэрымі бакамі і доўга трымае рэха многіх крокаў. Апоўдні зачароўвае густая мелодыя званоў, яе старадаўнія гукі ўзносяцца высока ў неба і адгукаюцца ў сэрцах.

*Ля далёкага мора,*<br>*Дзе пах памаранчаў і зёлак,*<br>*Мне прысніўся мой горад,*<br>*Прыгожы, як споведзь анёла,*<br>*Дзе як прасніца плошча*<br>*З яе сямісвечнікам вуліц,*<br>*Да сябе, нібы прошчу,*<br>*Узнёслыя храмы прытуліць.*<br>*(«Ля далёкага мора»)*

Паэтэса поўная жадання выбудоўваць свае гістарычныя тэмы, ніколькі не хвалюючыся тым, што можа адстаць ад сучаснасці. Яна шукае ў мінулым *героям духу, сапраўдных герояў.* Ім ёсць месца якраз у такіх паэтычных жанрах, як санеты, пасланні, балады, элегіі, паэмы. На жаль, сёння такія жанры нячаста выкарыстоўваюцца паэтамі.

С. Куль не дае абарвацца повязі паміж мінулым і сучаснасцю.

Калі наўмысна не забываць мінулыя эпохі, кажа яна сабе і чытачам, іх багацце можа жыць з намі доўга-доўга, падсілкоўваючы нашу памяць, нашы памкненні, выхоўваючы адказнасць, гонар, нацыянальную ідэнтычнасць і веліч.

Паэтэса падводзіць чытача да разумення дзяржаўнай ідэі будаўніцтва нашага *беларускага дома*. Гэты вобраз вандруе ў яе з аднаго верша ў другі. Грунтоўна і не спяшаючыся яна выбудоўвае ў творах «свой дом», не забываючы ў сваіх памінальных спісах нікога,




добрым словам успамінае імёны дзядоў, кланяецца родным магілам. Паэтэса здольна перайсці ад прыватнай гісторыі да эпічных абагульненняў, і атрымліваецца гэта арганічна.

*Яны адыходзілі з родных*<br>*маёнткаў, з фальваркаў —*<br>*Рамантыкі, геніі,*<br>*соль беларускай зямлі, —*<br>*У чорных сурдутах,*<br>*у ветрам падшытых чамарках,*<br>*Хто ехаў на захад,*<br>*каго па этапах вялі.*

*Апошнія крокі рабілі*<br>*па родных алеях*<br>*Да брамы на ўездзе*<br>*і дом аглядалі адтуль:*<br>*З калонамі ганак,*<br>*абсаджаны белай спірэяй,*<br>*І ценем на ім —*<br>*сілуэты бацькоў і матуль.*

*Яны адыходзілі з нашай зямлі*<br>*назаўсёды,*<br>*Каб стацца для іншых*<br>*паэтам, героем, суддзёй,*<br>*Яны адыходзілі з хаты,*<br>*з зямлі і з народа,*<br>*З гісторыі нашай,*<br>*каб болей не значыцца ў ёй.*<br>*(«Выгнанцы»)*

С. Куль падсілкоўвае нашу сучасную мову рэдкімі словамі, архаізмамі: кунтуш, аршак, вухналь, намітка паркалёвая, лёхі, пошасць, войт…

*Куль, С. Я.*<br>*Вершы. Байкі.*<br>*Паэмы. — Гродна:*<br>*«ЮрСаПрынт»,*<br>*2012. — 270 с.*

Можна забытыя словы ведаць, але як імі «кіраваць»? Яны ўжо аджылі свой век. Гэта як старадаўняе начынне, розныя гаспадарчыя прыстасаванні ў этнаграфічным музеі, усе яны былі неабходныя ў мінулым. Цяпер, на жаль, іншыя дні, іншая эпоха. Усё гэта датычыць матэрыяльнай культуры, але як быць са славеснасцю?

У вершы «Княгіня», на мой погляд, ёсць адказ.

*…У перлах вершаў,*<br>*дыяментах прозы,*<br>*У аксаміце Метрык і Статутаў —*<br>*Смяецца з недарэчнасці прагнозаў*<br>*Іудаў і скугалячых манкуртаў.*

*Яны памруць, а мова застанецца,*<br>*Бо кожны здзек,*<br>*бы лёд зімовы, стопіць.*<br>*У нашай мовы велічнае сэрца,*<br>*Яго яшчэ*<br>*на сто стагоддзяў хопіць.*

Такой княгіняй, прыгожай, станістай, уяўляецца і сама Святлана Куль, а праз яе і наша паэзія.

Аўтарка звяртаецца да роднай і жывой гісторыі. Нарэшце прыйшла пара ўбачыць, ацаніць самае лепшае, самабытнае, годнае, што было ўласціва нацыі, і задумацца: што ж мы, горшыя за іншыя народы? Няўжо традыцыі прыгажосці мастацкага слова згубленыя? Дзякуй богу, не.

У Святланы Куль ёсць духоўная сіла і пачуццё прыгажосці паэтычнага слова. Яна нібыта знайшла даўно згубленыя старадаўнія куфар і цяпер сама атрымлівае асалоду ад сваёй песні і шчодра дзеліцца з намі. Адкрывае наноў скарбніцы роднай славеснасці і старонкі ліцвінскай гісторыі.



Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

## Беларуская хатка

*Ў Беларускай хатцы у сталіцы*
*У каторы раз я рад пабыць, —*
*Як у храме, шчыра памаліцца,*
*Каб ніколі сэрцам не астыць*

*Да сваёй мінуўшчыны, да продкаў,*
*Што віхурным часам,*
*як маглі,*
*Каб мы не спазналі долі горкай,*
*Бацькаўшчыны скарбы берaглі.*

*Ў Беларускай хатцы, у святліцы,*
*Твары прасвятляліся ў людзей:*
*Як крыніцы чыстыя, ліліся*
*Песні беларускія з грудзей.*

*Танцы беларускія кружылі —*
*Хіба хто адседжваўся ў куце!*
*І квітнелі, як валошкі ў жыце,*
*Вочы і ў дарослых, і ў дзяцей.*

*Беларускай хаткі сцены чулі*
*(Тут яны глухімі не былі):*
*Багдановіч, Смоліч і Бядуля*
*Пра Айчыну гутарку вялі.*

*І для іх не мог быць шэрым будзень,*
*Бо праз хмары бачылі зару.*
*Недарэмна марылі, што будзе*
*Беларускай хаткай —*
*Беларусь.*

* * *

*Я шчасце на руках сваіх трымаю.*
*Яно мяне за шыю абдымае,*
*Дзіця маё, мой хлопчык, мой сыночак.*
*Глядзімся мы адзін другому ў вочы.*

*Гляджу я на сябе яго вачыма,*
*І крок зрабіць няверны немагчыма,*
*І нельга апусціць бязвольна рукі.*
*Хрыстос пaможа вынесці ўсе мукі!*

*І я ж такі маленькі быў калісьці,*
*У бацькі на руках — як хлеб на лісці.*
*І зараз усплывае мне нярэдка:*
*У бацькі свой адбітак бачу ў зрэнках...*

*Я шчасце на руках сваіх трымаю.*
*Яно мяне за шыю абдымае,*
*Дзіця маё, мой хлопчык, мой сыночак.*
*Глядзімся мы адзін другому ў вочы...*

## Аднакласніца

*Хуткаплыннага часу рэчку*
*Паварочваю я назад,*
*Прыгадаецца мне нярэдка*
*Наша школа і школьны сад.*

*Педагогаў сваіх вітаю,*
*Аднакласнікаў бачыць рад.*
*І трымціць маё сэрца, тае:*
*Адчуваю зноў той пагляд.*

*А званок рассыпае пошчак, —*
*Сачыненне пісаць заве.*
*Ды за вокнамі лівень хвошча —*
*Быць знаходлівым не дае.*

*Сачыняю табе запіску,*
*Не пасмеўшы яе паслаць…*
*Хіба толькі пяром жар-птушкі*
*Мне пачуцці ўсе апісаць!*

*Школьны двор нас у свет бязмежны*
*З далані сваёй адпусціў.*
*Дай, Бог, з годнасцю, як належыць,*
*Усім нам школу жыццця прайсці.*

*Аднакласніца,*
*Аднакласніца,*
*Над табою хай неба ясніца,*
*І ў табе мары-мроі весняцца.*
*Госця ў снах маіх ты,*
*Равесніца.*

* * *

*Ва ўсім ёсць сэнс:*
*І ў горычы, і ў болю,*
*Што доля шчодра зведаць нам дала.*
*Мы не цанілі б радасць так ніколі,*
*І слодыч часта прыкраю была б…*

*І непагадзь парой нам засціць вочы,*
*Як крыўда, што прасвету не відаць…*
*Таму не будзе сумна так аднойчы*
*Нам гэты свет бялюткі пакідаць…*



*Фота Таццяны Шымук*



Аліна ЛЕГАСТАЕВА

Азёрная і лясная Віцебшчына нядаўна з гонарам вітала групу беларускіх пісьменнікаў, якія пабывалі тут у межах праграмы, ухваленай Прэзідэнтам краіны. Вершаваную справаздачу з віцебскай вандроўкі сёння трымае паэтэса Аліна Легастаева.

## У Віцебску, горадзе юнацтва

*Іду праспектам Фрунзэ,*
*Як экскурсант, як госця,*
*Што незнарок вярнулася*
*З мінулага стагоддзя.*

*З далёкіх сноў, транзітам,*
*Без права затрымацца,*
*Ступаю, як з нябыту,*
*Па беразе юнацтва.*

*І ў цішыні спачылай*
*Свой звонкі голас чую.*
*Да юнай той дзяўчыны*
*Сама сябе раўную.*

*Пара замілавання —*
*Журба мая святая:*
*Тут першае каханне*
*Сплыло Дзвіной, як хваля.*

*А погляд светлавокі*
*Над сумам, над журбою,*
*Над слепатой знямогі —*
*Як неба нада мною.*

*Ці гэта долі літасць,*
*Што лёс паслаў вандроўку?*
*Я сёння тут транзітам,*
*Нібы ў юнацтве зноўку.*

## У музеі Айчыннай вайны, г. Бягомль

*На паліцы залы — патэфон*
*З грамплацінкай —*
*выжыць выпаў шанец.*
*Рарытэтны экспанат здавён*
*Захаваўся у рабочым стане.*

*Побач — спраўны кулямёт «Максім».*
*Засяроджаны ён ва ўспаміне,*
*Як салдат, што смерць прайшоў і дым,*
*Попел Дальвы, Шунеўкі, Хатыні.*

*І пачуўся мне з нябыту стогн,*
*Кліч нямы працяў зямлю і воды:*
*«Не маўчы, забыты патэфон!*
*Змоўкніце навечна, кулямёты!»*

## Наваполацк

*Абдымаюць вуліцы зямлю*
*Так пяшчотна, як матулі рукі.*
*П'е язмін густую цішыню,*
*Горад спіць. Жыцця аціхлі гукі.*
*Сніцца што яму? Гарачнасць дзён*
*На пустых балоцістых абшарах,*
*Ці то ўдарнай працы першы плён,*
*Ці то ўсмешкі цёплыя на тварах*
*Маладых дзяўчат і юнакоў,*
*Што паклікала навабудоўля,*
*Ад кручастых Нёмна берагоў,*
*З Іртыша і Ангары вярхоўяў.*
*Больш за пяцьдзясят гадоў таму,*
*Ў параўнанні з вечнасцю — так мала…*
*Горад крочыў, абганяў Дзвіну —*
*І балота скрушна адступала.*
*Запалоніць ранак смех дзятвы,*
*Прыме дзень ад сонейка прычасце,*
*А пакуль плывуць начныя сны —*
*Зоркі вызначаюць шлях да шчасця!*



Эдуард ГРАКОВІЧ

## Роздумы пра жнівень

Ужо не даехаць
хлопцу маладому
да роднага гаю,
да роднага дому.
……………………
Ляжыць ён, як віцязь,
у стоптаным жыце…
**М. Сурначоў**

*Кожнага,*
*хто ў бітве кроў праліў,*
*Памятае мірная Еўропа.*
*Наш народ*
*за шчодрасць родных ніў*
*Дзякуе не толькі хлебаробам.*

*Жнівень хлебадайны настае.*
*Загулі камбайны:*
*жаць выходзяць.*
*Дбанні мы апраўдваем свае,*
*І ніякі вораг нам не шкодзіць.*

*Розныя бываюць пры жніве*
*Роздумы над тым,*
*што пeражыта.*
*Памяццю нятленнаю жыве*
*Сумны верш*
*пра стоптанае жыта.*

## Уначы ля прыёмніка

*З неба зорнага месяц начны*
*Зазірае*
*ў пакойчык мой цёмны,*
*Дзе расказвае зараз прыёмнік*
*Пра падзеі мінулай вайны.*

*У вачах той ці іншы міраж:*
*Уяўляецца тое, што чую,*
*Падмяняючы цемень начную*
*Тым, што ў вушы*
*трапляла не раз.*

*Успрымае свядомасць мая*
*Гэтай ночкy,*
*далёка не смужнай,*
*Як народная сіла і мужнасць*
*Здабылі перамогу ў баях.*

***

*Любімы мой куток,*
*дзе я народжаны,*
*Увесь удоўж і упоперак*
*абходжаны.*
*Як двойчы два,*
*у ім усё вядома мне.*
*Шаную*
*я гнязд сваё патомнае.*
*За ўсё, што перададзена*
*мне ў спадчыну,*
*Бацькам, дзядам навекі*
*шчыра ўдзячны я.*
*Няхай сабе часы*
*бягуць, мяняюцца,*
*У памяці*
*даўнейшае трымаецца.*
*А як пачну*
*прыгадваць прызабытае,*
*Здаецца мне,*
*што кніжкі перачытваю.*

## Па струнах б'ю

*Я да ляска бяру кірунак,*
*Дзе быў з каханай уначы.*
*Б'ю моўчкі*
*па гітарных струнах,*
*І звонка музыка гучыць.*

*Гітара весела іграе.*
*Перахацелася мне спаць.*
*Да песні словы падбіраю,*
*Каб між ялінак праспяваць.*

*Я ж не стары яшчэ гадамі,*
*Каб адказаць на*
*«Прыйдзеш?» — «Не».*
*Па струнах б'ю ўсё і гадаю,*
*Што атрымаецца ў мяне?*

## Ветразь маіх летуценняў

*І па цячэнні,*
*і супраць цячэння*
*Плавае ветразь*
*маіх летуценняў.*
*З ім кожны вецер*
*заўсёды ласкавы —*
*Водзіць яго*
*па пясках і па травах.*
*Казачны ветразь*
*маіх летуценняў*
*Лье залатое сваё зіхаценне.*
*Ён пасміхаецца*
*кпліва з каноэ,*
*Бегае ў будучае і ў былое.*
*А пабывае*
*ў нязведаных сховах —*
*Стольki малюнкаў*
*паказвае новых.*

## Расстаёмся няспешна мы

*Пралілася світальная ясь*
*На дамкі і садочкі*
*з малінамі,*
*Што ў завулачку*
*ціхім стаяць*
*За кварталам*
*ад тралейбуснай лініі.*

*Тчэцца рання*
*сінь над зямлёй.*
*Горад слынны,*
*а месца зацішнае.*
*Мы ад прыцемку*
*з любай маёй*
*Прасядзелі на лаўцы*
*пад вішняю.*

*Цішыню,*
*што трывала дасюль,*
*Пeрарваў бег*
*тралейбуса першага.*
*Не расстацца было*
*ночку ўсю —*
*І цяпер расстаёмся*
*няспешна мы.*



# Яўген МАРТЫНОВІЧ

## *Абразкі*

### ПАРК

Лошыцкі парк прыгожы ў любую пару года. Але для мяне гэтая пара прыпадае на апошнія два тыдні лета, калі па ўсім парку рассыпаны яблыкі, а вакол пахне чымсьці да болю знаёмым і ўтульным (гэты пах я памятаю з дзяцінства, калі ездзіў амаль на ўсё лета да дзеда і бабулі ў вёску).

Я люблю чытаць у парку, а часам нават запісваю нейкія свае думкі, якія не маглі б нарадзіцца ў бетонным мяху кватэры. «Зацяжарваю думкамі і ідэямі». Я ведаю, што для ідэй, як для дзяцей, неабходна свежае паветра. Толькі тады яны змогуць паздаравець і адчуць у целе моц.

Я не грэбую падымаць з зямлі апалыя яблыкі. Набіраю іх поўны заплечнік, а па дарозе яшчэ паспяваю з'есці з дзясятак перасплелых ападкаў. Яны смачнейшыя за «глянцавіта-вітрынныя» яблыкі супермаркетаў, якія на смак нагадваюць свечку! Мяне заўсёды кранае, калі нешта знікае проста так, напрыклад, яблыкі...

Лошыцкі парк чымсьці падобны да паркаў Нясвіжа: такі ж няўлоўны сум страчаный велічы, той жа празрысты спакой і свежы ветрык, які перашэптваецца з лісцем на дрэвах і травою. Але я пакуль яшчэ не магу зразумець гэтую мову… мову ветру.

Я шукаю сваю любімую лаўку, назіраю за першымі прыкметамі завядання лета ў маім Лошыцкім парку! І дыхаю-дыхаю-дыхаю...

### НЯЗРУЧНЫ ЧАЛАВЕК

*(партрэцік)*

Нязручнага чалавека можна было пазнаць адразу: па яго шэрым бетонным позірку і працёртых мазольных локцях. І, дзе б ён ні быў (на вуліцы, у грамадскім транспарце або краме), ён заўсёды энергічна працаваў локцямі. Локці былі яго хлебам надзённым і прыладай існавання! Ён катэгарычна быў у гэтым перакананы.

Нязручны чалавек займаў нейкую дробную, але надзвычай «важную» пасаду. У яго быў свой кабінет (ну, як кабінет — кабінецік) і жменька падначаленых. Нязручны чалавек імкнуўся запоўніць сабой усю прастору кабінета, а дакладней, сваімі «неадкладнымі» справамі, папкамі-паперкамі-сашчэпкамі і іншай канцылярскай лухтой. Але самай важнай рэччу на стале Нязручнага чалавека быў штамп! Ён надаваў яму і без таго ўжо залішняй вагі і важнасці. Да штампа Нязручны чалавек дакранаўся вельмі рэдка. Часцей за ўсё штамп стаяў-ляжаў нерухома на адведзеным яму месцы (каб усе, хто заходзіць у кабінет, бачылі гэты сімвал пропуску ў нейкае іншае, поўнае разнастайных таямніц жыццё). А ўжо калі дакранаецца... Не, пакуль я такога не бачыў!

Колькі гадзін было змарнавана каля дзвярэй гэтага чалавека ў чаканні яго ласкі (якая так і не сыходзіла на галовы пакутнікаў), колькі было атрымана адмоў і выказана моцных выверавых слоў. Але нічога не прымала яго сэрца. За гэтую непахіснасць Нязручны чалавек слыў чалавекам грунтоўным і дасведчаным.

Часам Нязручны чалавек адпачываў. Але яго адпачынкам было бяскрыўднае хобі пад назвай «Рамонт». І, як у чалавека добрасумленнага і грунтоўнага, гэты рамонт расцягваўся на доўгія гады, а дакладней, на бясконцыя суботы і нядзелі. З самай раніцы ён пачынаў нешта свідраваць-майстраваць у сваёй цеснай кватэрцы. На стукі ў батарэю і просьбы Нязручны чалавек не звяртаў ніякай увагі, бо ведаў, што «мае права». І, што б яму ні казалі, як бы слёзна ні прасілі, Нязручны чалавек, зірнуўшы сваім цяжкім бетонным позіркам на просьбіта, адказваў: «Маю на гэта поўнае права». Збянтэжаныя такой грунтоўнасцю, суседзі ўжо нічога не маглі сказаць Нязручнаму чалавеку ў адказ.

У Нязручнага чалавека часам здараліся госці! Увогуле, ён не любіў, калі ў адным месцы збіралася больш як два чалавекі. Але традыцыі трэба шанаваць! Такі парадак. А парадак Нязручны чалавек парушыць не мог.

Падставай для асабістага гонару Нязручнага чалавека была прыбіральня (з падагрэўнай падлогай). Колькі салодкіх хвілін было праведзена ў гэтым цудоўным месцы!.. Колькі разумных думак вярцелася ў яго галаве! І ён у першую чаргу паказваў сваім гасцям менавіта гэты зацішны куток. Ён ганарыўся ім: кафляй, плітачкай у ромбік, бліскучай чысцінёй керамікі — усё як мае быць у сапраўднага гаспадара! І госці нахвальвалі яго працавітасць ды грунтоўнасць.

А на дзень нараджэння і юбілеі Нязручнаму чалавеку дарылі самыя неабходныя для ягонай працы рэчы: папкі-сашчэпкі-паперу і іншую канцылярскую дробязь. Але Нязручны чалавек быў задаволены і шчаслівы, што яму дораць толькі патрэбныя рэчы... «Навошта ж марнаваць сваё жыццё на непатрэбшчыну?» — усклікаў Нязручны чалавек і меў, як заўсёды, рацыю.

### ГЕНІЯЛЬНАСЦЬ

Усе прысутныя прызналі, што ён геній сучаснасці. Папляскалі ў ладкі і разышліся. З тых часоў ён больш нічога вартага не стварыў, бо стаў прызнаным геніем.

### ГІСТОРЫІ КАХАННЯ

Гісторыя кахання глядзіцца прыгажэй у Парыжы. Амаль усё глядзіцца прыгажэй на экране (а тым больш у Парыжы… хто яму зробіць выклік?)! Але мы не ў Парыжы і нават не ў Варшаве. І наша каханне таксама не там. Яно тут, побач з намі… На Кальварыйскай вуліцы! На любой іншай вуліцы нашага горада. І гэтыя вуліцы даражэй мне за ўсе «Шанз-Элізэ» і «Манмартры». Я ведаю, што чужое каханне заўсёды глядзіцца прыгажэй. Але ў яго ёсць адзін вялікі недахоп — яно *чужое*…

### ШТО МНЕ?

Што мне ўсе дзівосы свету, калі цябе няма побач?

Што мне ўся зямная весялосць, калі я не бачу тваёй усмешкі?

Што я без цябе?

Забыты фотаздымак у чужым альбоме…

### РАЗАМ

Як добра, што мы проста разам… Без аніякіх войнаў і рэвалюцый, якія ўжо чацвёрты дзень запар разгортваюцца ў суседзяў зверху — без прымірэння, без жалю на татальнае вынішчэнне нервовых клетак і добрых адносін.

Як добра, што я магу проста трымаць цябе за руку і ўдыхаць водар тваіх далоняў. Не баючыся, што гэта калі-небудзь скончыцца…

***

Пакуль мы памятаем дзень нашай першай сустрэчы.

Пакуль памятаем нашыя дні нараджэння.

Пакуль мы памятаем імя…

Мы будзем разам!



# Наста РАГАЎЦОВА

## *Абразкі*

### НОВАЕ ЖЫЦЦЁ

Заснежаная сцяжына бегла ў лес.

Яна ўдыхнула свежага паветра і на імгненне прымружыла вочы. А калі расплюшчыла, убачыла маладое дрэўца, амаль сухое. Цень балючай усмешкі прабег па яе твары. Кволае дрэўца нечым нагадвала лёсам яе самую.

Яна ўжо не ішла заснежанаю сцяжынай, а стаяла перад пачарнелым дрэўцам і глядзела на яго ссохлыя галіны, якія колісь былі жывымі і радавалі зелянінай… Ёй захацелася дакрануцца да галінак, сагрэць цяплом рукі, але… яна не стала гэтага рабіць. «Навошта саграваць тое, што ўжо ніколі не ажыве? Ад такога трэба пазбаўляцца. Каб потым… На яго месцы вырасла новае, поўнае жыццёвай сілы і моцы…»

Ёй адразу стала лягчэй. Думка хоць як выратаваць гэтае дрэўца, яшчэ зусім маладое, але, бадай, засохлае, прымусіла яе агледзецца па баках. Нікога не было. Толькі яна і дрэўца. Цяпер яна добра ведала, як з ім быць… Хоць зрабіць гэта для яе было і не так лёгка.

…Зарослая травою сцяжына бегла ў лес. Таго дрэўца не было відаць, але дзяўчына ўпэўнена ішла напрасткі да высакаватага пня, на якім ужо красаваліся свежыя парасткі — галінкі з зялёнымі лісткамі.

### ДАРОСЛЫ ХЛОПЧЫК

— Пойдзем птушак карміць?

— Птушак? — ягоны твар асвяціўся радасцю.

— Так. Гусей ды качак. Хадзем?

— Ага! А птушкі што робяць?

— Плаваюць.

Ён рассмяяўся:

— Плаваюць!

Пяшчотная ўсмешка перадала ягоны настрой і мне. Я таксама засмяялася.

— Птушкі плаваюць. Вось так! — і паказала рукамі.

— Плаваюць! — смеючыся, паўтарыў ён. І ў такт маім рухам рукамі шчасліва заківаў галавой.

* * *

— Уцю! Уцю! Уцю! — кідаў ён хлеб гусям і качкам, якіх назбіралася ўжо цэлая чарада.

За гэтым заняткам ён быў даволі сур'ёзны. Сачыў, каб кожнай птушцы дастаўся свой кавалачак. Але раптам замахаў рукамі:

— Кыш! Кыш! — І пабег да галубінай чародкі.

Я ўсміхнулася. Чамусьці ён не хацеў, каб і яны паласаваліся. Усё — толькі птушкам, што плавалі ў рацэ. Галубы ўзняліся і адляцелі ўбок. А ён смяяўся і паўтараў:

— Паляцелі! Птушкі паляцелі!

Назіраць за ім, гэтым шчырым хлопчыкам, якога занятак пакарміць і патрывожыць птушак рабіў вельмі шчаслівым і выклікаў у гарэзніка пяшчотную ўсмешку, кранала мяне. Уражвалі ягоная натуральнасць, адкрытасць, ягоны наіўны дзіцячы свет, у якім ён жыў. Ужо… 50 гадоў.

— Птушкі паляцелі! — смяяўся ён.

Праз хваробу ён перастаў псіхічна развівацца яшчэ дзіцём. Хоць на выгляд — мужчына. Дарослы хлопчык... Так называю яго. Побач з ім адчуваю сябе неяк па-асабліваму. Многа чым абдзелены, ён дорыць мне светлыя моманты, якіх ніколі не было ў маім жыцці. Ён запрашае ў свой дзіцячы свет і вымушае мяне па-іншаму ўспрымаць дарослы. Дзякуй яму за гэта!

— Птушкі паляцелі!..

### «КАХАЕ — НЕ КАХАЕ…»

I

«Кахае — не кахае, кахае — не кахае...» — Леся, нібы тая дзяўчынка, адрывала рамонкавыя пялёсткі, нецярпліва чакаючы апошняга лісточка — «Кахае»...

З кішэні пачуліся гукі. Мабільны. Леся па мелодыі здагадалася: муж.

— Прывітанне, мілая. Слухай, — залепятаў Ігар, — у нас пятніца вольная. Давай у горы дзянькі на тры махнём, а?

— У горы?..

— Ну а чаго ў горадзе спякотаю сядзець? Якія чатыры гадзіны — і там! Хоць свежым паветрам уволю спатолімся, — акрылена шчабятаў Ігар.

— І то праўда...

— Ну ўсё… Цалую.

Тэлефон змоўк. Леся ўздыхнула. Горы... Не надта любіла яна ў гарах быць. Не, там прыгожа, і паветра цудоўнае, толькі вось гэтыя высозныя гіганты-скалы... Яна адчувала сябе сярод іх настолькі мізэрнай, што аж галава пачынала кружыцца. «Але ж у горадзе і праўда цяпер спёка, а на выхадныя зусім невыносная надвор'е абяцалі. Мо і няблага было б...»

II

— ...Прыгажосць якая! — Ігар не мог налюбавацца. — А паветра, паветра якое! Ух! Каханая мая! Як добра мне з табой, — мелодыяй паліліся словы.

Леся засмяялася:

— Ну і пявун знайшоўся…

— Ах, так?! — Ігар хацеў абхапіць Лесю. Яна ўхілілася і пабегла. Смяялася і, здаецца, ажно ляцела над лугам, узмахвала рукамі, бы вольная птушка. Ён за ёй.

Раптам яна а імгненне спынілася, войкнула. Кавалак зямлі пад нагамі сарваўся ўніз, яна неяк хіснулася і.... Ігар аслупянеў.

— Леся! Лесечка! — Яна трымалася рукамі за край абрыву, на міг ёй удалося неяк падцягнуць галаву. Яна ўбачыла яго вочы. Поўныя жаху і спалоху. Зямля пад Лесінымі рукамі сыпалася ўніз, пальцы павольі спаўзалі з крутога схілу гары.

— Дай руку! Хутчэй! Зараз абваліцца...

Ён як быццам хіснуўся ў яе бок, але зноў застыў на месцы.

— Хутчэй! — сарвалася з яе вуснаў.

Ігар баяўся зрабіць крок. «Можа, і пад маімі нагамі абваліцца...»

— Ігар... — не верылася Лесі. — Ігар...

Апошняе, што яна памятала, быў рамонак пад нагамі каханага...

III

Леся прачнулася. Не адразу ўцяміла, дзе яна, — такім яскравым быў сон... Яе калаціла, слёзы паліліся з вачэй...

— Што сталася? — збудзіўся і муж.

— Леся, што... што з табою? — абняў яе за плечы.

— Не хачу, — усхліпвала Леся, — не хачу ў горы ехаць, не хачу...

— Супакойся, мілая… — гладзіў яе валасы Ігар. — Гэта ж усяго толькі сон.

— Не паеду...

— Добра, добра, не паедзем...

Суцяшаючы, ён на руках калыхаў Лесю, цалаваў яе мокры твар... А яна праз вэлюм слёз бачыла рамонак...

# Паслугач не знойдзены,

## або Складанасці беларускамоўнай камп'ютарнай тэрміналогіі

Каля трох гадоў таму ўпершыню пачала карыстацца *Total commander* па-беларуску. Было зручна, хаця такая версія крыху здзіўляла маіх знаёмых, якія прывыклі да рускамоўнага афармлення камп'ютарных праграм. Цяпер пераключылася на беларускамоўную пошту, у такой жа версіі карыстаюся «Фэйсбукам». Аднак я як філолаг адразу заўважыла шэраг арфаграфічных і граматычных недакладнасцей, а часам няякаснасць перакладаў.

Вядома, хвала тым, хто спрабуе перакласці папулярнае праграмнае забеспячэнне на беларускую мову. Гэта своеасаблівы нацыянальны крок і, мяркую, спосаб павышэння прэстыжу нашай мовы сучаснымі сродкамі. Але звычайнаму карыстальніку, які, скажам, мае пераважна рускамоўную сферу зносін ці не ўнікае ў тонкасці гістарычнага развіцця беларускай мовы, цяжка разабрацца, чаму ў камандах праграм, афармленні сайта з'явіліся «*сыстэма*», «*вэрсія*», «*паведамленьні*», «*кампутар*», «*нумар тэлефону*»? Чаму *сервер* — гэта *паслугач*, *всплывающее меню* — гэта *вынyркі*, а слова *блокировка* мае варыянты — *блакоўка*, *блакаванне*, калі нарматыўны пераклад *блакіроўка*. «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (2008) рэкамендуюць большасць запазычаных дзеясловаў ужываць з суфіксам *-ава-* (*-ява-*): *імпартаваць*, *рэдагаваць*, *фарматаваць*, а з *-ірава-* (*-ырава-*) — тады, калі можа парушыцца фармальная і семантычная акрэсленасць: *капіраваць*, *дэкадыраваць*. Паводле «Кароткай граматыкі беларускай мовы» (2007) дзеепрыметнікі з суфіксам *-уч-*(*-юч-*), *-ач-*(*-яч-*) з'яўляюцца нарматыўнымі, таму трэба лічыць правільным пераклад *текущее окно* — *бягучае акно*. Непакоіць, што некаторыя тэрміны маюць некалькі варыянтаў назваў: *приложение* — *дастасаванне*, *прыладдзе*, *дадатак*; *настройки* — *настройкі*, *наладкі*, *налады*, *прылады*; *инструменты* — *інструменты*, *прылады*. Прычым, гэтыя тэрміны з-за няправільнага разумення спецыфікі іх значэння могуць звесціся да адзінага — «*прылады*». Больш складаным з'яўляецца не засваенне неалагізмаў, а пераклад слоў, што пашырылі сваё значэнне: *акно*, *загрузка*, *папка*. На сайце *http://belazar.info/belsoft* выкладзена больш як 250 перакладаў розных праграм і дадаткаў, але яны патрабуюць удакладнення тэрміналогіі, што сцвярджаюць і самі аўтары.

> *Людзі прыходзяць і бачаць: сучасныя веды выкладаюцца на беларускай мове.*

Распрацовак у галіне беларускамоўнай камп'ютарнай тэрміналогіі няшмат. Гэта «Англа-беларускі слоўнік па інфарматыцы» А. Кабайла, Н. Савіцкай (2008), дзе, дарэчы, ёсць і граматычныя паказчыкі роднага склону адзіночнага ліку некаторых слоў: *дысплей -я, кэш -а, відарыс -а* і *дамп -у, слот -у, ліміт –у;* «Тлумачальны слоўнік па інфарматыцы» М. Савіцкага (2009), школьныя падручнікі аўтараў А. Пупцава, Г. Забароўскага, А. Лапо і інш. Некаторыя даведнікі выйшлі ў 1990-я гг.: «Лабараторныя работы па курсу «Інфарматыка і вылічальная тэхніка» для студэнтаў педагагічных ВНУ» (1995), «Інфарматыка: беларуска-рускі тэрміналагічны слоўнік» (1996), «Заданні да вылічальнай практыкі па курсу «ЭВМ, інфарматыка, практыкум па праграмаванню»»… (1995), «Праграмаванне на алгарытмічнай мове Турба Паскаль...» (1995). Сёння інфармацыйныя тэхналогіі як самая перспектыўная галіна ведаў вывучаюцца з шостага па адзінаццаты клас школы, існуе ў рэспубліцы і беларускамоўнае навучанне. Але апошні падручнік для 6-га класа выйшаў толькі на рускай мове, спецыяльныя рабочыя сшыткі на беларускай і не выдаваліся. Выходзіць, вучні павінны ўвесь час вагацца паміж дзвюма мовамі. Відавочна, пашырэнне колькасці спецыяльных беларускамоўных дапаможнікаў, іх рэклама патрэбна і будзе карыснай. Аўтар артыкула высветліла, якім чынам ідзе працэс навучання інфарматыцы на беларускай мове і з якімі пытаннямі сутыкаюцца выкладчыкі.

Сустрэча з Нінай Аверынай, настаўніцай інфарматыкі беларускамоўнай гімназіі № 9 г. Мінска, паказала: навучанне па-беларуску можа быць цікавым. Ніна Віктараўна — чалавек з багатым жыццёвым і прафесійным досведам, а ў школе выкладае інфарматыку з 1990-х гг. Зразумела, займацца ў такога майстра — адно задавальненне. «Тэарэтычныя веды займаюць адно з найважнейшых месцаў у навучанні, гэта аснова, без якой немагчыма рухацца далей. У мяне часта праводзяцца спецыяльныя тэарэтычныя кантрольныя ў форме гульні: так, дзеці з дапамогай магнітнай вудачкі выцягваюць сабе пытанне і дзякуючы нестандартнаму падыходу засвойваюць тэорыю «назубок»», — дзеліцца Ніна Віктараўна. Гімназісты зацікаўлены ў вывучэнні азначэнняў на беларускай мове і выкарыстанні іх. На беларускай мове вядуцца каляндарна-тэматычнае планаванне, вучнёўскія канспекты. Паколькі падручнікі змяшчаюць некаторыя рускія тэрміны, напрыклад, *Рабочий стол, Сетевое окружение*, то дзеці часта просяць: «А давайце мы гэты тэрмін перакладзём!», — і робяць гэта пісьменна. Тым больш што беларускамоўнае навучанне — гэта свядомы выбар і пэўная скіраванасць гімназістаў. Гэтую думку пацвердзіла і дырэктар беларускамоўнай школы № 190 г. Мінска Людміла Шыцік: «Калі дзеці з самага пачатку вывучаюць усе прадметы на беларускай, засвоіць інфарматыку для іх няцяжка, да таго ж многія тэрміны — запазычанні. Галоўнае тут — граматнае выкладанне».

Але не ўсе тэрміны, што ўжываюцца ў падручніку, зразумелыя настаўнікам і вучням. «Справа ў тым, што асяроддзе дзяцей — пераважна рускамоўнае, і некаторыя словы яны не ўжываюць у паўсядзённым жыцці. Цяжкімі назаву словы *відарыс* (изображение), *алгарытм галінавання* (алгоритм ветвления), а слова *пстрычка* (клік мышшу) гучыць смешна!» — расказвае Ніна Віктараўна. Дарэчы, вучні гімназіі № 9 традыцыйна займаюць прызавыя месцы на алімпіядах і адпаведных конкурсах.

> *Дзеці самі просяць: «А давайце мы гэты тэрмін перакладзём!*

Што да беларускамоўных версій праграм, то ў гімназіі яны не выкарыстоўваюцца, паколькі для навучання патрабуюцца толькі ўказаныя ў падручніку. «Лічу, што ствараць беларускамоўныя версіі немэтазгодна: па-першае, гэта могуць рабіць толькі спецыялісты кампаніі *Microsoft*, якой належаць правы на праграмнае забеспячэнне. Па-другое, у структуры праграмы ёсць закрытая частка на англійскай мове, якую нельга разбураць, пераклад афармлення будзе надта працаёмкім працэсам і можа збіць некаторыя функцыі. Большую праблему ўяўляе тое, што ў нас мала ўласных напрацовак, высакакласных праграмістаў», — мяркуе Ніна Віктараўна. Таксама педагог выказала пажаданне, каб метадычныя і наглядныя дапаможнікі, інструкцыі былі перакладзены на беларускую мову.

Дзякуючы ініцыятыўным спецыялістам высокія тэхналогіі на беларускай мове выйшлі за сцены школы. Цяперашнія выпускнікі БДУІР Філіп Дайнека і Раман Андрыянаў вядуць курсы праграмавання на беларускай мове ў БДУ і БДУІР у межах уласнага праекта *course.by.* За 8 месяцаў навучання іх слухачамі сталі 200 чалавек: школьнікі, студэнты розных ВНУ, іншыя зацікаўленыя асобы. Праграма навучання ўключае тэорыю і практыку працы ў праграмах *HTML, Java Script, Ruby* (вэб-распрацоўка), *Wordpress* (сістэма кіравання зместам, напрыклад, блогам), у дызайне, распрацоўцы *iOS* (айфонаў), тэставанні.

«Курс у нас быў спецыяльна запланаваны на беларускай мове. Частка нашых слухачоў выбрала іх, бо тут цікавыя тэмы, своеасаблівая моўная «тусоўка». Людзі прыходзяць і бачаць: сучасныя веды выкладаюць на беларускай мове, і гэта іх прываблівае», — тлумачаць Філіп і Раман. Аснова іх лекцый — уласныя напрацоўкі, электронныя дапаможнікі, пераважна ўзятыя з інтэрнэту. Паколькі беларускамоўных дапаможнікаў адзінкі, робяцца ўласныя пераклады тэкстаў з англійскай мовы. Ёсць асобы, якія самі дапамагаюць маладым выкладчыкам, дасылаючы матэрыялы на іх сайт.

У тэрміналогіі пераважна выкарыстоўваецца самастойны пераклад з англійскага і рускага варыянтаў. «Напрыклад, мы даём адразу тры варыянты: *folder* — *папка* — *тэчка*. Хаця тут можна гаварыць *дырэкторыя*. Тлумачэнне па-беларуску звычайна ідзе ад таго, як я сам разумею гэтае паняцце. Напрыклад, тэрмін *наследование* я пераклаў як *спадчыннасць*, *свойства* — *уласцівасці*, *переменная* — *зменная*, *настройки* — *налады*. Такіх праблемных слоў каля 15. У дапамогу выкарыстоўваем папулярны перакладчык *Google translate*, беларускія версіі розных праграм, электронны слоўнік-даведнік па *HTML* З. Юрцэвіча», — расказвае Раман Андрыянаў. «Тэрміналогія, асабліва вузкаспецыяльная, займае важнае месца ў нашым курсе. Але мы пяць гадоў вучылі камп'ютарную лексіку на рускай мове, таму і нам самім многія беларускія тэрміны здаюцца дзіўнымі, нават звычайная пара *строка* — *радок*, тым больш слова *тэчка* (папка). Самае цікавае, што нашы слухачы, паколькі засвойваюць тэрміны па-беларуску, такім чынам выкарыстоўваюць іх у рабочых кантактах, нават калі размаўляюць па-руску. Напрыклад, можна пачуць такое: «Мы создали *асобнік* класса», — дадае Філіп Дайнека.

На перспектыву маладыя выкладчыкі плануюць пашыраць беларускамоўную адукацыйную сетку ў іншых ВНУ, а таксама стварыць каманду для рэалізацыі праектаў у праграмаванні. «Добра, каб была ўсталяваная тэрміналогія, каб не было ніякіх ваганняў у падачы матэрыялаў, каб можна было карыстацца спецыяльнымі дапаможнікамі на беларускай мове. Таксама ёсць рацыянальнасць у лакалізацыі некаторых праграм для звычайных карыстальнікаў», — лічаць Філіп Дайнека і Раман Андрыянаў.

Як бачым, беларуская мова можа і павінна быць мовай навучальнага працэсу ў дысцыпліне «Інфарматыка, інфармацыйныя тэхналогіі» як дзяржаўная мова, якой падуладна засваенне шэрагу новых паняццяў. Аднак гэтыя паняцці павінны выкарыстоўвацца паслядоўна і з арыенцірам на аўтарытэтныя крыніцы. Прапаную некаторыя пераклады праблемных тэрмінаў.

**Кацярына ШЧАСНАЯ,**
**малодшы навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі**

### Складаныя для ўжывання камп'ютарныя тэрміны

| Руская мова | Англійская мова | Падручнікі па інфарматыцы для школ | Тлумачальны слоўнік па інфарматыцы | Беларускамоўныя варыянты праграм, сайтаў (*Facebook, mail.ru, avast* і інш.) | Прапанаваны варыянт |
|---|---|---|---|---|---|
| вкладка | tab | укладка | — | укладка | укладка |
| всплывающее меню | popup menu | усплывальнае меню | усплыўное меню | вынвыркі | усплываючае меню |
| расширение | enhancement | расшырэнне | — | — | расшырэнне |
| изображение | image | відарыс | выява | абразок, малюнак | выява |
| инструменты | tools | інструменты | інструменты | налады | інструменты |
| загрузка | load, loading | загрузка | загрузка, ладаванне | загрузка | загрузка |
| закачка, закачать | download | — | — | спампаваць | пампаванне, спампаваць |
| надстройка | add-on module | — | — | убудова | надбудова |
| настройки | options/settings | настройкі | настройкі | наладкі, налады | настройкі |
| папка | folder | папка | папка | тэчка | папка |
| по умолчанию | default | па ўмаўчанні | — | па ўмаўчанні, па змаўчанні | па ўмаўчанні |
| приложение | application | дадатак | прылада, прыладдзе, дадатак | дастасаванне | дадатак |
| удалённый доступ | remoteaccess | — | аддалены (дыстанцыйны) доступ | падалены доступ | аддалены, дыстанцыйны доступ |
| установка | install | устаноўка, устанаўліваць | ладаванне | усталёўка, усталяваць | устаноўка, устанавіць |
| устройство | unit, device | устройства | прылада | убудова | прыстасаванне |
| щелчок, щёлкните | click | пстрычка,пстрыкніце | пстрычка | клік, клікніце, пстрыкніце | клік, клікніце |

## *Унікальны праект*

# Замест мора — песня

Яна марыла пра далёкія марскія падарожжы, але на ўсё жыццё акунулася ў іншую бездань — традыцыйнай музычнай культуры беларусаў. Стала першай выпускніцай Белдзяржкансерваторыі, якая атрымала вучоную ступень кандыдата, а потым і доктара мастацтвазнаўства. Яе імя адзначана ў кнізе «2000 выдатных інтэлектуалаў XXI стагоддзя», выдадзенай Міжнародным біяграфічным цэнтрам у Кембрыджы… Здаецца, пра Зінаіду Мажэйка можна распавядаць бясконца. Не так даўно даследчыца адсвяткавала 50-годдзе навуковай і творчай дзейнасці. Да гэтай знакавай падзеі прымеркаваны выхад у выдавецтве «Тэхналогія» сапраўды ўнікальнага юбілейнага выдання.

**Марына ВЕСЯЛУХА**



Так павялося, што выданні, прымеркаваныя да юбілеяў знаных асоб, поўняцца ўспамінамі калег, згадкамі сяброў, а калі гаворка ідзе пра знакамітага пісьменніка, то і творамі-прысвячэннямі. Самі дасягненні юбіляра трохі забываюцца, сыходзяць на другі план. Але ў выпадку з выданнем «Мажэйка Зінаіда Якаўлеўна: да 50-годдзя навуковай і творчай дзейнасці» быў выкарыстаны зусім іншы падыход. Тут усё строга, па-навуковаму дакладна, але ў той жа час цёпла і душэўна. І галоўны акцэнт кнігі — навуковыя адкрыцці, дасягненні. У якасці ўкладальнікаў выдання выступілі вядомыя даследчыцы традыцыйнай культуры беларусаў — кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар кафедры беларускай музыкі БДАМ Тамара Якіменка і Таццяна Бярковіч, кандыдат мастацтвазнаўства, загадчык кабінета народнай музыкі БДАМ.



*У кінаэкспедыцыі з Уладзімірам Караткевічам, 1970 г.*

Кніга складаецца з трох вялікіх раздзелаў. У першым пададзены храналагічны паказальнік прац Зінаіды Мажэйка, у другім — водгукі пра іх, напісаныя знанымі навукоўцамі, калегамі, паплечнікамі. Трэці раздзел знаёміць чытача з газетнымі інтэрв'ю, якія сама Зінаіда Якаўлеўна давала ў розны час, а таксама прадстаўляе храналогію публікацый у прэсе пра манаграфіі, кінафільмы ды этнаграфічныя канцэрты самабытных гуртоў. Тут жа прыводзіцца даведачная літаратура пра юбіляра.

Адметна, што распачынае выданне нарыс навуковай і навукова-практычнай дзейнасці З. Мажэйкі, створаны вядомым навукоўцам Янкам Саламевічам. Над тэкстам «Самы яскравы беларускі прадстаўнік этнамузыкалагічнай навукі» ён працаваў да апошніх дзён свайго жыцця. «Асаблівы дар бачання ключавых праблем этнамузыказнаўства ў сістэме гуманітарнай беларусістыкі (мовазнаўства, этнапсіхалогіі, сацыялогіі, культуралогіі), як і маштабнасць задач, што патрабуюць рашэння ў межах культурна-экалагічнай бяспекі, увесь час стваралі вакол асобы Зінаіды Мажэйкі нейкае гравітацыйнае поле з пульсуючай сілай духу творчасці», — піша Іван Уладзіміравіч. Сёння такую якасць па-моднаму назвалі б «творчай харызмай», і яна сапраўды ўласцівая Зінаідзе Якаўлеўне.

Пад кіраўніцтвам З. Мажэйка выконваліся тры шырокія этнамузыкалагічныя тэмы ў межах Дзяржаўных комплексных праграм навуковых даследаванняў, з яе дзейнасцю звязваецца сапраўдная маніфестацыя аўтэнтычнага гучання песні ў выкананні самабытных спеўных гуртоў, яна паспяхова працуе ў галіне візуальнай культурнай антрапалогіі… Шматлікія ўзнагароды міжнародных арганізацый, паспяховыя даклады на канферэнцыях, прызы кінафестываляў — адзін бок поспеху. З іншага боку стаіць тое «ўзрушэнне», яркае ўражанне, новы погляд, якія Зінаіда Якаўлеўна прынесла ў айчынную навуку. Ды і сама акадэмічная навука з З. Мажэйка стала іншай.

Ды што казаць, яна — сапраўдны Стралец: «Як жартуе мой муж, я ўсё жыццё адстрэльваюся. Бо не ўмею трымаць нос па ветры. Увесь час мяне нешта кранае, узрушвае», — кажа сама Зінаіда Якаўлеўна ў гутарцы з Аляксандрай Захарэнка. Так, менавіта пра адметнасці асобы даследчыцы можна даведацца з трэцяга раздзела кнігі, асабліва інфарматыўнымі ў гэтых адносінах сталі інтэрв'ю, а таксама — шматлікія фотаздымкі. У выданні — дзве ўклейкі, якія прадстаўляюць своеасаблівы фоталетапіс жыцця навукоўца. Тут і здымкі ў кузаве машыны — са студэнцкай фальклорнай экспедыцыі Белдзяржфілармоніі (на фота разам з З. Мажэйка можна пабачыць яе аднакурсніка, сёння вядомага кампазітара Ігара Лучанка), і фота ў гарах, падчас альпінісцкага ўзыходжання з мужам — спартсменам, заслужаным трэнерам Рэспублікі Беларусь Яўгенам Корбанам, і моманты сямейных урачыстасцей. Нават фота з Уладзімірам Караткевічам ёсць!

За паўстагоддзя навуковай і творчай дзейнасці Зінаідай Мажэйка зроблена сапраўды шмат. Думаецца, шмат яшчэ наперадзе! Таму зычым шаноўнай даследчыцы моцнага здароўя, сіл і натхнення для «адстрэльвання» новых мэт, узыходжання на новыя вяршыні.

## *Прэзентацыя*

# Сэрца ціха б'ецца…

У выдавецкай справе так павялося, што серыі кніг апынаюцца намнога больш паспяховымі і запатрабаванымі, чым асобныя выданні, што выходзяць і распаўсюджваюцца пры астатніх аднолькавых умовах (выдавец, кошт і г. д.). Іх з задавальненнем замаўляюць бібліятэкі, з радасцю набываюць у кнігарнях. Магчыма, дзейнічае маркетынгавы прынцып пазнавання: дызайн вокладак усіх выданняў серыі падобны. А, магчыма, пазнаёміўшыся з першай паспяховай кнігай, чытач імкнецца атрымаць гэткую ж асалоду ад астатніх.

**Чэслава ПАЛУЯН**



Як бы там ні было, кнізе «Пакуль б'ецца сэрца…», што не так даўно пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура», поспех гарантаваны. І ёсць на тое некалькі прычын Па-першае, выданне выйшла ў серыі «Вера. Надзея. Любоў», якая ўжо даўно палюбілася чытачам. Па-другое, прысвечана яно тэме кахання. Таму асабліва пільна будуць чытаць кнігу жанчыны, якія любяць шукаць адказы на свае жыццёвыя пытанні, звяртаюца па параду да любімых аўтараў. Не абыдуць увагай зборнік і мужчыны — таксама з мэтай знайсці адказы, але на пытанні, што датычаць адметнасцей паводзін жанчын.

Па-трэцяе, шырокае кола аўтараў, чые творы склалі зборнік, гарантуе гэткую ж шырокую патэнцыяльную аўдыторыю. А імёны тут сапраўды вядомыя: Навум Гальпяровіч, Зінаіда Дудзюк, Алег Ждан, Анатоль Бутэвіч, Юрась Нераток, Юлія Зарэцкая… У кнізе можна пазнаёміцца і з прозай твораў, якія звычай пішуць вершы, працуюць у жанры публіцыстыкі. Гэта Ірына Тулупава, Вольга Нарына, Таццяна Мушынская, Анатоль Кудласевіч…

Ну, і фактар суб'ектыўны: ужо з першага погляду кніга падаецца надзвычай прывабнай, а прачытаўшы адзін твор са зборніка, хочацца пазнаёміцца і з астатнімі. Аўтары шчыра, з тонкім лірызмам распавядаюць пра пачуцці сваіх герояў, пра радасць, пакуты, пра самоту і смех. Ім хочацца верыць, бо ў «сардэчных справах» няшчырым можа быць толькі вельмі кепскі чалавек.

І сапраўды ж, «прыгожыя хлопчыкі належаць усяму беламу свету», а першае каханне застаецца з намі назаўсёды. У сэрцы. А яно, як спявалі калісьці Руся і гурт *Partyzone*, нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды, не здаецца.

# Па гісторыю ў Мастацкі

Што аб'ядноўвае народы Беларусі, Украіны, Польшчы і Літвы? Натуральна, агульная гісторыя — гісторыя Вялікага Княства Літоўскага. І ці можа так здарыцца, што гэтыя самастойныя сёння краіны з адметнасцямі культурнага, эканамічнага, сацыяльнага развіцця раптам аб'яднаюцца, хоць на кароткі тэрмін?

**Юзэфа ВОЎК**

Усё магчыма! Але толькі на 5 гадзін. Час: 24 ліпеня з 18.00 да 23.00. Месца: унутраны дворык Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Нагода: вялікі канцэрт «Дзень культуры народаў Вялікага Княства Літоўскага», што пройдзе ў межах выстаўкі «Партрэты ўладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага».

Чаму мы згадваем пра гэтую падзею ў межах праекта «Кніжны свет»? Адказ просты: падчас імпрэзы можна будзе не толькі пазнаёміцца з сучаснай музычнай культурай Беларусі, Украіны, Польшчы і Літвы, прадстаўленай актуальнымі і папулярнымі гуртамі, але і набыць кнігі, якія распавядаюць пра агульную мінуўшчыну — гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. Адметна, што спецыяльныя вітрыны з гістарычнымі выданнямі ўжо цяпер можна пабачыць у Арт-кафэ Мастацкага музея, а набыць іх непасрэдна тут, на месцы, не завітваючы ў «Акадэмкнігу» (менавіта гэтая кнігарня ажыццяўляе тут выязны гандаль), — толькі падчас імпрэзы.

Што да асноўнай праграмы вечара, то ў межах канцэрта выступяць гурты «Палац» (Беларусь), «ГЫЧ Аркестр» (Украіна), *Volosi* (Польшча), *Aiste Smilgeviciute & SKYLE* (Літва). Будуць прадстаўлены вырабы традыцыйных рамесных майстэрняў ад Цэнтра народных рамёстваў «Скарбніца», а таксама арганізавана выстаўка касцюма, даспехаў і зброі (XIII — XVI стст., рэканструкцыя) ад Маладзёжнага грамадскага аб'яднання «Жывая гісторыя».



# Галоўнае — вучыць дабру

Кнігі дзіцячага пісьменніка Віктара Ляскоўскага добра ведаюць не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі. Асабліва даспадобы чытачам прыйшлася серыя казачных аповесцей, галоўным героем якіх з'яўляецца шчанюк Дэнік. А не так даўно ў Выдавецкім доме «Звязда» пабачыў свет зборнік яго вершаў для дзяцей «Дзе жывуць кенгураняты», тут жа хутка выйдзе і новая кніга вершаў аўтара. Пра шлях у літаратуру, ідэальную дзіцячую кнігу, а таксама адметнасці спалучэння тэксту і ілюстрацыі — наша гутарка з шаноўным аўтарам.

**— Віктар Леанідавіч, як здарылася, што вы сталі менавіта дзіцячым пісьменнікам? Як пачынаўся ваш шлях у літаратуру?**

— Я пачаў пісаць ужо даўно, яшчэ ў 1960-я гады, калі жыў ва Уладзівастоку. Тады часта працаваў з дзецьмі ў піянерскіх лагерах, і вось нейкія сустрэчы, размовы з імі натхнялі на стварэнне апавяданняў. Мне тады было год 16-17. Публікаваўся спачатку ў калектыўных зборніках ва Уладзівастоку, Хабараўску, творы выходзілі ў часопісе «Дальний Восток». Ва Уладзівастоку ў той час жыла дачка пісьменніка Рувіма Фраермана, аўтара знакамітага твора «Дзікі сабака Дынга, ці Аповесць пра першае каханне». Яна мне дала адрас і тэлефон другой жонкі Фраермана, якая жыла ў Маскве і працавала ў часопісе «Пионер». Удава пісьменніка пазнаёмілася з маімі апавяданнямі. Спадарыня Валянціна паспрабавала іх неяк выдаць у Маскве. Але ў той час у сталіцы было вельмі складана апублікавацца, да таго ж я не быў сябрам Саюза пісьменнікаў, таму надрукаваць апавяданні ў сталіцы не атрымалася.

У пачатку 1980-х я пераехаў у Мінск, пачаў працаваць рэдактарам газеты на станкабудаўнічым заводзе, пазней, ужо ў час перабудовы, калі сталі стварацца прыватныя выдавецтвы, мяне на працу ў адно з іх запрасіў вядомы публіцыст Яўген Будзінас. Такім чынам я трапіў у гэтую выдавецкую і пісьменніцкую абойму. Праз некаторы час з прапановай напісаць што-небудзь да мяне звярнуліся прадстаўнікі растоўскага выдавецтва «Проф-прэс». Я напісаў вершы на зададзеную тэму, у нас наладзілася надзвычай плённае супрацоўніцтва, вынік якога — каля 60 кніг. Але не думайце, што гэта надта многа — мы вядзём гаворку пра дзіцячыя кнігі на кардоне. Трохі пазней я зноў пачаў пісаць апавяданні і аповесці для дзяцей.

**— З якімі беларускімі выдавецтвамі вы цяпер супрацоўнічаеце?**

— Мае кнігі выходзяць у выдавецтве «Кніжны Дом». Да прыкладу, аповесці «Шчанюк Дэнік і яго сябры» і «Новыя прыгоды Дэніка» пабачылі свет менавіта тут. У «Кніжным доме» выйшаў і мой зборнік «Рознакаляровыя вершы». Сёлета мы распачалі досыць плённае супрацоўніцтва і з Выдавецкім домам «Звязда», дзе выйшаў зборнік вершаў «Дзе жывуць кенгураняты». Дарэчы, сюды мяне прывёў пісьменнік Юрый Сапажкоў, ён калісьці таксама працаваў з Будзінасам.

**— Вашы кнігі выходзяць і ў Расіі, і ў Беларусі. Ёсць нейкія адрозненні ў падыходах выдаўцоў да справы падрыхтоўкі кніг для дзяцей?**

— Няма. Проста ў Расіі кнігі лепш прадаюцца. Таму што рынак вялікі. Больш за тое, мае кнігі, выдадзеныя ў Мінску, таксама паступаюць у асноўным на расійскі рынак. Ды прыкладу, «Дэнік і яго сябры» выйшла тыражом у 5 тысяч асобнікаў. З іх у нашай краіне засталося максімум 500 экзэмпляраў. Астатняя частка — у Расіі. Крыўдна, што кнігі беларускіх аўтараў, я маю на ўвазе рускамоўных пісьменнікаў, прасцей набыць у Расіі, чым тут, у Беларусі.

**— А вам самому больш прыемна, каб вашы кнігі прадаваліся ў Расіі ці Беларусі?**

— Маю аповесць зусім хутка збіраюцца выдаць у Польшчы, зацікавіліся кнігамі і казахскія выдаўцы. Пісьменніку прыемна, калі яго кнігі выдаюцца як мага шырэй, і ніводзін з аўтараў не адмовіцца, каб яго творы былі апублікаваныя і на іншых мовах. Справа ў іншым. Калі, да прыкладу, правесці эксперымент — патэлефанаваць у кнігарні і запытацца, ці ёсць у продажы мае новыя кнігі, — то наўрад ці адказ будзе станоўчы. Натуральна, я быў бы вельмі задаволены, калі б мае аповесці і вершы для дзяцей чыталі ў Беларусі. Напэўна, іх ведаюць, але не так шырока.

Думаецца, тут рынак таксама дыктуе свае ўмовы. Дзіцячыя кнігі сёння вельмі складана выдаваць. Папера дарагая, паліграфія. Таму толькі мужны выдавец рызыкуе працаваць у сегменце дзіцячай літаратуры.

**— Калі забыцца на фінансавыя справы і паразважаць пра ідэальны вобраз кнігі для дзяцей… Якой, на вашу думку, яна павінна быць?**

— Дзіцячая кніга без ілюстрацый — не дзіцячая. Нядаўна патэлефанавалі з фірмы, што займаецца распаўсюджваннем літаратуры ў электронным варыянце, і прапанавалі супрацоўніцтва. Я ж адказаў, што мае кнігі не будуць глядзецца і нармальна чытацца ў такім фармаце. Гэта не толькі апавяданні і вершы — апавяданні і вершы разам з ілюстрацыямі. Часта малюнкі надзвычай удала дапаўняюць тэкст. Яны важныя — як у мультфільме. Прыгадваецца сімпатычны герой Чабурашка з кнігі Эдуарда Успенскага. Пісьменнік не даў ніякага слоўнага партрэта гэтаму герою, а мастак-мультыплікатар стварыў менавіта такі вобраз. Пагадзіцеся, Чабурашку цяпер немагчыма ўявіць па-іншаму. Тое самае ў кнізе. Калі дзіця чытае тэкст і бачыць малюнак, то расповед успрымае інакш.

Варта памятаць і пра нацыянальны менталітэт, кнігавыдавецкія традыцыі, што цягам многіх год складваюцца ў краіне. Мне часта даводзілася ўдзельнічаць у міжнародных кніжных выстаўках-кірмашах. І вось аднойчы ў Балоны мы завялі гутарку з французскімі выдаўцамі. Яны распавялі вельмі цікавую рэч. Далёка не ўсе кнігі французскіх пісьменнікаў на айчынным мове добра прадаюцца ў франкамоўнай вобласці суседняй Бельгіі. Менталітэт народа іншы. Фактычна тое самае мы цяпер назіраем і ў нашай краіне. Дзеці прывыклі да якасных ілюстрацый, якія былі ўласцівыя добрым савецкім кніжкам. Старыя мультфільмы таксама дасканала, дакладна прамаляваныя. І калі бацькі сёння набываюць дзецям кнігі, то арыентуюцца ў першую чаргу на свой густ — дзіцячыя кнігі савецкага часу.




**— А наколькі моцным павінен быць дыдактычны падтэкст у дзіцячай кнізе?**

— Натуральна, дыдактыка не павінна гучаць «у лоб», быць настаўленнем. Дзеці гэта цярпець не могуць! Дыдактыка мусіць быць закладзена ў падтэкст, у паводзіны герояў кнігі. Больш за тое, дзіцячая кніга абавязкова мае быць добрай, несці святло, вучыць дабру, дружбе, патрыятызму.

**— Складваецца ўжо цэлая серыя вашых кніг пра шчанюка Дэніка і яго сяброў. Хто такі Дэнік?**

— У маіх знаёмых быў сабака Дэнік, Дэнька. Цудоўны, надзвычай разумны, добры, верны, ласкавы! Я з ім сябраваў. Вось і герой маіх аповесцей разам з гаспадаром жыве на ферме, ён паступова знаёміцца з катом, індыком, іншымі жывёламі. Яны разам выбіраюць Дэніку імя, абараняюць цялушку ад продажу, нават ладзяць акцыю па абароне фермы і перасякаюць дзяржаўную мяжу. З імі здараюцца розныя цікавыя прыгоды.

**— Вы напісалі столькі вершаў для дзяцей, аповесцей, маеце шмат задум. Што для вас служыць крыніцай натхнення?**

— Вось, да прыкладу, іду я па вуліцы. Побач — хлопчык з бабуляй. Хлопчык кажа: «Бабуля, а калі ў нас быў канец свету, я не спалохаўся». — «Які канец свету?» — здзіўляецца бабуля. «Ну, калі ў нас святло адключылі…»

Або неяк у маскоўскім заапарку хлопчык стаяў каля жырафа і разважаў: «Вось гэта шыя! Як ён яе мые?» Я проста назіраю за людзьмі, слухаю… Так і нараджаюцца новыя вершы, сюжэты. А яшчэ я вяду дзіцячую літаратурную студыю, слухаю размовы дзяцей.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**




## У добры шлях!

**Мікола ШАБОВІЧ**

З Людмілай Клачко пазнаёміўся выпадкова падчас наведання выдавецтва «Чатыры чвэрці». Там якраз рыхтавалася кніга яе вершаў «На пару слов…». Захацелася пазнаёміцца, пра што пішуць маладыя аўтары, і я папрасіў на колькі хвілін яе рукапіс. Першы верш, які трапіў на вока, адразу заінтрыгаваў сваёй неардынарнасцю, таямніцай. Я нават прачытаў яго некалькі разоў, хоць і дасюль не ўпэўнены, што разгадаў усе загадкі тэксту і падтэксту.

*Глотнул меня —*
*и захлебнулся морем…*
*Ищи причал!*
*Я хороша,*
*как бездна и как горе —*
*И ты кричал…*
*Ты полон мной. Да что там!*
*Если оба*
*Мы мной — полны…*
*Не ждал,*
*что с головой накроет проба*
*Моей волны…*

Нават па гэтым фрагменце верша можна меркаваць, што ў паэзію прыходзіць творца са сваёй метафорыкай, сваім стылем пісьма. Там жа, у выдавецтве, я пазнаёміўся збольшага і з астатнімі вершамі маладой паэткі, сёетое параіў папраравіць, дзе-нідзе ўзмацніць рыфму, падкарэкціраваць рытм. Чытаючы зараз кнігу «На пару слов…», гатовы зноў паўтарыць тыя ж мае кампліменты і — заўвагі. Радуе тое, што ў кнізе ёсць нямала (як мінімум — добры дзясятак) практычна бездакорных твораў, за якія не было б сорамна і дасведчанаму літаратару. Перш-наперш, гэта такія вершы, як «Две женщины живут во мне», «Как сову меня одень — в перья…» (так і хочацца сяваць), «Сама себя, как бабочку — булавкой…», «Для меня не найдётся места…», «Зайди ко мне — на пару слов…», «Я о тебе не думаю…», «Всё замерло… (в предчувствии ли счастья?)».

Што можна пажадаць паэтэсе? Часам больш дакладных рыфмаў, бо такія рыфмы, як «жива — обнажена», «белизну — лицу» наўрад ці сведчаць пра высокую тэхніку вершаскладання. Іх, безумоўна, можна было б пазбегнуць. Рытмічная арганізацыя таксама часам не на вышыні. Але ж гэта дробязі. У цэлым першая кніга Людмілы Клачко пакідае самае прыемнае ўражанне, і ў гэтым, думаю, пераканаецца кожны, хто яе прачытае. Спадзяюся, што паэтэса зможа яшчэ неаднойчы па-сапраўднаму здзівіць сваіх прыхільнікаў, якіх у яе нямала сёння, а будзе яшчэ больш заўтра. І хоць творца піша: «Мне же ровнять строфу мою / Только своей рукой», спадзяюся, што некаторыя заўвагі-пажаданні яна таксама прыме пад увагу. У добры шлях!

# Сто выдатных беларусаў

Сярод найбольш паказальных характарыстык эпохі постмадэрну сустрэнем каталогавае мысленне — сучасны варыянт «энцыклапедычнай ідэі», высунутай Асветніцтвам. Інакш кажучы, сучасны чалавек (няхай нават добра дасведчаны, які лічыць сябе суб'ектам afterpostmodern'а) звычайна імкнецца да сістэматызаванага ўяўлення звышнасычанай інфармацыйнай прасторы.

Напэўна, улічваючы гэта, Інстытут беларускай гісторыі і культуры сумесна з выдавецтвам «Харвест» распачаў выданне кніжнай серыі **«100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»**. Маюцца на ўвазе тыя постаці культуры, літаратуры, мастацтва XIX — XX стагоддзяў, якія ўвасаблялі глыбока нацыянальныя погляды на гісторыю, мастацтва, культуру Бацькаўшчыны.

Выдаўцы адзначаюць, што мэта новай серыі не ў тым, каб даваць падрабязныя біяграфіі, але выяўляць тое, што занеслі ў скарбніцу нашай культуры тыя ці іншыя дзеячы, распавядаць пра іх «знакавыя» здзяйсненні. Улічваючы літаральна «бягучы» перманентны стан носьбітаў «каталогавага мыслення» (нас з вамі), абраны «кішэнны фармат»: 64 старонкі разам з ілюстрацыямі-фотаздымкамі.

Ужо выданыя «знакапісы» дзейнасці Міхала Андрыёлі, Фларыяна Ждановіча, Мітрафана Доўнара-Запольскага. Плануецца яшчэ амаль 70. Тым часам каля двух дзясяткаў знакавых пасад застаюцца вольнымі. Напэўна, выдаўцы чакаюць прапаноў імёнаў, а таксама рукапісаў. Паглядзім, аднак, на чацвёрку новых асобнікаў: **«Напалеон Орда», «Карусь Каганец», «Мечыслаў Карловіч», «Элаіза Пашкевіч»**.

Выдатнай асаблівасцю падаецца ў іх менавіта біяграфічная драматургія. Вось жыццёвая драма Напалеона Орды: прыналежнасць да заможнага шляхецкага роду татарскага паходжання, нясконаны ўніверсітэт, удзел у паўстанні супраць расійскага царызму, як вынік — эмігранцкі лёс. 22 гады ў Парыжы: заняткі музыкай, жывапісам, цеснае знаёмства і сяброўства з Шапэнам і Лістам, іх высокая адзнака музычнага таленту славянскага майстра. Недахоп сродкаў, але поспех у якасці музычнага педагога. Падарожжы па шматлікіх еўрапейскіх краінах з планшэтам, алоўкам і фарбамі — фіксацыя відарысаў, помнікаў архітэктуры, арыгінальных «профіляў» еўрапейскіх сталіц. Жаніцьба з француженкай і нараджэнне сына. Неадвязная туга па радзіме, нарэшце — у адзіноце — вяртанне (рафінаваная француженка не мела ахвоты цягнуцца ў невядомае глухое Палессе).

Шчасце сустрэчы з роднымі мясцінамі, але пакуты з-за народных пакут. Канфіскацыя спадчыны і маёнтка — помста за колішнюю «апазіцыю». Поспех, аднак, у фермерскай і меліярацыйнай дзейнасці, але зноў царская помста: у 1861 г. мастак, фермер, музыка (усё сплялося ў яго лёсе) Орда абвінавачаны ў падтрымцы паўстанцаў і пазбаўлены права арэнды, у выніку шукае прытулку ў маёнтку сястры Гартэнзіі Скірмунт. Там і сустрэла адпачынак змучаная і засмучаная душа, там ізноў магчыма было жыць мастацтвам. Орда пачынае эксперыментаваць з малюнкамі, якія носяць у асноўным дакументальны характар. З 1872 года — на Валыні, настаўнікам музыкі і жывапісу ў доме генерала Адама Ржэвуцкага, дзе таксама панавала атмасфера пакланення музам. І вось тут, нарэшце, пачынаецца «знакавая для культуры Беларусі дзейнасць»: стварэнне мастацкай энцыклапедыі гістарычных мясцін беларускага краю — дзейнасць, якая, паводле выдавецкай канцэпцыі, павінна была вызначаць змест асобніка энцыклапедычнай серыі. Але ж трэба было прайсці шлях гартавання Асобы. У Напалеона Орды ён заняў амаль 70 гадоў. У наступныя 20 ён працаваў над ажыццяўленнем сваёй звышзадачы, і цяпер дзякуючы яму мы маем каля сотні малюнкаў, на якіх увасобленая Беларусь канца XIX ст.: выбітны ў спалучэнні створанага рукою Бога і чалавека край.

Здавалася б, «кішэнны фармат» не перадумоўлівае ні псіхалагічнага падтэксту, ні глыбінных светапоглядных і эстэтычных назіранняў, ні абрысу грамадскага і мастацкага асяроддзя, ні дакументальных звестак, але ж вось усё яно спалучаецца на 64 малафарматных старонках! Тыя ж якасці вылучаюць іншыя згаданыя асобнікі (плюс цытаванне мастацкіх твораў у жыццяпісах літаратараў), так што сучаснаму чытачу, найноўшаму энцыклапедысту, пашанцавала!

**Таццяна СТУДЗЕНКА**













# Бачыць зямлю вачыма чыстымі




Серыя «Беларускі кнігазбор» пры падтрымцы ТАА «Харвест» падаравала чытачам яшчэ адзін каштоўны асобнік: выбраныя творы празаіка Віктара Карамазава. У выданне ўключаныя раман «Мастак і парабкі», шэраг апавяданняў і эсэ, інтэрв'ю пісьменніка, а таксама ўступнае слова мастака Анатоля Бараноўскага.

Згаданая прадмова паказальная: словы майстра жывапісу пра пісьменніка, які ўсё жыццё вельмі цесна з жывапісам сябраваў. Віктар Карамазаў — і сам тонкі мастак, да таго ж распачынальнік унікальнай у беларускай літаратуры плыні: твораў пра мастакоў і мастацтва. Пачаўшы з рамана пра генія нацыянальнага пейзажа В. Бялыніцкага-Бірулю («Крыж на зямлі і поўня ў небе»), ён напісаў творы і пра мастакоў Бархаткова, Вашчанку, Жукоўскага, Неўрава ды іншых.



*Мікалай Неўраў. Аўтапартрэт, 1858 г.*

Для «Кнігазбору» абраны раман пра Мікалая Неўрава. Выдатны мастак, знакаміты, прызнаны: яго работы, асабліва ў жанры партрэта (партрэт акцёра Шчэпкіна), у тэматычным жанры («Гандаль», «Протадыякан», «Агледзіны», Патрыярх Нікан перад судом»), у свой час, у другой палове XIX ст., прызнаваліся шэдэўрамі. І раптам санавіты майстра — карэнны масквіч, бліжэйшы сябра вялікіх жывапісцаў Сурыкава, Рэпіна, Паленава, Васняцова — развітаўся з Масквой, пакінуўшы заможны дом, сям'ю, сяброў, ды з'ехаў ў маленькую беларускую вёсачку на Магілёўшчыне. Пачаў пісаць ужо не купцоў і баяр, а вясковых баб і мужыкоў. Сучаснікі ўспрынялі гэты ўчынак ні больш ні менш як бунт супраць царскай Расіі. Мастака напаткаў трагічны лёс: пражыўшы ў Лыскаўшчыне дзесяць гадоў, 3 мая 1904 года ён застрэліўся.

Што прывяло да самагубства? Гэтая трагічная інтрыга трымае раман, але не дае канчатковага адказу. Варта падкрэсліць, што пісьменнік яшчэ ў 1968 годзе доўгі час працаваў «на мясцовасці»: хадзіў па хатах у Лыскаўшчыне і суседніх вёсках, распытваў у сялян пра мастака, як яму тут жылося, як загінуў, як успрымалі яго ў вёсцы.

Анатоль Бараноўскі перадусім падкрэслівае тыя якасці карамазаўскай прозы, якія стасуюцца з пластычным мастацтвам: «жывапісна-вобразную ляпніну ў мове, у фактуры вобразаў», «натуральна-жывапісную кампазіцыю прыроднай прасторы ад першага буйнога плана... да перспектывы, глыбіннай... у трансцэндэнтнабожым часе». Але не менш істотным падаеццаназіранне наконт асаблівасці ўспрымання пісьменнікам вёскі — арыгінальнасць яго погляду менавіта як вяскоўца. «Вось што нам трэба! Бачыць сваю зямлю такою, якою бачылі яе ў маленстве вачыма чыстымі!» Словы Віктара Карамазава мастак Анатоль Бараноўскі сустракае як сведчанне братэрства-аднадумства паміж імі. Насамрэч падаецца, што гэта — творчая візітка абодвух.

**Лея ХАШЫМБА**

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

### Кітайская літаратура

**Пад крыламі Дракона**: сто паэтаў Кітая / [укладанне і пераклад на беларускую мову Міколы Мятліцкага; аўтар прадмовы Алесь Карлюкевіч]. — Мінск: Звязда, 2012. — 277 с. — Зmяшчае аўтараў: Гу Кайчжы, Жуань Цзі, Лю Чжэнь, Се Ань, Се Хуань, Сун Цзыхоў, Цао Чжы, Цзо Сы, Цюй Юань, Чжан Хуа і інш. — 2500 экз. — ISBN 978-985-7059-09-6 (у пер.).

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Волк и семеро козлят**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Галина Шепелевич]. — Минск: ЮниПрессМаркет, 2013. — 10 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-560-288-1.

**Детям о маме**: [произведения классических и современных писателей: для среднего школьного возраста / составитель Велько Александр Владимирович; художник Л. О. Сидельникова]. — 3-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2012. — 45 с. — Издано при участии ООО «Семья – Единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — Содержит авторов: Баруздин С., Безымянная О., Голявкин В., Коротаев В., Косяков И., Надсон С., Осеева В., Параскевин А., Пермяк Е., Савицкая С., Чарская Л. — Содержит пересказы автора: Дьяченко Г., протоиерей — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-566-4.

**Детям о материнской любви**: [стихи, рассказы и притчи для младшего и среднего школьного возраста / составитель Велько Александр Владимирович; художник Е. А. Покалицына]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 61 с. — Издано при участии ООО «Семья – Единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — Содержит авторов: Алчевская Х., Белоусов И., Блок М., Бунин И., Есенин С., Мережковский Д., Надсон С., Осеева В., Плещеев А., Романов К., Серова Е., монахиня Смарагда, Соловьев-Несмелов Н., Старостина И., Стещенко Н., Сухомлинский В., Татьяничева Л., Тургенев И., Федоров-Давыдов А., Черный С. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-572-5.

**Детям о милосердии**: [произведения классических и современных писателей / составитель Велько Александр Владимирович; художник Н. В. Сустова]. — 2-е изд., переработанное. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 77 с. — Издано при участии ООО «Семья – Единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — Содержит авторов: Брянцева М., Кудрявцев И., Кургузов С., Лаврентьева С., Одоевский В., Осеева В., Пермяк Е., Стещенко Н., Хвольсон А., Чарская Л. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-568-8.

**Детям о честности**: [стихи и рассказы классических и современных писателей / составитель Велько Александр Владимирович; художник Г. Л. Иванова]. — 2-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2012. — 77 с. — Издано при участии ООО «Семья – Единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — Содержит авторов: Белоусов И., Волгина Т., Голявкин В., Евстигнеев М., Зощенко М., Кушнер А., Лаврентьева С., Мамлин Г., Носов Н., Осеева В., Пантелеев Л., Пермяк Е., Соколовский А., Соловьев-Несмелов Н., Таланов Ю., Федоров-Давыдов А., Хвольсон А., Чарская Л. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-567-1.

**Карапетьян, Р. А.** Били-били мы баклуши: [стихи: для дошкольного и младшего школьного возраста] / Рустам Карапетьян; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-13-3.

**Карапетьян, Р. А.** Все на свете очень славно: [стихи: для дошкольного и младшего школьного возраста] / Рустам Карапетьян; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-18-8.

**Крылатые слова и словечки из мультиков**. — Москва: Астрель, 2012. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит художников: Боголюбова О. А., Бордюг С. И., Запесочная Е. А., Кострина И. Д., Лемкуль Ф. В., Молоканов Ю. А., Попович О. В., Прыткова К. Ю., Рудаченко М. Я., Савченко А. М., Сазонов А. П., Трепенок Н. А., Халилова А. Р. — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-45635-0 (Астрель). — ISBN 978-985-20-0128-1 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Стихи: [для дошкольного возраста] / С. Михалков; [художники: Е. Гальдяева, В. Сутеев, Б. Тржемецкий]. — Москва: Астрель, 2012. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-42462-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1759-3 (Харвест) (в пер.).

**Остер, Г. Б.** Домашние вредные советы: [для младшего школьного возраста] / Г. Остер; [художник А. Мартынов]. — Москва: Астрель, 2012. — 127 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-27109-0 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0709-9 (Харвест) (в пер.).

**Репка**: русская народная сказка: [для чтения взрослыми детям / художник Галина Шепелевич]. — Минск: ЮниПрессМаркет, 2013. — 10 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-560-287-4.



***Сіняўскі, П. Зачараваная гаспадарка: казкі гаспадара Пятра з-пад Полацка / Пятро Сіняўскі; [мастак Марыя Каратаева; слоўка пра аўтара: Алена Масла]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 85 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-02-1394-5.***

*Пісьменнік Пятро Сіняўскі вельмі добра ведае, як рашыць надзвычай складаную задачу — знітаваць казачныя падзеі з сучаснасцю, ды зрабіць гэта так адмыслова, што нават маленькія чытачы не даведаюцца, у чым справа. А яшчэ казкі напісаныя трапнай, сакавітай мовай, што не можа не надаваць дадатковай каштоўнасці творам. Больш за тое, прыгоды герояў, іх вандроўкі ў пошуках шчасця і сэнсу жыцця могуць быць цікавымі не толькі дзецям, але і дарослым.*

**Ситников, Ю.** Странные соседи: [повесть: для среднего и старшего школьного возраста] / Юрий Ситников. — Минск: Букмастер, 2013. — 252 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-467-7 (в пер.).

**Сказки со всего света**: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составитель Сергей Кузьмин]; иллюстрации Владимира Пустовалова. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 223 с. — Содержит авторов: братья Гримм, Михайлов М., Перро Ш., Ушинский К. — Содержит обработчика: Кузьмин С. — Содержит пересказчика: Кузьмин С. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0528-9 (в пер.).

**Сказки-сказочки**: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составитель Сергей Кузьмин]; иллюстрации Владимира Пустовалова. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 223 с. — Содержит авторов: братья Гримм, Михайлов М., Перро Ш., Ушинский К. — Содержит обработчика: Кузьмин С. — Содержит пересказчика: Кузьмин С. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0527-2 (в пер.).

**Старые-старые сказки**. — Москва: Астрель, 2012. — 63 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-45972-6 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1746-3 (Харвест) (в пер.).

**Три поросенка**: английская народная сказка: [для чтения взрослыми детям / художник Галина Шепелевич]. — Минск: ЮниПрессМаркет, 2013. — 10 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-560-286-7.

**Хрестоматия для внеклассного чтения в 3 классе**: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / [составитель О. И. Гапаненок]. — Минск: Сэр-Вит, 2013. — 251 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-419-691-6 (в пер.).

**Хрестоматия для внеклассного чтения в 4 классе**: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / [составитель О. И. Гапаненок]. — Минск: Сэр-Вит, 2013. — 277 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-419-690-9 (в пер.).

**Черных, Ю. Е.** Пейте, дети, молоко — будете здоровы!: [для дошкольного возраста] / Ю. Черных. — Москва: Астрель, 2012. — 28 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит художников: Бордюг С., Гальдяева Е., Глазов И., Трепенок Н. — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-45814-9 (Астрель). — ISBN 978-985-20-0293-6 (Харвест) (в пер.).



***Зборнік твораў 1920 — сярэдзіны 1960-х гг.: проза, паэзія: [для старэйшага школьнага ўзросту]. — 2-е выд. — Мінск: Беларусь, 2012. — 396 с. — Змяшчае аўтараў: Броўка П., Брыль Я., Бядуля З., Гарэцкі М., Дубоўка У., Зарэцкі М., Крапіва К., Куляшоў А., Панчанка П., Танк М., Цвэйг С. — Змяшчае перакладчыка: Чапега У. — 2000 экз. — ISBN 978-985-01-1012-1 (у пер.).***

*Выданні падобнага кшталту з'яўляюцца добрым дапаможнікам не толькі для настаўнікаў, але і для школьнікаў. Яны прадстаўляюць выбраныя творы пісьменнікаў пэўнага перыяду, разам з тым распавядаючы пра адметнасці літаратуры таго часу. Таму гэта не проста зборнік, але і своеасаблівая панарама развіцця беларускай паэзіі і прозы, шлях, які наша краснае пісьменства прайшло за 40 гадоў.*

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Игнатенко, Н. А.** Сказочные путешествия с приключениями: [для младшего школьного возраста / Наталья Игнатенко; [художник Дарья Гончарик-Чернявская]. — Минск: Звязда, 2012. — 68 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7059-06-5 (в пер.).

**Квилория, В. Т.** Мороз Иваныч и Морозко: [сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста] / Валерий Квилория; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-15-7.

**Квилория, В. Т.** О Бублике и Мышке: [сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста] / Валерий Квилория; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-16-4.

**Квилория, В. Т.** Перепелка и Воробей: [рассказ: для дошкольного и младшего школьного возраста] / Валерий Квилория; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-17-1.

**Квилория, В. Т.** Часы и стрелки: [сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста] / Валерий Квилория; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-20-1.

**Квиткевич, С. Б.** Волшебная искра: [стихи: для дошкольного и младшего школьного возраста] / Сергей Квиткевич; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-14-0.



***Чыгрын, С. М. Краязнаўчымі сцежкамі Зэльвеншчыны: артыкулы, гутаркі / Сяргей Чыгрын. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 147 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7057-19-1 (у пер.).***

*Кожная чарговая кніга краязнаўцы і пісьменніка са Слоніма Сяргея Чыгрына — своеасаблівае адкрыццё для аматараў нашай гісторыі. Вось і цяпер аўтар распавядае пра адметныя старонкі з летапісу Зэльвеншчыны. Гэта расповед пра мінуўшчыну, помнікі архітэктуры, пра слаўных землякоў. Сярод іх, дарэчы, нямала вядомых літаратараў і майстроў. Да прыкладу, ёсць у кнізе згадкі пра пісьменнікаў Уладзіміра Мазго, Юрку Голуба, Валянціну Ададураву, майстра чарнадымленай керамікі Сяргея Худзяева. Не забываецца аўтар і на своеасаблівыя візіткі краю — Ганненскі кірмаш, Сынкавіцкую царкву і каломну ля Алексічаў. Больш за тое, выданне багата ілюстраванае. Некаторыя здымкі друкуюцца ўпершыню.*

**Квиткевич, С. Б.** Сказочный дождь: [стихи: для дошкольного и младшего школьного возраста] / Сергей Квиткевич; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-19-5.

**Севивончик**: приложение к альманаху детского творчества «Севивон» / Еврейское культурное общество «Эмуна»; [редактор-составитель: В. Л. Лясковский]. — Минск: В.И.З.А. ГРУПП, 2012. — 35 с. — 100 экз.

**Фатнев, Ю. С.** Бре-ке-рекс и другие истории: сказки: [для младшего и среднего школьного возраста] / Юрий Фатнев; художник Елена Агина. — Гомель: Барк, 2012. — 78 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-6763-91-8 (в пер.).

**Читаем по слогам**: раскраска: [для младшего школьного возраста]. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2012. — 10 с. — 10000 экз.

### Беларуская літаратура

**Вашчанка, А. П.** Хлопчык Лёкса і Купальскі Дзядок: аповесць: [для сярэдняга школьнага ўзросту] / Аляксандр Вашчанка; [мастак Марына Мароз]. — Мінск: Рэдакцыя газеты «Звязда», 2012. — 133 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-90303-7-6 (у пер.).

**Наркевіч, С.** Віялета, бабулечка і чароўны дроцік: казка: [для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту] / Стася Наркевіч; [малюнкі Алены Сянько]. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2013. — 21 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7026-85-2.

**Чарняўскі, М.** Босая кавалерыя: аповесці, апавяданні: [для сярэдняга школьнага ўзросту] / Мікола Чарняўскі; [мастак Валянцін Макаранка]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 174 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-02-1420-1 (у пер.).

### Тэорыя літаратуры. Літаратурная тэхніка

**Горьковские чтения**: Десятая республиканская научно-практическая конференция (Брест, 27 марта 2012 г.): материалы и доклады / под общей редакцией Т. В. Сенькевич и А. М. Мяснянкиной. — Брест: Полиграфика, 2012. — 223 с. — Часть текста на белорусском языке. — 300 экз. — ISBN 978-985-6970-49-1.

**Ренанский, А. Л.** Писатель как живописец: визуальные практики в литературе и искусстве: курс лекций / А. Л. Ренанский; Государственный институт управления и социальных технологий БГУ, Кафедра искусств. — Минск: ГИУСТ БГУ, 2013. — 207 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-491-098-7.

**Судленкова, О. А.** Практикум по введению в литературоведение / О. А. Судленкова, О. Э. Судленкова, Э. В. Ломако; Министерство образования Республики Беларусь, Минский государственный лингвистический университет. — 2-е изд., переработанное и дополненное. — Минск: МГЛУ, 2013. — 100 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-460-478-7.

**Христианский гуманизм и его традиции в славянской культуре**: сборник научных статей / Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный университет им. Ф. Скорины; [редколлегия: Т. Н. Усольцева (главный редактор), И. Н. Афанасьев, Н. В. Суслова]. — Гомель: ГГУ, 2009– — Основан в 2009 г. — ISSN 2223-1579.

Вып. 6. — 2012. — 143 с. — Часть текста на белорусском языке. — 40 экз.

**Эліза Ажэшка ў эстэтычнай прасторы славянскіх краін**: зборнік артыкулаў / [рэдкалегія: С. П. Мусіенка і інш.]. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 174 с. — Частка тэксту на польскай і рускай мовах. — 120 экз. — ISBN 978-985-7057-22-1.

### Беларуская літаратура

**Жыгоцкі, М.** Якуб Колас і легендарны дзед Талаш: нарысы / Мікола Жыгоцкі; [аўтар прадмовы Уладзімір Гніламёдаў]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. — 252 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 1000 экз. — ISBN 978-985-02-1422-5 (у пер.).

### Краязнаўства

**Гомельский район**: [история и современность]. — 2013. — 23 с. — 750 экз.

### Гісторыя
### Гістарычная навука. Гістарыяграфія

**Архіварыус**: зборнік навуковых паведамленняў і артыкулаў / Дэпартамент па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. — Мінск, 2001– — Выходзіць з 2001 г. — ISSN 2225-4412.

Вып. 10 / [укладальнік: З. Л. Яцкевіч; рэдкалегія: З. Л. Яцкевіч (адказны рэдактар) і інш.]. — НГАБ, 2012. — 358 с. — Частка тэксту на англійскай, польскай і рускай мовах. — Рэзюмэ паралельна на беларускай, рускай і англійскай мовах. — 200 экз.

**Зональный государственный архив в г. Пинске**: путеводитель: 1939–1941; 1944–2007 / Главное управление юстиции Брестского облисполкома, Зональный государственный архив в г. Пинске; [составители: Н. В. Никитина, Л. Н. Пригодич; редколлегия: Г. В. Лысенко, Л. Н. Пригодич]. — Пинск: Пинская региональная типография, 2012. — 355 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6515-33-3 (в пер.).

### Гісторыя Старажытнага свету

**История Древнего мира**: рабочая тетрадь с контурными картами: 5-й класс: [пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / специальное содержание разработали: В. А. Федосик, И. А. Авдеев, О. В. Перзашкевич]. — Минск: Белкартография, 2013. — 71 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-508-225-6.

### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**Краткий курс истории России с древнейших времен до начала XXI века**: учебное пособие / [Р. А. Арсланов и др.]; под редакцией В. В. Керова. — Москва: Астрель, 2012. — 846 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-271-09394-4 (Астрель). — ISBN 978-985-16-1371-3 (Харвест).

**Краткий курс истории России с древнейших времен до начала XXI века**: учебное пособие / [Р. А. Арсланов и др.]; под редакцией В. В. Керова. — Москва: Астрель, 2012. — 846 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-46030-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1679-4 (Харвест) (в пер.).

**Тарас, А. Е.** Войны Московской Руси с Великим Княжеством Литовским и Речью Посполитой в XIV–XVII веках / А. Е. Тарас. — Москва: АСТ; Минск: Харвест, 2013. — 798 с. — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-035350-7 (АСТ). — ISBN 978-985-13-6108-9 (Харвест) (в пер.).

### Гісторыя Беларусі

**Алексейчик, Я. Я.** Восьмой грех: историческое эссе / Яков Алексейчик. — Минск: Звязда, 2012. — 365 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7059-03-4 (в пер.).

**Бохан, Ю. М.** Узбраенне насельніцтва беларускіх зямель у XIV–XVI стагоддзях / Ю. М. Бохан. — Мінск: Беларусь, 2012. — 150 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-01-0995-8 (у пер.).

**Витебская губерния 1917–1924 гг.**: документы и материалы / Департамент по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь, Национальный архив Республики Беларусь, Государственный архив Витебской области; [составители: Н. В. Воронова и др.; редколлегия: В. И. Адамушко и др.]. — Витебск: Витебская областная типография, 2012. — 407 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-534-029-5 (ошибоч.).

**Гончаров, А. А.** Первая Витебская партизанская бригада (1941–1943 гг.) / Анатолий Гончаров. — Витебск: Витебская областная типография, 2012. — 319 с. — Часть текста на белорусском языке. — 300 экз. — ISBN 978-985-534-043-1 (в пер.).

**Грыцкевіч, А.** Выбранае / Анатоль Грыцкевіч; [укладанне і каментар аўтара; прадмова Адама Мальдзіса]. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 604 с. — Выдадзена пры ўдзеле ТАА «Харвест» (Мінск). — 1000 экз. — ISBN 978-985-7007-86-8 (у пер.).

**Данилов, И. П.** Записки западного белоруса = Notes of western byelorussian: Политика и война глазами очевидца и участника. 1937–1945 гг. / Иван Данилов. — 4-е изд. — Минск: Виктор Хурсик, 2012. — 389 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6888-56-7 (ошибоч.).

**Жылка, Ф. Б.** Вілія вачыма вандроўніка: краязнаўчыя нарысы / Францішак Жылка, Аляксандр Касцючэнка; [фота: Ф. Б. Жылка, А. М. Касцючэнка]. — Мінск: Мон літара, 2012. — 82 с. — 1000 экз. — ISBN 978- 985-90234-6-0.

**Карэліччына: людзі, час, падзеі**: зборнік навуковых артыкулаў / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі; [укладальнікі: А. А. Скеп'ян і інш.; рэдкалегія: А. А. Каваленя (старшыня) і інш.]. — Мінск: Беларуская навука, 2012. — 484 с. — Частка тэксту на польскай і рускай мовах. — 152 экз. — ISBN 978-985-08-1510-1.

**Коневего, Л. И.** Дорогой жизни: воспоминания: к 65-летию Великой Победы, к 70-летию Клецкого района и своему 85-летнему юбилею / Леонид Коневего. — Несвиж: Несвижская укрупненная типография, 2013. — 65 с. — 20 экз. — ISBN 978-985-6796-84-8 (в пер.).

**Мінск і мінчане: дзесяць стагоддзяў гісторыі**: крыніцы па гісторыі горада: сацыяльныя структуры і паўсядзённасць: (да 945-годдзя Мінска): зборнік навуковых артыкулаў / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі; [укладальнік А І. Груша; рэдкалегія: А. А. Каваленя (старшыня) і інш.]. — Мінск: Беларуская навука, 2012. — 563 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1497-5 (у пер.).

**Паноў, С. В.** Гісторыя Беларусі: білеты: 9-ты клас / С. В. Паноў. — 6-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2013. — 96 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-19-0546-7.

**Пурышева, Н. М.** История Беларуси: ответы на экзаменационные вопросы: [для студентов вузов] / Н. М. Пурышева, М. И. Старовойтов. — 4-е изд. — Минск: ТетраСистемс, 2013. — 159 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-536-373-7.

**Саяпин, В. Ю.** HronoГродно: история Гродно на страницах газет. 1913–1941 гг. / Виктор Саяпин. — Гродно: ЮрСаПринт, 2013. — 269 с. — Часть текста на белорусском языке. — 300 экз. — ISBN 978-985-90264-1-6.



***Капыль: гісторыя горада і рэгіёна: да 360-годдзя надання Капылю прывілея на магдэбургскае права: зборнік навуковых артыкулаў / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі; [укладальнікі: А. А Скеп'ян, А. Б. Доўнар, І. В. Соркіна; рэдкалегія: А. А. Каваленя (старшыня) і інш.]. — Мінск: Беларуская навука, 2012. — 442 с. — Частка тэксту на польскай і рускай мовах. — 120 экз. — ISBN 978-985-08-1509-5.***

*Такое выданне — сапраўдны падарунак для рэгіяналіста. Зборнік прысвечаны розным аспектам развіцця Капыля і функцыянавання магдэбургскага права ў гарадах і мястэчках Беларусі ў XVI — XX стст. У кнігу ўвайшлі артыкулы навукоўцаў Гродна і Мінска, а таксама пашыраныя варыянты дакладаў, якія былі прадстаўлены падчас навукова-практычнай канферэнцыі «Капыль: праблемы гісторыі горада і рэгіёна (да 360-годдзя надання Капылю прывілея на магдэбургскае права), якая праводзілася 19 кастрычніка 2012 г. навукоўцамі Інстытута гісторыі НАН Беларусі і Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Безумоўна, кніга будзе цікавай прафесійным гісторыкам, студэнтам, а таксама ўсім аматарам нашай мінуўшчыны.*

**Хмельницкая, Л. В.** Прогулки со старой картой: очерк истории Витебска начала XX в.: (с приложением карты) / Л. В. Хмельницкая; [предисловие, общая редакция С. В. Рублевского]. — Витебск: Витебская областная типография, 2012. — 115 с. — 550 экз. — ISBN 978-985-534-027-1 (в пер.).

**Чалавек і свет. Мая Радзіма – Беларусь**: падручнік для 4-га класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / [С. В. Паноў і інш.]. — 2-е выд., дапоўненае і выпраўленае. — Мінск: Выдавецкі цэнтр БДУ, 2013. — 149 с. — 127500 экз. — ISBN 978-985-553-064-1 (у пер.).

**На атрыманне прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва**

# Яе Вялікасць Песня

Сонечна-мажорны найгрыш — і не трэба ніякіх слоў: пачынаецца свята! Вось і зухаватыя хлопцы з'явіліся, за імі ўрачыста выйшлі велічныя красуні, да самавітай зычнагалосай грамады імклівай віхурай далучыліся танцоры. А ў маляўнічую партытуру вакальна-харэаграфічнай кампазіцыі «Добры вечар добрым людзям!» (музыка У. Гінько, пастаноўка Г. Гарыновіч) неўпрыкмет уліліся рытмічныя воплескі гледачоў. На канцэртах Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча шчырая эмацыянальная сувязь паміж артыстамі і публікай узнікае імгненна. У гэтым даўно пераканаліся прыхільнікі славутага калектыву, якім ужо амаль чатыры дзесяцігоддзі кіруе Міхась Дрынеўскі.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота аўтара**



*Задуменны матыў.*

У Мінску ён выступае нячаста (зразумела ж, вандроўны лад жыцця), таму нядаўні канцэрт на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі, наладжаны пры падтрымцы Міністэрства культуры, стаўся асабліва заўважнай падзеяй сталічнага лета. Як заўсёды змястоўная і відовішчная, дынамічная і разнастайная мастацкая імпрэза ў двух аддзяленнях гэтым разам не была абмежавана тэматычнымі ўмоўнасцямі, ладзілася без кідкай назвы на афішы, без гучнага прысвячэння, без каляндарнай нагоды, аднак у згодзе з логікай сваёй унутранай драматургіі, падпарадкаванай глыбінным стасункам пачуццяў, уяўленняў, сімвалаў. Мудра і выразна скампанаваная праграма хору складалася з выбраных залацінак яго найбагацейшага рэпертуарнага набытку (а ў той скарбонцы сёння далёка за паўтары тысячы ўзораў!) і ўспрымалася як своеасаблівая анталогія сучаснай творчасці калектыву.

Адметнае — усё! Лірычная споведзь закаханага юнака («Элегія» Э. Наско на верш Р. Барадуліна, саліст Аляксандр Сабалеўскі, лаўрэат рэспубліканскага конкурсу «Зорка ўзышла над Беларуссю»). Суровы эпізод памяці пра мінулую вайну («Дарога партызанская» Э. Ханка на верш А. Вярцінскага ў спалучэнні з вакальна-харэаграфічнай кампазіцыяй «А досвіткі тут ціхія...» паводле вядомага музычнага твора К. Малчанава; апрацоўка В. Шыкаўца). Прыгажуня-песня «Ночка зорная...» (Э. Шчыры, верш А. Казюкі, апрацоўка М. Дрынеўскага, аркестроўка П. Глушчука, салістка Наталля Гарнастаева). Архаічны народны шэдэўр «У ноч на Купала», працяты водгуллем старажытнага рытуалу — у сакральным гучанні экзатычнага «шаманскага» варгана і магічных удараў «паганскага» барабана (апрацоўка У. Грома, салістка Наталля Гуркова) і дзявочы карагод «Купалінка» (пастаноўка Г. Гарыновіч, музычная апрацоўка В. Шыкаўца), увянчаны чысціюткім беларускім дыяментам «Ночы мае, ночушкі» (апрацоўка М. Дрынеўскага, салістка Лідзія Шыкавец). Зіхоткая «Вясельная сюіта» (пастаноўка Г. Гарыновіч, салісты Валянціна Крыловіч, Марыя Нікіфарава, Яўген Глінскі), дасціпныя дзявочыя прыпеўкі (Людміла Зямцова і Вікторыя Мачаліна), смакавіты жарт «Гой, маё ты сала» (музыка Ю. Панамарэнкі, тэкст М. Багмута; апрацоўка В. Шыкаўца, саліст — авохці мне! — Ігар Тоўсты). Віртуозны абразок «Ой, без дудкі, без дуды...» (музыка А. Крамко), у якім рэй вядзе Дзяніс Буры, прэзентуючы каларытнае сямейства духавых інструментаў: ад шчабятухі-дудачкі да пяшчотнай загадкавай акарыны. Шляхетная «Лявоніха» (вершы Янкі Купалы і з народных, пастаноўка П. Акулёнка, салісты Таццяна Лабачэўская і Аляксандр Кніга) і яркае, аздобленае лёгкім гумарам вакальна-харэаграфічнае палатно «Із-за гор гары едуць мазуры» (пастаноўка Р. Маліноўскага; апрацоўка В. Шыкаўца, аркестроўка П. Глушчука). Звонкае вітанне надыходу вясны (кампазітар Э. Наско, пастаноўка А. Аляшкевіча), нібы напоўненае дыханнем ракі, што вызваляецца з-пад цяжкіх крыг, шумам разняволеных ручаёў, пераразовамі птушак, рэхам меднаствольных бароў. Калі ўражвае, а потым доўга помніцца ці не кожны нумар сцэнічнай дзеі, цяжка вылучыць з яе нешта лепшае і спініць пералік!

Што да «ўнутранай драматургіі»... Яе вытокі — у сінкрэтызме народнай культуры, таму ў поліжанравых праграмах калектыву так гарманічна суіснуюць спевы, танец, інструментальны фальклор, элементы старадаўніх абрадаў, народных гульняў, а этнаграфічнаму стылю сцэнічных строяў і аўтэнтычным тэмбрам не пярэчыць водгалас інтанацый ды рытмаў сучаснага гукавога асяроддзя. Ды ў цэнтры гэтай гармоніі, безумоўна, Яе Вялікасць Песня. Тая, што ад «гоману бароў, ад казак вечароў, ад шолаху начэй і тысячы ніцей, з якіх аснована і выткана быццё і небыццё». У якой — малюнак жыцця, люструнак душы, часцінка вечнасці.

Гожаму гучанню песні спрыяе трапнае выкарыстанне выканальніцкіх магчымасцей — ад сакавітай жывапіснай моцы «акіянскай» харавой хвалі да акварэльнай празрыстасці выразных ціхіх кульмінацый. У хоры М. Дрынеўскага культывуюць мастацкую якасць, эстэтычны густ і пачуццё меры. Тут не пацяшаюць публіку сувенірнай прадукцыяй «а-ля фольк». Улюбёнаму ў слова і добрую песню, у свет і людзей пераемніку Генадзя Цітовіча ўдалося не толькі надаць новае жыццё творчым пастулатам легендарнага «бацькі хору», але і здзейсніць, здавалася б, немагчымае: злучыць народнасць і акадэмізм, сінтэзаваўшы самабытнасць, паэтычную вобразнасць нацыянальнага песеннага фальклору і высокую культуру класічных музычных традыцый. Тонкі знаўца прыроды голасу, законаў харавога гучання і сакрэтаў акапэльнага гукапісу, ён стварае сапраўды ювелірныя апрацоўкі спеўных скарбаў, якія захаваў наш народ. Далікатна, з ашчаднасцю і разуменнем першароднай каштоўнасці песні, працуе М. Дрынеўскі і над папулярнымі ўзорамі рускага фальклору, пазбаўляючы іх выканальніцкіх штампаў, напластаванняў, што скажаюць сутнасць народнага твора. Якой кранальнай драматычнай баладай паўстае апрацаваная майстрам вядомая песня «Вот мчится тройка почтовая» (саліст Васіль Браім). Колькі болю, невымоўнай роспачы, трагічнай безвыходнасці раскрываецца ў пераасэнсаваным сюжэце харавой навелы «Шумел камыш», асабліву пранізлівасць якой надае сціплы акампанемент — бясконцы паўтор адной і той жа ноты: манатонны, самотны, трывожны.



*Нацыянальны акадэмічны народны хор імя Г. Цітовіча пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхася Дрынеўскага.*

Пры канцы мінулага стагоддзя М. Дрынеўскі кінуў выклік зацятым скептыкам, якія абвяргалі магчымасць выканання артадаксальных рэлігійных спеваў народным хорам. Першая ж такая праграма, складзеная з «легалізаваных» твораў тых невядомых нам беларускіх кампазітараў, што пісалі для праваслаўных набажэнстваў, сталася мастацкай сенсацыяй, прынесла хору гучны поспех на міжнародным фестывалі хрысціянскай музыкі «Магутны Божа» і абсалютную перамогу ў яго конкурсе. Сёння беларуская царкоўная музыка разам з шэдэўрамі літургічнай творчасці рускіх кампазітараў упрыгожвае рэпертуар калектыву. Фрагмент «Скажи ми, Господи» з Літургіі Святога Іаана Залатавуста (беларускі кампазітар М. Бутома) гучаў і ў нядаўнім канцэрце. Хтосьці, мабыць, упершыню адчуў, якое ўзрушэнне выклікае кананічная малітва, узнесеная хваляй адухоўленых і магутных галасоў вялікага хору. Над залай нібы ўтварыўся празрысты купал, праз які з высокага неба глядзела на людзей Вечнасць, абуджаючы трапятанне нават самай закутай душы.

Фенаменальны хор, які пад кіраўніцтвам М. Дрынеўскага стаў сапраўднай Акадэміяй Песні, злучае таленты многіх людзей. Гэта галоўны хормайстар Іван Абразевіч, хормайстар Віктар Шыкавец, музычны кіраўнік Пётр Глушчук, балетмайстар Юрый Паўлішын, рэпетытар-пастаноўшчык Галіна Гарыновіч. Гэта ўнікальныя артысты, якія нясуць у залу натхнёнае майстэрства, магутную энергетыку жывога душэўнага мастацтва і агонь уласных сэрцаў. Дзякуючы свайму лідару калектыў застаецца руплівым збіральнікам і захавальнікам нашай нацыянальнай песеннай спадчыны, прызнаным далёка за межамі краіны прафесійным эталонам народнай харавой творчасці, візіткай Беларусі ў міжнародных культурных стасунках.

Калектыўнае спяванне — самая распаўсюджаная і найбольш дэмакратычная форма творчасці — дапамагае ўзаемаразуменню, духоўна зближае людзей, спрыяе іх яднанню. Харавое мастацтва — даходлівая без перакладу і каментарыяў мова сяброўства. За дзесяцігадовую гісторыю прэміі Саюзнай дзяржавы гэтай высокай узнагародай ніколі не ганаравалі самаадданых прадстаўнікоў харавога брацтва. Між тым, у Беларусі ёсць выдатны рыцар песні, Майстар, дзейнасць якога даўно шануюць і расіяне. Міхась Дрынеўскі — асоба, вартая самых высокіх адзнак!

## Толькі факты

**Міхась Дрынеўскі — народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне», мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча, прафесар кафедры харавога дырыжыравання Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, старшыня праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў, ганаровы акадэмік Міжнароднай кадравай акадэміі. Узначальвае конкурснае журы рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур, рэгіянальнага свята песні ды музыкі Падняпроўя Беларусі, Расіі, Украіны «Дняпроўскія галасы», іншых значных аглядаў спеўнага мастацтва. Хор пад яго кіраўніцтвам — удзельнік многіх мерапрыемстваў міжнароднага ўзроўню: фестываляў духоўнай музыкі ў Літве, Польшчы, харавых фэстаў у Расіі («Славянский хоровод» у Разані, «Наши древние столицы» ў Кастраме, пасхальныя канцэрты ў Смаленску, «Дни славянской письменности и культуры» ў Маскве), «Славянскага базару ў Віцебску», «Сожскага карагоду» ў Гомелі ды інш. Гастрольныя маршруты і творчае сяброўства звязваюць знакаміты беларускі хор з многімі рэгіёнамі Расійскай Федэрацыі, а сёлета ён быў госцем Усерасійскага свята пушкінскай паэзіі ў Міхайлаўскім.**

**Шматгадовая праца, скіраваная на захаванне і развіццё айчынных мастацкіх традыцый, прапаганду культурнай спадчыны беларускага народа, актыўнасць у справе патрыятычнага і грамадзянскага выхавання моладзі, міжнародныя музычна-асветніцкія ініцыятывы М. Дрынеўскага адзначаны мноствам пачэсных узнагарод, у ліку якіх — ордэн Францыска Скарыны, медаль Ірыны Архіпавай Міжнароднага саюза музычных дзеячаў, юбілейныя медалі «65 год вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў», «65 лет Победы в Великой Отечественной войне», памятны медаль «За супрацоўніцтва» да 10-годдзя падпісання Дагавора пра стварэнне Саюза Беларусі і Расіі, Падзяка Дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы. Міхась Дрынеўскі вылучаны на атрыманне прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за выключныя заслугі перад нацыянальнай мастацкай культурай, творчыя дасягненні, якія маюць міжнародную каштоўнасць і з'яўляюцца значным унёскам ва ўмацаванне славянскага адзінства, сяброўскіх стасункаў і супрацоўніцтва паміж народамі Беларусі і Расійскай Федэрацыі.**

# Старонкі жыцця Максіма Горкага

**Сёлета споўнілася 145 гадоў з дня нараджэння рускага пісьменніка Максіма Горкага. У XX стагоддзі такая падзея адзначалася б шырока. У гонар пісьменніка амаль у кожнай сталіцы былога Савецкага Саюза стаяў помнік, былі названы вуліца, тэатр, што ставіў спектаклі паводле яго твораў. Сёння спектаклі ідуць, але рэпертуар ужо не такі вялікі. І справа не ў тым, што напісанае Горкім састарэла — многія праблемы, якія ўздымаў пісьменнік, па-ранейшаму актуальныя. Змяніліся ўяўленні пра ідэалы, змянілася жыццё, якое прынесла новыя творы, жанры, светапогляд.**



*Адам Багдановіч і Максім Горкі з сем'ямі. Ніжні Ноўгарад, 1899 г.*

Максім Горкі, вялікі пісьменнік свайго часу, назаўжды застанецца ў гісторыі літаратуры. Але зусім не кожны вучань старэйшых класаў адкажа на пытанне: «Хто такі Аляксей Максімавіч Пешкаў?» І, магчыма, не кожны наведвальнік Цэнтральнага дзіцячага парку ў Мінску скажа, каму там усталяваны помнік.

Аляксей Пешкаў — чалавек са складаным лёсам. Беларускія энцыклапедыі падаюць інфармацыю пра яго так: «Рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч, творчасць якога зрабіла вялікі ўплыў на сусветны літаратурны працэс, спрыяла ўздыму ідэйна-эстэтычных прынцыпаў беларускай літаратуры».

Крытыкі характарызавалі Горкага як супярэчлівую асобу: рэаліст і адначасова рамантык, гатовы памерці за тое, у што верыць. Але пакінем разважанні пра творчасць літаратуразнаўцам і крытыкам. Звернемся да ліній жыцця, якія перакрыжоўваліся з сям'ёй Багдановічаў.

Калісьці ў Мінску было шмат «Максіма Горкага», а сёння засталіся тэатр і помнік. А яшчэ месца, дзе Аляксея Максімавіча згадваюць як блізкага сябра Адама Ягоравіча Багдановіча, сваяка гэтай сям'і, творчую асобу, якая, магчыма, паўплывала на вызначэнне шляху Максіма Багдановіча.

У 1896 г. Адам Багдановіч з дзецьмі пераязджае з Гродна ў Ніжні Ноўгарад з-за пераводу яго на новае месца працы. Такім чынам, у сям'і Багдановічаў пачаўся новы перыяд. У аўтабіяграфічных успамінах Адам Багдановіч згадваў: «Переселяясь на работу в Нижний, я запасся в Минске рекомендательными письмами от товарищей-народовольцев к разным лицам в Нижнем. В том числе у меня было письмо от писателя Е. Н. Чирикова к А. М. Пешкову (М. Горькому) — писателю, мне не известному, но которого мне рекомендовали как знатока Поволжья и Нижегородского края». Дзякуючы іх знаёмству і сяброўству з'явіліся «Страницы из жизни Горького», якія дапамагаюць не толькі даследаванню жыцця і творчасці рускага пісьменніка, але і вывучэнню асяроддзя сям'і Багдановіч.

Горкі і Адам Багдановіч заўжды знаходзілі агульную мову. Асабліва цікавай тэмай для іх былі кнігі. Было нават спаборніцтва па складанні асабістых бібліятэк. Максім Горкі да апошніх гадоў вельмі высока ацэньваў Адама Багдановіча як вучонага. Любоў да кніг, жаданне браць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, некаторае падабенства лёсаў — усё гэта яднала іх.

Некаторы час сем'і Пешкавых і Багдановічаў былі звязаны сваяцкімі адносінамі. Адам Ягоравіч ажаніўся з Аляксандрай Волжынай — роднай сястрой Кацярыны Пешкавай, жонкі Максіма Горкага. У Літаратурным музеі М. Багдановіча захоўваюцца шлюбныя фотаздымкі Адама Багдановіча і Аляксандры Волжынай. На жаль, нядоўгі лёс быў накаваны гэтаму прыгожаму саюзу: праз год Аляксандра памерла пасля нараджэння дзіцяці. Маленькага хлопчыка Шурыка забралі выхоўваць да сябе Кацярына Пешкава і Максім Горкі.

Агульнае гора аб'яднала гэтых людзей. Але шмат у іх было асабістага, добрага і шчаслівага. Магчыма, таму Адам Ягоравіч лічыў сваім гонарам напісаць успаміны пра Максіма Горкага, яго ніжагародскі перыяд.

Адам Багдановіч быў адным з самых блізкіх сведак узвахоДжання Максіма Горкага ў «вялікую» літаратуру, росту яго славы і папулярнасці, літаратурнага трыумфу. Пра гэта ў 1928 і часткова ў 1935 гадах ён напісаў успаміны «Страницы из жизни М. Горького», якія захоўваюцца ў фондах Літаратурнага музея М. Багдановіча. Успаміны, напісаныя з вялікай павагай і сардэчнасцю, дазваляюць чытачу разгледзець усе падзеі і згаданых асоб скрозь прызму ўспрымання сведкі-аўтара, разумнага, назіральнага, шчырага чалавека. Хочацца спыніцца толькі на адным з момантаў, які характарызуе стаўленне Адама Багдановіча да Максіма Горкага.

Пасля выхаду ў свет успамінаў Іван Плехан, сябра Адама Багдановіча з часоў вучобы ў настаўніцкай семінарыі, зрабіў непрыемную заўвагу. Гэта так пакрыўдзіла Адама Ягоравіча, што ў лісце да пляменніцы Веры Гапановіч ён пісаў: «…Я был счастлив в друзьях, и никого из них не осталось, кроме Плехана, с которым не так давно рассорился вполне и окончательно. При его крайнем самомнении, он с годами основательно поглупел. Ссора вышла из-за моих воспоминаний о Горьком. Ты их читала. И кто их только не читал — все хвалят и особо выделяют из числа других. Рецензенты в печати хвалят. В «Литер. Обозр.» 5 за 38 г. И. Сергиевский, наиболее видный критик, говорит: «Они написаны живо, выразительно. Очерченный в них образ Горького конкретен и динамичен». И так далее. А мой старый друг, обязанный мне всей своей карьерой, пишет: «Половину прочитал внимательно, а остальное только просмотрел: надоело, противно стало: детские мысли, всё весьма поверхностно, а главное — враньё и самовосхваление, самореклама…»

Ну, знаешь ли — всему есть предел. Но обвинять человека во лжи и своекорыстных целях за счёт популярности своего старого друга — это уже слишком! При том же я писал о том, что совершилось на глазах Ек. П., которая всё это читала в рукописи и никаких замечаний и поправок не сделала…»

Магчыма, такім чынам Адам Багдановіч спрабаваў сцвердзіцца як мемуарыст і адначасова паказаць сябе сябрам, які паважліва ставіцца да жыцця рускага класіка.

І сапраўды, сяброўскія і сваяцкія адносіны, скаваныя агульнымі стратамі любімых людзей, назаўжды захавалі Максім Горкі, Кацярына Пешкава і Адам Багдановіч. Пра гэта сведчыць іх перапіска. У архіве Адама Ягоравіча, які захоўваецца ў фондах Літаратурнага музея М. Багдановіча, ёсць 29 лістоў і паштовак К. Пешкавай да А. Багдановіча за перыяд 1924 — 1940 гг. Усе яны прасякнуты цеплынёй, клопатам, увагай, жаданнем дапамагчы Адаму Ягоравічу ў яго нялёгкім жыцці: «Дорогой Адам Егорович! Давно ничего о Вас не знаю — как Вы живёте после трудной зимы? Напишите». (К. П. Пешкава — А. Я. Багдановічу. Масква. 22.06.1932; ліст з фондаў Літаратурнага музея М. Багдановіча). Адам Ягоравіч паважаў Кацярыну Паўлаўну, яны сябравалі і падтрымлівалі адно аднаго.

Захавалася і апублікавана частка перапіскі Максіма Горкага з Адамам Багдановічам (у фондах музея захоўваюцца копіі лістоў). Гэта вельмі цёплыя лісты з сардэчнай сяброўскай зацікаўленасцю справамі адзін аднаго.

Успаміны Адама Багдановіча па-рознаму ўспрымаліся раней. Такое ж рознае стаўленне да іх і сёння. Для музея Максіма Горкага ў Ніжнім Ноўгарадзе, магчыма, гэта толькі яшчэ адна версія жыцця пісьменніка сярод тысяч падобных успамінаў. Для Літаратурнага музея М. Багдановіча гэта вельмі важкая старонка ўзаемаадносін паміж А. Багдановічам і М. Горкім.

Ці аказаў уплыў Горкі на нашага Максіма Багдановіча? Несумненна, сустрэча юнага Багдановіча з Горкім узмацніла яго ўвагу да літаратуры, дала магчымасць усвядоміць наяўнасць уласнага таленту, паўплывала на абранне жыццёвага шляху.

Творы Горкага дапаўнялі і ўзбагачалі сферу жыццёвых уражанняў Багдановіча. Малады паэт адчуваў у іх падтрымку для сваіх наватарскіх пошукаў. На думку літаратуразнаўцы Цімафея Ліякумовіча, творчая арыентацыя на горкаўскія мастацкія адкрыцці садзейнічала больш поўнаму выяўленню самабытнага паэтычнага майстэрства маладога Максіма.

Так, напрыклад, ёсць меркаванне, што падарунак Горкага бацьку Максіма — рэпрадукцыя карціны Рафаэля «Сікстцінская мадонна» — ускосна паўплываў на з'яўленне ў паэзіі Максіма Багдановіча пяшчотнага вобраза жанчыны-маці. Магчыма, дзякуючы гэтаму з'явіліся цудоўныя радкі, прысвечаныя захапленню жанчынай, узнік цыкл вершаў «Мадонны».

Ц. Ліякумовіч адзначае, што «нельга абыходзіць уплыў Максіма Горкага на творчы лёс М. Багдановіча, нават з поўным правам можна сцвярджаць, што горкаўскія традыцыі спрыялі больш поўнаму выяўленню адметнага, уласнага таленту Максіма Багдановіча, паспяховаму вырашэнню тых творчых задум, якія паэт ставіў перад сабой, а значыць, і ідэйна-эстэтычнаму ўзбагачэнню беларускай літаратуры». Пры гэтым мастацкая індывідуальнасць беларускага паэта не абязлічвалася.

Адам Багдановіч звярнуў увагу рускага пісьменніка на творы свайго сына не адразу. У 20-я гады XX стагоддзя, калі ішоў збор асабістай і творчай спадчыны Максіма Багдановіча, рускі пісьменнік у лісце да Адама Ягоравіча паведамляў: «Максим не писал мне и книги своей не присылал». І ўсё ж вершы беларускага паэта прыцягнулі ўвагу М. Горкага: у яго бібліятэцы знаходзіўся першы том «Твораў» Багдановіча пад рэдакцыяй І. Замоціна, выдадзены ў Мінску ў 1927 годзе. Хоць гэту кнігу падараваў Горкаму бацька паэта, не выклікае сумненняў, што рускі пісьменнік чытаў вершы і цікавіўся творчасцю Максіма Багдановіча, якога ведаў калісьці маленькім хлопчыкам. Нездарма Горкі назваў Максіма «слаўным паэтам».

Сёння складана ўявіць, як новыя пакаленні будуць пазіраць на горкаўскія часы, якія няпроста зразумець ужо нашым сучаснікам. Адно вядома: творы пісьменніка і ў будучым ярка адлюструюць яго эпоху, пакажуць складанасці станаўлення і рускай, і беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя.

Час усё расстаўляе па сваіх месцах. Адам Багдановіч у гісторыі застаецца, у першую чаргу, не як знаёмы Максіма Горкага, а як бацька Максіма Багдановіча, класіка беларускай літаратуры, імя якога носіць цяпер былая вуліца Максіма Горкага. Але нават тады, калі час мяняе шыльды, Асоба застаецца важнай для сусветнай гісторыі, для людзей, якія былі з ёй звязаныя.

**Ірына ШОРАЦ,**
**фота прадастаўлена Літаратурным музеем Максіма Багдановіча**

# Мой Максім Багдановіч



З лютага па май 2013 года Літаратурны музей Максіма Багдановіча праводзіў конкурс эсэ пад назвай «Мой Максім Багдановіч» сярод навучэнцаў школ сталіцы і Мінскай вобласці. Аўтарамі трох лепшых работ прызнаны Ірына Рушкевіч, вучаніца 10 класа сталічнай гімназіі № 30, Анастасія Іонікава, вучаніца 11 класа сярэдняй школы № 136 г. Мінска, і Наталля Пляшкун, вучаніца 11 класа Мінскага дзяржаўнага абласнога ліцэя. На ўрачыстым мерапрыемстве па падвядзенні вынікаў конкурсу ў Літаратурным музеі М. Багдановіча яны былі ўзнагароджаны дыпломамі І, ІІ і ІІІ ступеней адпаведна. Гледзячы на іх, лаўрэатаў конкурсу, такіх маладых, узнёслых і натхнёных, свята верыцца ў тое, што наша спадчына, мова, літаратура, культура заўжды будуць ахоўвацца і ўзбагачацца на карысць народу.

«ЛіМ» публікуе творы пераможцаў.

**Ірына РУШКЕВІЧ**

Пачалося ўсё з таго, што я ішла з сяброўкамі па шырокім, але набітым пад завязку занятымі сваімі справамі вучнямі, якія шнарылі туды-сюды, школьным калідоры. Канчатковым пунктам нашага падарожжа быў кабінет беларускай мовы і літаратуры, які мы горда звалі «нашым». Вялікі і светлы пакой з партрэтамі беларускіх пісьменнікаў, шафамі цікавых кніг… Ёсць у гэтым кабінеце нешта прыязнае і прывабнае… Менавіта тады ад нашай настаўніцы я пачула пра конкурс, прысвечаны славутым беларускім паэтам. Так пачалося маё больш блізкае знаёмства з Максімам Багдановічам.

Выпадак паўдзельнічаць у конкурсе прымусіў мяне «ўгледзецца» ў імя Максіма Багдановіча, каб убачыць кожны колер, кожнае адценне, кожную грань і кожны водсвет, якімі яно іграе для мяне. І так, крок за крокам, радок за радком, успамін за ўспамінам, я пачала разглядваць гэта дзівоснае імя.

Вядома, у галаву адразу прыйшлі словы, што праслаўляюць паэта, — натхнёныя, але агульныя і аднолькавыя, якімі поўніліся кожная брашура, кожнае афіцыйнае выступленне, кожнае сачыненне, на якую б тэму яны ні былі. Адразу зразумеўшы, што капаць у гэты бок — глупства (што новага я магу сказаць?), я вырашыла напісаць, што значыць Максім Багдановіч для мяне і толькі для мяне.

Першай думкай, якая з гатоўнасцю выскачыла з нейкай цёмнай прасторы на пярэдні план маіх роздумаў, была думка пра мой адрас. Па нейкім цудоўным супадзенні я жыву на вуліцы, названай у гонар сапраўднага героя нашай краіны. Імя Максіма Багдановіча зрабілася для мяне ўвасабленнем дома. А што такое дом? Цеплыня адносін і адчуванне абароненасці, увага і ахвяра, боль і радасць. Праз гэтае пачуццё чагосьці хатняга і роднага малады паэт стаў для мяне ўвасабленнем цэлай краіны, адлюстраваннем яе самабытнай культуры і характару. Уся творчасць Багдановіча дыхае захапленнем роднымі казкамі, абрадамі і песнямі, гучаннем беларускай мовы і роднай гісторыяй. Лічу, што ён меў цудоўную здольнасць адчуваць беларускую мову, выкарыстоўваць яе ў сваіх творах, не губляючы яе цякучай і чыстай, нібы таемная лясная крыніца, мілагучнасці. Ён быў увасабленнем «сапраўднага беларуса», «беларуса-інтэлігента», якога спрабавалі «ажывіць у сваіх творах амаль усе айчынныя пісьменнікі.

Чым далей я зазірала ў патрапаны томік з вершамі паэта выдання 60-х гадоў мінулага стагоддзя, адкапаны ў адной са шматлікіх бабуліных кніжных шафаў, тым больш сцежак яго творчасці адкрываліся пад націскам маёй зацікаўленасці. Старыя кнігі прымушаюць ставіцца да іх з павагай і трапятаннем. Характэрны пах, жаўцізна старонак, сам выгляд, які ўвасабляе шматгадовы вопыт і спакойную мудрасць з лёгкім адценнем фанабэрыстасці... Усё гэта далучае да асалоды ад зместу нотку эстэтычнага задавальнення. Аднойчы мяне нагнала хваля дзіцячай настальгіі, якая ў час вывучэння «Зоркі Венеры» ў сёмым ці восьмым класе прымусіла адкласці апошнюю кнігу «Гары Потэра» і ўразіла пяшчотнай, нібы «акварэльнай» тонкасцю выразаў і апісанняў, падштурхнула мяне да знаёмства з іншымі ўзорамі інтымнай лірыкі Багдановіча. І гэта нягледзячы на тое, што да таго моманту я ніколі не заўважала ў сабе ніякай ярка выражанай схільнасці да рамантызму.

Паглыбляючыся ў творчасць паэта, я была ўзнагароджана за цярпенне, адшукаўшы настолькі рэдкія для беларускай літаратуры, настолькі любімыя мной і настолькі цяжкія для напісання формы вершаскладання, як трыялет і верлібр.

Яшчэ адзін нечаканы падарунак — цыкл вершаў «У зачараваным царстве». Маё пакаленне вырасла на казках, фантастычных творах і шматлікіх гісторыях пра чараўнікоў, цмокаў ды іншых чароўных істот. Лічу, гэта тэндэнцыя ў літаратуры пасадзейнічала развіццю цікавасці да міфалогіі і народных паданняў розных краін. Яна наштурхнула мяне на фантастычны скарб Беларусі, які здзівіў сваёй глыбінёй і каларытнасцю. Уявіце сабе маё задавальненне, калі я адшукала творы Максіма Багдановіча, прысвечаныя гэтай тэме! Пад пяром паэта (а потым і ў маім уяўленні) ажывалі ў зарослым асакой і травамі возеры сівавусы Вадзянік, ахінутыя срэбраным зззяннем пад аксамітным, вышываным дыяментавымі зоркамі покрывам ночы красуні русалкі і самаўпэўнены Змяіны цар у разьбянай залатой кароне, якая мякка зззяла месяцовымі промнямі. Я захаплялася прыгажосцю апісанняў і выразнасцю выказванняў. Перад маімі вачыма паўставалі таемныя куткі нашай краіны, дзе засталося месца для прыгажунь гаёвак, для Зюзі, дамавікоў і духаў.

Мой Максім Багдановіч — нешта сонечнае, як наш клас, нешта мілагучнае, як беларуская мова, нешта цёплае і надзейнае, як дом, нешта абавязваючае і неабыякавае, як родная краіна, нешта мудрае і спакойнае, як старая кніга, нешта чыстае і крыху сумнае, як каханне, нешта вострае і нечаканае, як трыялет, нешта таемнае і казачнае, як старажытныя лясы і гаі з іх цудоўнымі жыхарамі. Гэта — нешта высокае і вольнае, як палёт думкі.

**Анастасія ІОНІКАВА**

…Мне 10 гадоў. Цёплы вясенні вечар, гарбата з травамі, нататнік з чыстымі аркушамі, на якіх пакуль яшчэ не выведзены вершы. Я слухаю, як бацька чытае мне. Ціхі і ўпэўнены мужчынскі голас напеўна распавядае пра тое, як «ліецца хваляй песня». Гэты эпізод назаўсёды застанецца ў маёй памяці, бо ў той вечар я пазнаёмілася з творчасцю Максіма Багдановіча. Аднойчы мы з бацькам зайшлі ў кнігарню. Наш выбар спыніўся на невялікай кніжцы пад назвай «Вянок»…

Спачатку я адкрыла для сябе ўсю прыгажосць яго пейзажнай лірыкі. Адразу ўспамінаю першы верш, прачытаны мной, — «Па-над белым пухам вішняў». Пры чытанні я адчувала, як разам з жывымі істотамі абуджаецца энергія, якой хопіць, каб забяспечыць планету святлом у самую цёмную ноч. Атмасфера новага жыцця, змен да лепшага проста напаўняла мяне пры чытанні!

Мне было цікава: хто мы? Як жывём? Як жыць правільна? Для чаго Бог стварыў наш свет? У чым прызначэнне кожнага чалавека? Гэтыя пытанні з маленства наведвалі маю маленькую і трошкі дзівацкую галаву. І вось аднойчы, калі яна была цалкам забіта падобнымі думкамі, я знайшла верш «Жывеш не вечна, чалавек». Гэта быў нібы раптоўна знойдзены скарб! Верш прымусіў мяне падумаць пра тое, чым будзе маё жыццё і што я пакіну пасля сябе. Ці буду простым і нязначным вінцікам у вялізнай машыне, ці я змагу змяніць гэты свет у лепшы бок?.. А як аўтар падабраў эпіграф да яго! Выраз Віктора Гюго пра тое, як чалавек «...праходзіць, не пакінуўшы нават свайго ценю на сцяне», уступае ў барацьбу з тым, пра што ідзе гаворка ў вершы. Эпіграф быццам з'яўляецца тым, чаго так баіцца і не хоча сам паэт. Мы павінны жыць яскрава, слухаць уласнае сэрца і гарэць, гарэць, гарэць! Трэба імкнуцца да таго, пра што пісаў у гэтым вершы Багдановіч:

*Каб хвалявалася жыццё,*<br>
*Каб больш разгону ў ім было,*<br>
*Каб цераз край душы чуццё*<br>
*Не раз, не два пайшло.*<br>
*Жыві і цэльнасці шукай,*<br>
*Аб шырацэ духоўнай дбай.*

Варта ўзгадаць яшчэ адзін вельмі цікавы твор, які таксама стаў любімым. Гэта верш «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы...», напісаны ў 1915 годзе. Пачынаецца ён інтымным зваротам. З'яўляецца адчуванне, што паэт хоча расказаць пра самае цёплае і светлае пачуццё — пра каханне. На самай справе гэта глыбокі сацыяльна-філасофскі верш, які быў напісаны ў гады вайны. Аўтар заклікае людзей аб'ядноўвацца, каб усё пераадолець, кажа пра бессэнсоўнасць гэтых стычак, пра ўсю бессэнсоўнасць вайны, «калі мы ўсе разам ляцім да зор». Знішчальным войнам аўтар супрацьпастаўляе ідэю міру, еднасці і братэрства. Гэты твор — маленькі праменьчык святла для тых, хто жыве ў царстве змроку. Верш «Народ, Беларускі Народ!» змяніў маё стаўленне да грамадзянскай лірыкі. Я вельмі востра адчула яго. Нават сёння, калі чытаю, часам не магу стрымаць слёз. Мы страчваем свае карані. Мы амаль не слухаем беларускую музыку, не набываем беларускія тавары ў крамах, не размаўляем па-беларуску… Год таму гэты верш заклаў ува мне маленькае зерне самасвядомасці, якое нядаўна канчаткова прарасло. Мне хочацца, каб мае дзеці ведалі родную мову, каб яны памяталі, хто яны такія, каб ведалі гісторыю сваёй краіны, каб яны былі Беларусамі з вялікай літары. І я веру, што мова будзе жыць, як жывуць бессмяротныя творы нашых класікаў.

…Мне 16 гадоў. Цёплы вясенні вечар. Я на сцэне. У руках — нататнік з белымі аркушамі, на якіх невялічкімі і трохі няскладнымі літарамі выведзены вершы. Сёння я буду чытаць творы Багдановіча… Ці спадабаецца ім? Іду да мікрафона. Верш быццам ліецца з маіх вуснаў. Гляджу на слухачоў. Адна дзяўчынка заплюшчыла вочы. Ёй падабаецца…

**Наталля ПЛЯШКУН**

*Бо нашто каласы, калі няма васількоў?*<br>
**Максім Багдановіч**

«Судьбою больше любим, кто живёт по законам другим и кому умирать молодым», — спяваў Віктар Цой. Невялікая розніца ва ўзросце паміж расійскім спеваком і Максімам Багдановічам. Абодва творцы за кароткі час змаглі зрабіць значна больш, чым іншыя нават за восемдзесят гадоў. Яны прыўнеслі ў плынь мастацтва новы подых, развязалі путы, што сціскалі горла самабытнай музыцы і літаратуры.

Максім Багдановіч упарта адстойваў тое, што літаратура беларуская не мужыцкая, што ў ёй ёсць месца і прыгажосці, і вобразнасці, і тым самым васількам, пра якія людзі часам забываюць. Жорсткая рэчаіснасць бачная ўсім і так, а ўменне адчуваць красу, вытанчанасць, узвышанасць свайго існавання маюць не ўсе, і задача сапраўднага паэта — развіць гэта ўменне ў кожным, хто чытае яго вершы. «Штодзённымі клопатамі поўніцца жыццё людское. Але калі звярухнецца душа чалавека, — толькі песня здолее спатоліць яе», — пісаў творца ў «Апокрыфе».

Нельга сказаць, што Максім Багдановіч — паэт-касмапаліт. Ён патрыёт роднае зямлі, на якой правёў няшмат часу, аднак здолеў адчуць самабытнасць яе культуры і простую, але такую складаную, разнастайную прыгажосць:

*Сонца ціха скацілася з горкі,*<br>
*Месяц белы заплаканы свецiць,*<br>
*Аглядае бахматыя зоркі,*<br>
*Цягне з возера срэбныя сеці.*

Максім Багдановіч дапамог нам паверыць, што будучыня яго і нашай літаратуры мае месца быць. Хоць бацька паэта і не прытрымліваўся такога меркавання, але малодшы Багдановіч выстаяў перад гэтым недаверам і пайшоў наперад сваім уласным годным шляхам. Мая павага да яго ўзрастае бязмерна, калі я бачу, як сам ён ставіцца да таго, што робіць. У агледзе беларускай паэзіі за 1910 год творца так пісаў пра сябе: «Што да Багдановіча, то ў ім непрыкметна шпаркага развіцця. Гэта паэт-маляр. Слабы як лірык, ён усю сваю ўвагу звяртае на вобразнасць зместу вершаў. Чаго варта гэтая праца, сказаць пакуль што цяжка…»

Спалучэнне сціпласці, самакрытыкі і ўпартасці, упэўненасці і жадання ўдасканальвацца стварае вельмі гарманічны характар паэта, які знаходзіць адбітак і ў яго вершах, што ахопліваюць усе бакі жыцця. Парады творцы, звернутыя да нас, чытачоў, вечныя.

Лічу, менавіта Максім Багдановіч унёс у беларускую літаратуру не толькі вобразнасць, але і форму. Ён першы пачаў пісаць беларускамоўныя санеты, рандо, трыялеты, па-новаму асэнсаваўшы іх, выкарыстоўваў верлібр. Як чалавек ідзе ад матыкі да рыдлёўкі, так і літаратура ідзе ад адной формы слова да другой, спазнае ўплыў гэтай формы на змест. І няма нічога дрэннага ў тым, каб браць матыку і апрацоўваць ёю ў кантэксце сучаснасці, бо на ёй будуюцца ўсе астатнія прылады працы, як на класічных формах верша будуюцца прылады працы для пяра. Пакуль такое развіццё і пошук існуюць, магчыма меркаваць, што літаратура развіваецца. Таму можна бясспрэчна заявіць, што Максім Багдановіч даказаў наяўнасць будучыні беларускай культуры не толькі словамі, але і справай, стаў не толькі яе прыхільнікам, але і стваральнікам. Уся яго паэзія прысвечана чалавеку, жыццю, Бацькаўшчыне, Сусвету. Найлепш пра сябе сказаў паэт у вершы «Бывае, вада перапоўніць…»:

*Адзін дае людзям ізлішкі,*<br>
*Другі ўсё, што мае. Я гэткі:*<br>
*Пяю я з надтрэснутым сэрцам,*<br>
*Апошні свой скарб аддаю.*

Тэрмін «смерць аўтара» ўвёў французскі філосаф і літаратурны крытык Ралан Барт. Гэта з'ява, пры якой твор перастае належаць табе пасля апошняй напісанай літары, а становіцца набыткам усяго свету, нібыта тваёй рукой кіраваў не ты сам, а нейкая вышэйшая сіла. Гэта можна сказаць і пра Максіма Багдановіча. Можа, таму ён так мала і пражыў, што ўкладаў у кожны свой верш, у кожнае слова часцінку сябе, а потым дарыў яе Сусвету. Максім Танк так асэнсоўваў творчасць маладога літаратара: «Ёсць паэты, якія пішуць творы, каб потым з іх выдаць выбранае, але ёсць паэты, якія пішуць толькі выбранае. Да такіх належыць Максім Багдановіч». Цяжкая хвароба і абмежаваны час жыцця слабых людзей знішчаюць, а моцным даюць магчымасць зрабіць той максімум, на які яны здольныя. Хто ведае, як павярнуўся б лёс Максіма Багдановіча, калі б у яго было яшчэ сорак ці пяцьдзясят гадоў наперадзе? Камусьці наканавана лёсам быць заўжды маладым — у думках, у творчасці, у жыцці і нават у смерці. Тым больш у памяці іншых людзей…

# Фестываль. Пасляслоўе

Ужо ў дваццаць другі раз легендарны горад на Дзвіне сабраў удзельнікаў і гасцей свайго самага знакамітага свята. «Славянскі базар у Віцебску» — гэта «васільковая краіна», якой няма на карце свету: яе штогод ствараюць шчыра закаханыя ў мастацтва і харaство людзі.

**Таццяна ШЫМУК**

XXII Міжнародны фестываль мастацтваў паяднаў артыстаў з 31 краіны свету: Аўстраліі, Арменіі, Беларусі, Бельгіі, Балгарыі, Босніі і Герцагавіны, Вялікабрытаніі, Венесуэлы, Германіі, Грузіі, Даніі, Ізраіля, Італіі, Казахстана, Кубы, Латвіі, Літвы, Македоніі, Малдовы, Польшчы, Расіі, Румыніі, Сербіі, Славеніі, Узбекістана, Украіны, Фінляндыі, Францыі, Харватыі, Чэхіі, Эстоніі.

У гэтым годзе «Славянскі базар у Віцебску» пазіцыянаваўся як фестываль фестываляў: у святочных канцэртах бралі ўдзел пераможцы «Еўрабачання», Юрмалы, Сан-Рэма, фестываляў «Белыя ночы» і «Галасы Азіі». Была праведзена мадэрнізацыя форуму: скарочаны тэрміны правядзення, зроблены акцэнт на музычныя конкурсы, прайшоў адзіны «Канцэрт Дружбы. Саюзная дзяржава запрашае...». Сярод асаблівасцей — паступовая пераарыентацыя праграмы на публіку маладога і сярэдняга пакаленняў, «разварот» форуму на тэлегледача, а таксама новае афармленне галоўнай пляцоўкі — Летняга амфітэатра. Усяго цягам святочнага тыдня ў Віцебску адбылося каля 60 культурных падзей.

Урачыстае адкрыццё фестывалю — самая галоўная падзея. За дзействам, якое праходзіла ліпеньскім вечарам у Летнім амфітэатры, сачылі тыя, каму пашчасціла набыць квіткі на канцэрт, і тысячы людзей перад экранамі тэлевізараў! У сваёй уступнай прамове Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў: «Славянскі базар» уражвае сваім маштабам, творчай разнастайнасцю, яркім перапляценнем моў і традыцый. Фестываль з году ў год павялічваецца дзясяткамі і сотнямі новых сяброў. У гэтым годзе геаграфія фестывалю набыла планетарны размах, ахапіўшы зямны шар ад Аўстраліі да Кубы і Венесуэлы, што кажа пра ўнясенне годнага ўкладу ў памнажэнне духоўных багаццяў нашых краін, захаванне самабытных нацыянальных культур».

Па традыцыі Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь уручыў спецыяльную ўзнагароду «Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення». Яе лаўрэатамі становяцца вялікія артысты, якія зрабілі важкі ўнёсак ва ўмацаванне культурнага супрацоўніцтва паміж народамі. Сёлета такой узнагароды ўдастоена выбітная спявачка Эдзіта П'еха. Ва ўрачыстай абстаноўцы свята прагучалі прывітанні фестывалю ад кіраўнікоў дзяржаў-заснавальніц форуму: Прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна і прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча.

Канцэртная праграма адкрыцця прайшла з удзелам Эдзіты П'ехі, Надзеі Бабкінай і ансамбля «Руская песня», Аляксандра Маліпіна, Алёны Ланской, Крысціны Арбакайтэ, Алены Ваенгі, Дзімы Білана, Іны Афанасьевай, Паліны Гагарынай, Анатоля Ярмоленкі і ансамбля «Сябры», Ціны Караль, пераможцы «Еўрабачання-2013» Эмілі дэ Форэст, Ін-Грыд, Розы Рымбаевай ды іншых выканаўцаў.

З першага дня публіку чакала нямала прыемных сюрпрызаў і хвалюючых імгненняў. Рэйтынг самых папулярных канцэртаў узначалілі «Прывітанне з Сан-Рэма», «Канцэрт дружбы. Саюзная дзяржава запрашае...» і начны канцэрт гурта «Руки вверх» з удзелам беларускага праекта «Без білета». На гэтыя фестывальныя мерапрыемствы усе квіткі былі раскуплены імгненна.

У спіс найпапулярнейшых мерапрыемстваў трапіў і XXII Міжнародны конкурс выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2013», які пацвердзіў рэпутацыю сур'ёзнага вакальнага спаборніцтва. Маладыя выканаўцы атрымалі добрую магчымасць заявіць пра сябе на поўны голас, прадэманстраваць свае вакальныя і артыстычныя дадзеныя, выступіўшы перад шматтысячнай аўдыторыяй гледачоў у зале і тэлегледачоў, даведацца меркаванне кампетэнтнага міжнароднага журы на чале з народнай артысткай Расіі Ларысай Долінай.

Гран-пры і 15 тысяч долараў ЗША заваяваў спявак з Польшчы Міхал Качмарэк, які набраў за два туры 196 балаў. Упершыню за ўсю гісторыю «Славянскага базару ў Віцебску» «Залатая ліра» з'язджае ў Польшчу. Усім канкурсантам прысвоена званне дыпламантаў. «Ліра» і I прэмія прысуджаны Сабрыне, спявачцы з Харватыі. II прэмію падзялілі Яўген Андрыянаў з Малдовы і Арчыл з Грузіі. III прэмію — беларускі спявак Аляксандр Салаўёў і румын Крысці. Спецыяльная прэмія імя У. Мулявіна за лепшае ўвасабленне нацыянальнай тэмы, высокае выканальніцкае майстэрства, заснаваная Віцебскім аблвыканкамам, гэтым разам уручана расійскай канкурсантцы Раі Маўсісян.

Як заўсёды яркім, відовішчным і багатым на сюрпрызы быў Міжнародны дзіцячы музычны конкурс «Віцебск-2013». Судзейская калегія працавала пад старшынствам народнага артыста Беларусі Аляксандра Ціхановіча, які адзначыў: «Каб справядліва ацаніць выступленні ўдзельнікаў дзіцячага конкурсу, суддзям неабходна забыцца на тое, што яны прафесіяналы, і вярнуцца ў дзяцінства». Дыплом уладальніка Гран-пры XI Міжнароднага дзіцячага конкурсу «Віцебск-2013» і грашовы прыз — 5 тысяч долараў ЗША — у гэтым годзе атрымала Прэсіяна Дзімітрава з Балгарыі. Першая прэмія, спецыяльны прыз і дыплом лаўрэата прысуджана прадстаўніку Грузіі Ленку. Другую прэмію заваявалі Арсэн Шаўлюк (Украіна) і Аляксандра Лакціёнава (Беларусь). Трэцяя — у Даяны Кірылавай (Расія) і Галіны Дубок (Украіна).

У форме балю прайшло закрыццё Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». На сцэне выступалі папулярныя артысты, упадабаныя віцебскім гледачом: Пётр Ялфімаў, Аляксандр Ціхановіч і Ядвіга Паплаўская, Вікторыя Алешка, Мікалай Скорыкаў, Валерый Скаражонак, маладая ўкраінская зорачка Злата Огневіч, госць з Малдовы Канстанцін Масковіч. Эстраду Расіі прадставілялі Ларыса Доліна, Вольга Кармухіна, Юлія Савічава, Леанід Агуцін, Анжаліка Варум, Наталля Падольская і Уладзімір Праснякоў, Таццяна Буланава, Пётр Дранга, Ева Польна, Улад Сакалоўскі, гурты «Героі» і «Прэм'ерміністр», Аляксандр Коган і многія іншыя, а таксама пераможцы дзіцячага і дарослага конкурсаў «Віцебск-2013».

У палітры фестывальных падзей насычанымі былі праграмы «Тэатральныя сустрэчы», «Фестывальная кінапраграма», «Фестываль без межаў», «Беларусь у сэрцы маім!» Прайшло больш як 60 канцэртаў, спектакляў, кінапаказаў, прэзентацый. Выставачную праграму прадставіў кірмаш народных рамёстваў і мастацтваў «Задзвінскі кірмаш-2013». Тут можна было сустрэць рамеснікаў і народных майстроў з Віцебска, Мінска, Магілёва, Бабруйска, Гродна, Гомеля, а таксама рэгіёнаў Расіі, Украіны і Літвы. На працягу фестывальнага тыдня майстры не толькі дэманстравалі свае вырабы, але і арганізоўвалі майстар-класы. У віцебскіх ганчароў можна было навучыцца асновам ручной лепкі і роспісу па сырой эмалі. Сакрэтамі майстэрства падзяліліся кавалі: прайшлі майстар-класы па мастацкім каванні (Беларусь) і чаканцы манет (Украіна). Украінскія шкловыдзімальшчыкі (Львоў) запрашалі паўдзельнічаць у вырабе прадметаў са шкла. Расійскія майстры адкрылі таямніцы апрацоўкі бярозы (Вялікі Ноўгарад) і лапікавага шыцця.

Усе фестывальныя мерапрыемствы асвятляла каля пяці сотняў журналістаў з розных краін. Яны працавалі як адна вялікая і дружная сям'я. На працягу ўсяго фестывалю тут можна было атрымаць любую інфармацыю! А іншым разам проста адпачыць паміж фестывальнымі пляцоўкамі, выпіць кубачак кавы.

Некалькі ліпеньскіх дзён запомняцца ўсім непаўторнай атмасферай, сяброўскімі сустрэчамі, святочнай чарадой канцэртаў, выставак, спектакляў, адкрыццямі новых талентаў. Штогод запрашаючы да ўдзелу выканаўцаў і калектывы, нават з вельмі далёкіх краін, «Славянскі базар у Віцебску» імкнецца паказаць лепшыя сусветныя культурныя традыцыі патрабавальным беларускім гледачам і гасцям фестывалю. Культура і мастацтва не маюць межаў, яны яднаюць свет і спрыяюць паразуменню паміж народамі. Гэтую няпростую місію годна нясе Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».



Фота з сайта www.festival.vitebsk.by

*Міхал Качмарэк — пераможца Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2013».*



Фота з сайта www.festival.vitebsk.by

*Аляксандр Ціхановіч уручае Гран-пры Прэсіяне Дзімітравай — пераможцы Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу «Віцебск-2013».*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:** 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:** 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:** галоўны рэдактар — 284-66-73; намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:** публіцыстыкі — 284-66-71; крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04; прозы і паэзіі — 284-44-04; мастацтва — 284-82-04; навін — 284-44-04; аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71; бухгалтэрыя — 287-18-14; Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:** Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства** «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2584
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 18.07.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2946
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686